УДК 821.161.3-821
ББК 84(4Беи)
Д13

Рэдагаванне і малюнкі аўтара

**Давідовіч, С. Ф.**

Д13 Збор твораў. Т. 6. Вершы. Гумарэскі. Паэмы. Апавяданні. / Сяргей Давідовіч. — Мінск : А.М. Вараксін, 2017.— 463 с., іл.

ISBN 978-985-7147-84-7.

У шосты том Сяргей Давідовіч уключыў новыя, нідзе не друкаваныя творы, прысвечаныя Радзіме, жанчыне, роднай зямлі.

**УДК 821.161.3-821**
**ББК 84(4Беи)**

**ISBN 978-985-7147-84-7**

## Беларускія жанчыны

Жанчыны...
Беларускія жанчыны,
Святыя дочкі
    матухны-зямлі.
У вас і ў Беларусі —
    лёс адзіны,
Адны дарогі
    па жыцці вялі.

І кожная з вас
    несла прынародна
Свой крыж пакутаў,
    святаў, перамог.
Жылі ў мінулым вы,
    і сёння — годна,
Вы — лепшыя у свеце!
Бачыць Бог.

# Прыгажуні

Абыдзіце Зямлю —
хоць вакол,
хоць сто раз,
Хоць прагледзьце, як кажуць
наскрозь свае вочы,
А жанчын больш прыгожых,
такіх, як у нас,
Не знайсці — ні жанчын,
і ні цудаў дзявочых

Тут — такая зямля —
край блакітных азёр,
Край празрыстых крыніц,
край душы святакрылай
Тут — мая Беларусь —
прыгажосці узор,
Тут і людзі — узор
чалавечнасці шчырай.

Вось і дорыць зямля,
на здзіўленне вякам,
Прыгажунь, што ўсясветна
прыдбалі прызнанне.
Мы да скону вякоў
абавязаны вам
За пяшчоту, за веліч душы,
за каханне.

## Рэальнасць і мары

Захопяць пачуцці і творчы уздым,
Нібыта абдымкі
        каханай жанчыны —
І ты адчуваеш
        сябе маладым,
Ты — самы прыгожы,
        жаданы,
                адзіны!

І думкі твае —
        каляровы туман,
І сам ты лунаеш
        у дзіўным шматквецці,
І мары салодкія — самападман,
Рэальнасць адзіная —
        ты ёсць на свеце.

Ты яснаю зоркай
        мне свеціш здалёк,
І сэрца табе
        лепшы твор прысвячае...
Дык вось жа чаму
        так ляціць матылёк,
Нібыта на краску,
        ў агонь — і згарае.

# Маміны пакуты

Мне ўсё жыццё
　　мая віна баліць —
Была у мамы
　　кожным раннім ранкам
Бяда з бяды —
　　як печ бы распаліць?
Сырым паленнем —
　　мала спадзяванкі.

І кожным ранкам —
　　лета ці зіма,
Адкуль у мамы
　　быць маглі спадзеўкі,
Калі штораз —
　　ні смаляка няма,
Ні пашчапанай сухенькае дрэўкі?

Чакала хата
　　раніцай цяпла.
А маме ля яе —
　　жыццё няміла.
Распальваючы печ —
і лёс кляла,
　　І нервы мама
　　кожны раз паліла.

Цяпер, «разумны»,
　　бачу праз гады:
Печ распаліць —
　　адкінуць спраў палову.
А трэба ў печы
　　наварыць яды,

А трэба ж бегчы
падаіць карову.

І зноў спраўляйся
падстаўляць плячо,
Спраўляйся ў гаспадарцы завіхацца —
Пасыпаць куркам,
накарміць свінчо,
Сям'і даць есці і —
ў калгас на працу...

Я быў блазнюк яшчэ —
даруй мне Бог.
Чаму ж тады я, ёлуп, ёлкі-палкі,
Меў вольны час,
а маме не памог,
Не нашчапаў лучыны для распалкі?

*

Мы побач з лесам
у той час жылі.
Дык што? Шавец —
і басаnож застаўся?
Бярозы, сосны вунь —
бяры, палі,
Зразай, шчапай, сушы —
рыхтуй, не баўся.

О не! Да дроў —
занятасці сцяна.
Бацькоў штодзённа
«заядала» праца
Ў калгасе —
ад цямна і да цямна,
А потым трэба
й дома дагледацца.

Дык што? Зразай, шчапай,
сушы, палі?
Зразалі... з плеч у печ
сырнёг-палена.
Займацца дроўмі
не было калі,
А трэба ж накасіць
кроўцы сена.

А бульбачка —
наш залаты запас —
І шмат чаго рабілі,
зубы сцяўшы.
І гэта ўсё —
ў паслякалгасны час,
Не сеўшы,
не даеўшы,
не даспаўшы.

І ведалі — хоць воз,
хоць два цягні
Калгас вам не заплоціць —
анічога.
Адна ў калгасе плата — працадні,
Але й калгас тады
не меў другога.

І хоць усе ў сям'і
гібелі мы,
Нярэдка мама
з горыччу ўздыхала:
— Каму дык па каму,
мне ж — два камы...
І праўда —
маме горш за ўсіх хапала.

## Нацыянальны скарб

Прыязджае ў Беларусь замежжа —
Ў Беларусі любяць гасцяваць.
— Прыгажосць — жыцця вяршыня, вежа,—
Ад гасцей наехаўшых чуваць.

Маладыя й сталыя мужчыны
Кажуць смачна ўслых праз «ваў» ды «гут»:
— Самыя прыгожыя жанчыны
Толькі ў Беларусі!
Толькі тут!

Мужыкоў мясцовых памяркоўнасць
Не здзівіла гэта «навіна».
Мы пра беларусак, іх чароўнасць,
Без замежжа ведаем здаўна.

Мы нацыянальны скарб жаночы
За багацці ўсе не аддадзім.
— Так што не вылупілівайце вочы,
Замяжоўцы!
Так і скажам ім.

## Мадоны

Чароўныя жанчыны Беларусі —
Бабулі,
Маці,
Жонкі — ўсе, усе.
Марыі, Зосі, Гэлькі, Ганны, Тусі —
Няхай вам лёс
          удачу прынясе!

Вы і пад горам
          не згіналі спіны,
Прад смерцю не схілялі галавы —
Ў ліхія, трагедыйныя гадзіны
Плячо Радзіме
          падстаўлялі вы.

Перажылі вы мужна
          час шалёны,
Вайна, галеча, голад —
          за спіной.
Вы — нашы непаўторныя Мадоны —
Дзяўчаткі і жанчынкі з сівізной.

## Сваё імгненне

Ідзе насустрач
незнаёмая дзяўчына,
Не, не ідзе — яна плыве,
здаецца мне.
Услед гляджу —
не аглянуцца немагчыма,
Аслупянеў зачараваны,
нібы ў сне.

Я ўсё глядзеў услед
на грацыёзнасць гэту,
І так шкада,
што не сустрэнемся мы зноў.
І я гатовы быў ляцець
хоць на край свету
За незнаёмкай без ваганняў і прадмоў.

Не паляцеў і не пабег,
стаяў застылы,
Відаць, таму, што ў нас
у кожнага свой час,
Сваё імгненне —
і тады кахання крылы
Нясуць насустрач,
назаўжды яднаюць нас.

## Мамы слова

Мне дасталася мова маці,
А мамы мова —
горкі лёс,
Бо бульбінка —
была за шчасце,
Няшчасцем быў
нядолі воз.

І дзіўна — я не чуў ніколі,
Каб мама некага кляла.
Яна і ў час найгоршай долі
Дабрасцвярджальнасцю жыла.

Жыццё пасля вайны —
не гулі,
Ўсе выжывалі —
хто як мог.
А мы у той нястачы чулі
Адно ад мамы:
— З намі Бог.

Ён дапаможа,
знойдзе выйсце,
І будзем жыць, як да вайны...
І голад адступаў кудысьці,
Ды зноў вяртаўся ў нашы сны.

Зямлянка.
Жудасць.
Час суровы,
Навокал —
акіян бяды.

Нас ратавалі мамы словы
І абнадзейвалі тады.

Я ўспамінаю —
нібы дзіва,
Як у сячкарні тых падзей
Жыла матуля незласліва
І да жыцця,
І да людзей.

## Схіліцца перад вамі

Мы ўсе павінны
ў ногі вам схіліцца,
Схіліцца —
і удзячна памаўчаць,
Мінулага жанчыны, працаўніцы,
На лёс цяжкі ваш
можна й памаліцца,
На ім — нядолі
й мужнасці пячаць.

Не паспявалі
сохнуць вы ад поту,
Узорвалі пустэчы-дзірваны,
Не адыходзілі
ад кроснаў,
калаўроту,
Вычэсвалі з кудзелі каўтуны.

У працы не ўступалі
вы мужчынам,
Для вас быў адпачынак —
рэдкі госць.
І хоць вялікі свет
здаваўся клінам,
Вы берaглі жаноцкасць,
прыгажосць.

Жылі з нядоляй,
як з адзінаверцам,
І Бога ўспаміналі
ўсё часцей.

Галоўны скарб
 выношвалі пад сэрцам —
Свае крывінкі родныя —
Дзяцей!

Вы днём на працы,
 ноччу — ля калыскі,
Аб будучыні дбалі вы ў той час.
Ад нас, нашчадкаў,
 вам паклон наш нізкі,
Рака жыцця цячэ
 адтуль — ад вас.

Святая памяць —
 часу непагаснасць,
Мы — парасткі,
 вы — нашы карані.
Убачыць бы вам
 свой працяг — сучаснасць,
Эх, зазірнуць бы вам
 у нашы дні!

## Беларусачка

Блакітная спадніца,
          боты, хустачка,
Прыветлівасць струменіцца з вачэй —
Ідзе на ферму
          ранкам беларусачка,
Спяшаецца даіць кароў хутчэй

Яна даільных апаратаў лінію
Уключыць па-майстэрску,
          са смяшком.
Кароўкі са сваёю гаспадыняю
Дзяліцца рады
          цёплым малаком.

Хоць праца беларусачкі нябачная
Для гараджан —
          у тым няма бяды.
Яны ухваляць:
— Ах, якое смачнае
У нашых крамах
          малачко заўжды!

## Маё натхненне

Я тэм узнёслых раскрыў нямала,
Тварыў, як у чароўным сне.
Тваё каханне мяне натхняла,
Твая пяшчота спрыяла мне.

Мяне узрушваў твой погляд мілы,
Душу узносіў жыцця мажор.
Я адчуваю і сёння крылы —
Натхнення крылы,
Лячу да зор.

Не наглядзецца,
Не намаліцца
На вобраз родны,
          святы заўжды,
Мая жанчына,
          мая зарніца,
Маё каханне на ўсе гады.

## Восьмага сакавіка!

Я восьмага сакавіка —
Жаночы дзень,
люблю як, мы усе.
Каханне ў сэрцы, а рука
Абранніцы сваёй
букет нясе.

Але штогод у гэты дзень, штораз,
Мы чуем словы,
пэўна, з галавы,
І непрыемна ад дзяжурных фраз:
Вы самыя!
Вы лепшыя!
О вы!

Мужчыны ўсе — хоць пі іх нашчака —
Нібыта лісы,
як царкоўны звон.
Дзевятага ж сакавіка
Вяртаецца звычайны лексікон.

Жанчын яны вітаюць праз адну,
У поглядзе —
будзёных думак цень...
О, каб каханне і вясну
Дарылі мы жанчынам
кожны дзень.

## Такая вось жанчына!

Жыццёвае улонне
Падзеямі віруе.
Жанчына наша сёння
Сучаснасцю кіруе.

Убок яна не зверне,
Да мэты мужна дойдзе.
Жанчына — і на ферме,
Ў культуры й на заводзе.

Жанчына й на эстрадзе
У спорце, медыцыне.
Жанчына і ва уладзе,
Й пагоны носіць чынна.

Сям'я заўжды ў ажуры,
Каб крок назад — ніколі!
Яна — ў літаратуры,
Ў парламенце і ў полі.

І ў міністэрскім крэсле
Кіруе.
Малайчына!
Сама свой лёс узнесла —
Такая вось жанчына!

## Мама

О дзяўчаткі і жанчын суквецці!
Вам сваю душу адкрыю я:
Самая прыгожая у свеце
Мама незабыўная мая.

Хоць яе не стала —
я штодзённа
Размаўляю з мамай, як з жывой.
Для мяне яна —
мая ікона,
Сонейка жыцця над галавой.

Для мяне яна — мая калыска,
Мой шчаслівы, непаўторны час
О, як жа далёка ўсё
і блізка —
Ўсё, што назаўжды яднае нас.

Я без мамы ні адной хвілінкі
Не пражыў, не помнячы яе.
Вы прабачце, мілыя жанчынкі,
Мне за думкі шчырыя мае.

## Мой дружа – лес

Мой дружа — лес!
Сяброўкі — пералескі!
У свой тут час
шчыруюць без сяўбы:
Вясной —
блакітнавочыя пралескі,
Улетку — ягады,
а восенню — грыбы.

Зімой — бялютка,
сон і адпачынак,
Дзесь — дзятла стук,
ледзь чутны піск сініц,
Ды дзе-нідзе —
з рабінавых галінак
Звісае чырвань
ягад-завушніц.

Мой дружа лес,
здаўна — сапраўдны дружа,
Гады не сталі
паміж нас сцяной.
Ці спёка,
ці ліюць дажджы,
ці сцюжа,
Ці расставанні —
ты заўжды са мной.

## Узаемнасць

Ці вецер голле разгайдаў?
Ці лес мяне пазнаў, вітае?
О як мой дружа
 шмат мне даў!
Любоў яго —
 любоў святая.

Яна — ўзаемная у нас
І па-другому быць не можа.
Нас ссябраваў
 імклівы час —
Надзейна, шчыра і прыгожа.

Мае малечыя гады
Маю прадфінішную сталасць,
Любоў да лесу —
 назаўжды
Свядома з лесам аб’яднала.

## Аднагодкі

Фінал жыцця —
далёка не салодкі.
Вось ельнік —
і над ім гады гулі.
Мы з ельнікам амаль што аднагодкі,
Спачатку мы —
плячо ў плячо раслі.

Ніякага няма тут чараўніцтва.
Мы аднагодкі з ім?
Чаму і як?
Калісьці вучняў нас,
вялі ў лясніцтва
Высаджваць на дзялянках маладняк.

Вось ён і рос,
пасаджаны і мною,
Той, пад нагамі ледзьве бачны “лес”.
А сёння ён узрос,
стаіць сцяною,
Вяршынямі імкнецца да нябес.

З’яднаны мы
адной жыццёвай нішай,
Для нас закон прыроды —
не сюрпрыз.
Яму — мацнець, расці
ўсё вышай, вышай,
А мне — слабець, слабець,
расці уніз.

# Прытулак

Лес — не проста лес —
Прытулак
Для шматлікага звяр’я,
І для птушак,
Для рачулак,
І для нашых з вамі «я».

Нашы «я»,
На жаль, бяздумна
І бяздушна нішчаць лес.
Ад таго балюча й сумна,
Быццам розум з глузду злез.

Быццам людзі ў свеце гэтым
Аднадзёнкі-матылькі.
Лес жа наш зімой і летам
Задуменны, гаваркі —
І прыветлівы такі.

## У лесе, як дома

Я ў лесе, як дома,
а дома я штось
Па лесе сумую —
замкнулася кола.
Няспынна кручуся
вавёркай у коле,
Прыцягвае лес
і яго прыгажосць.

Вось бор —
і зялёнай iгліцы карункі,
І золата соснаў —
куды ні зірні.
Шчыруе душа тут
і ўтуляцца думкі
Да неразгаданай
нікім цішыні.

Вось гаю бярозавы —
ветлівы, шчыры
У ім недарэмна
салоўка пяе.
Расплеценых косаў
зялёныя ліры
Вас прымуць пяшчотна
ў абдымкі свае.

Вунь шчыльныя елкі,
зусім не далёка
Застылі — і лапкі
вісяць «да калень»
А ў лесе яловым
і ў дзень яснавокі,

Хоць сонца на небе —
        пяшчоціцца цень.

Не любяць лясную
        гармонію гэту
Чамусьці дубы —
        кожны сам па сабе.
Па ўзлессі, па полі,
        яны ўрассыпную
Разбегліся — ноша
        свая на гарбе.

Вунь клёны, рабіны —
        ці ж іх пералічыш,
Вунь ясень кудлаціцца —
        рэдкі жыхар.
Крутнешся наўкола —
        і кожнаму зычыш
І доўгія лета,
        здзяйсненне ўсіх мар.

## Сум павіс у лесе

Кастрычнік...
Сум павіс у лесе,
Пяшчоты сонечнай няма.
Натурылася паднябессе,
Здалёку дыхае зіма.

Хацеў бы схлусіць,
    ды не схлусіш —
Былое прыйдзе толькі ў сны.
І блізка локаць,
    ды не ўкусіш,
Вітаць зіму міжволі мусіш —
Чакаць не прычакаць вясны.

## Абуджэнне

Ўзыходзіць сонейка —
яму не спіцца,
Наўскрайку неба
квеціць чырвань шчок
Клён з лесу выйшаў
ранкам наталіцца,
Не ведае —
ў які падацца бок.

За даляглядам —
та́емства завеса,
А тут —
бярозак беззаганных бель.
Аблокаў шоўк —
як ветразі, над лесам,
А лес — як велізарны карабель.

А вунь і мора —
ніў жытнёвых хвалі
Шлюць прывітанне
лесу-караблю.
І прасвятлелі сонечныя далі,
І новы дзень спусціўся на зямлю.

# Мары аб шчасці

Ў гаі бярозавым
        такі празрысты дзень,
Такі лунае дух
        узнёсла-чысты.
І промні сонца,
        і блакітны цень
Адно аднаму —
        не антаганісты.

Бярозы ўсе —
        ў зялёным сарафане,
Што ні кажыце —
        а убор багаты.
Сталейшыя —
        як велічныя пані,
Малодшыя —
        як сціплыя дзяўчаты.

А каб бярозы
        тут жылі з ахвотай,
Каб сум не прагнуў
        іх заўчасна старыць,
Дубок сярод бяроз
        прыжыўся ўпотай
І жалуды спяліць —
        аб шчасці марыць.

## Што табе сніцца?

Бор — задуменны,
Не тары-бары
Тоіць нязменна
Нейкія мары.

Шчыры, адкрыты,
Вечна зялёны.
Бронзай памыты,
Безабаронны.

Ён не сутуліць
Стромкія плечы.
Бор і прытуліць,
Боль наш залечыць.

Пахне тут хвоя,
Пахне жывіца.
Дзе тваё мроі?
Што табе сніцца?

## Упартая кума

Хоць лета-восень —
тэрмін свой,
Ва ўсіх пароўну —
дзякуй Богу.
Зіма ж валтузіцца з вясной,
Не хоча саступаць дарогу.

Зіму піхае сакавік:
— Даволі, адгула сваё ты!
Ужо апошні снегавік,
Як кажуць,
памачыўся ў боты.

Ды не, ўпіраецца зіма,
Ў сакавіка хоць дзень украдзе,
І гэта ўпартая кума
Яшчэ не раз заснегападзе.

## Кахання вясна

Дзесь жывеш ты
за сонечнай даллю,
Я ж, адкінуўшы спраў чараду,
Ў лес падамся —
і ў ноч на Купалле
Дзіва —
папараць-кветку знайду.

Не сарву я яе,
тут узросшай,
Тут, дзе цемра
й вакол не відно.
Папрашу ні багацця, ні грошай,
Загадаю жаданне адно.

Я жадаю ні многа,
ні мала —
Тут, са мной — думка-мара адна:
Загадаю, каб нас аб'яднала
Назаўсёды кахання вясна.

## Водар надзеі

Гады прыгнечваюць. Яны
Не дазваляюць нам фарсіць...
Што б выцыганіць у вясны?
Што б у яе мне папрасіць?

Я выгляд сіраты зрабіў,
Прашу: — Калі магчымасць ёсць,
Вярні мне тое, што згубіў,
Вярні, вясна, мне маладосць.—

Вясна і вухам не вядзе,
Я зноў, як кажуць, на бабах.
Узрост мой і далей брыдзе,
Як і дагэтуль — ох ды ах.

— Тады хоць сілы мне вярні!
Я зноў крычу у твар вясне.
Яна, як і раней — ні-ні,
Ні сіл, ні маладосці мне.

Бязвыйсце гнула да зямлі
Маю спіну, маю душу.
— Ты хоць надзею мне пашлі!
Я ў маладой вясны прашу.

І дзіва! Я — памаладзеў,
Бадзёрасці адчуў прыліў.
Я ачуняў і неўспадзеў
Надзеі водар піў і піў.

# Што такое вясна?

Сядзелі дзед і дзед на лаўцы —
двое.
Адзін сказаў:
— Вясна ўжо на двары...
— Вясна прыйшла?
А што гэта такое?
У першага спытаў другі стары.

— Ты што, вясны не ведаеш?
— Забыўся...
Калісьці ведаў, а цяпер вось — не.
Тут першы дзед
ледзь з лаўкі не зваліўся:
— Ці ты здурнеў?
Ці гэта сніцца мне?

— Дык, можа, нагадаеш, растлумачыш? —
Да першага звяртаецца другі.
— Вясна тады,
калі ты дзеўчын бачыш,
Танюткі стан,
дзве стройныя нагі.

Калі, струхнелых нас,
іх вусны вабяць...
— А жонкі як?
Якая ім цана?
— Ды жонкі яшчэ горай нас абабяць,
Там, побач з імі,—
восень, не вясна.

Раптоўна дзед другі
спыніў гамонку:
— Памог ты!
Дзякуй!
Успаміны п’ю!
Пайду я лепш дамоў,
зірну на жонку,
Хай восень там убачу — ды сваю.

## Надыход вясны

Вясна за лютым,
як падман,
Быў вялым сакавік,
няспешным.
Вясна ж выконвае свой план —
Празрыстых ледзяшоў арган
Яе заўважыў самым першым.

І хоць цяпла
пакуль няма
І затрымаліся завеі,
Сакавіка адно імя,
Хай не цяпло нясе —
надзеі.

## Краса прыроды

О красавік!
Краса прыроды!
Бывай, зімовы доўгі сон!
Зноў птушак з выраю —
чароды
Пад крык узрушаных варон.

П'юць сонца гоні без ашчады,
Вунь і пралескі зацвілі.
Гудуць пасля зімы-асады
На вербах пчолкі і чмялі.

Усё прыход вясны святкуе,
Ўсе дачакаліся цяпла.
Жыццё прачнулася, пульсуе,
Прырода-маці ажыла.

## Вясной не спіцца салаўям

Вясной не спіцца салаўям,
Іх спевы святасць набылі,
Як напамін адвечны нам,
Што ёсць каханне на зямлі.

І сэрцы б’юцца ўсю вясну
Узнёслым рытмам, уразнос,
Бо і каханню не да сну —
Пульсуе салаўіны лёс.

Не спіцца салаўям вясной,
Ноч казачнасцю поўніцца.
Хто ведае, якой цаной
Даецца ім бяссонніца?

## Падманная надзея

Якія могуць быць пытанні?
Прыйшла вясна — душы уздым.
І сорам позні, й смутак ранні,
Рассейваюцца, быццам дым.

І выпрамляецца разора
Жыцця, скрывіў якую лёс,
І тое, што клялі мы ўчора,
Самападман вясной узнёс.

Жыццё — змаганне, эпапея,
Імкненне у абдым зімы.
Вясна ж — падманная надзея,
І ўсё ж падману верым мы.

## Сэрца адтае

Пад сонцам вясеннім
  заплакаў лядзяш,
Танчэе і тае —
  якія тут гулі?
Вароны ўтварылі
  на дрэвах кірмаш,
Гвалтуюць —
  вясны набліжэнне адчулі.

Хоць снег,
  як адбеленае палатно,
А неба паціху
  блакіціць аблічча,
Нібыта за зімку
  настыла яно
Й чакае цяпла,
  і вясну ў госці кліча.

Праз месяц прачнецца
  й зямелька ад сну.
І самае чэрстваe сэрца адтае,
І ўславіць жаўрук
  трапяткую вясну,
І з новаю сілай
  жыццё забуяе.

# Чаканне

Шчыруе каляндарная вясна
І з ёй прырода і душа жывая.
Але вясна жыцця —
          ўсяго адна,
Балюча старасць гэта адчувае.

І ўсё ж нязменна —
          сталы і стары
Заўжды да маладой душы належыць,
Хінецца ён —
          да веснавой пары,
Якая штогадова
          душы цешыць.

І самы састарэлы чалавек
У марах безнадзейнасці блукае.
І хоць яго канчаецца ўжо век,
Ён ад вясны якісьці цуд чакае.

## Найвялікі цуд

І ручаёк вірлівы,
І матылёк шчаслівы,
І салавейка, што ўсю ноч пяе,
Усе вясну гукалі,
Усе вясну чакалі,
Усе ўслаўляюць здольнасці яе.

А здольнасцяў не мала —
Яна навыкрасала
З далоняў шчодрых найвялікі цуд:
Жыццё тут на здзіўленне,
Святкуе адраджэнне —
І кожная душа, і кожны кут.

О чараўніцы вёсны!
Зноў вытчуць вашы кросны
І быль жыцця, і казку не адну.
І мары, і надзеі,
Каханым прывілеі —
Насіць у сэрцы вечную вясну.

## Вясна!

Вясна!
І ў гэтым слове свята.
Вясна!
Вясна — не проста гук.
Вясной ва ўсіх надзей багата,
Вясной часцее сэрца стук.

Вясна!
Нібыта ўсё нанова.
Вясна!
Яна малодзіць нас.
Вясной ўсё бачыцца ружова.
І дзіўна, нібы першы раз.

Вясна!
Ды вечным будзь каханне!
Вясна!
Ды спраўдзіць заклік мой!
Вясна... вясной расчараванні
Пакутлівее, чым зімой.

## Ён, яна – адно

— Я цябе кахаю, мая краска!
— Я цябе кахаю, любы мой!
— Без цябе, адзіная, не жыць мне!
— Мне таксама без цябе не жыць!
— За табой пайду,
хоць на край света!
— Я таксама за табой пайду!

*

Ёй — шаснаццаць,
Хлопцу — васямнаццаць.
Першае каханне — ён, яна.
Як стрымаць пачуцці,
не прызнацца?
Ён, яна — адно.
Прыйшла вясна!

# Душа і вясна

Я даспяваю —
            мне б не пераспець
І падаліцай долу
            не зваліцца.
Во чалавек!
Ён кратаецца ледзь,
А вось вясна —
            душу хвалюе, сніцца.

Жыццёвая дарога —
            не шаша,
Дый старасць у канцы —
            нас апярэдзіць.
Няхай бы састарэла і душа,
Дык не!
Яе штогод вясна вярэдзіць.

## Выток вірлівы

Паводка, крыгі на рацэ,
Туман запаланіў нізіну...
Ды і рака жыцця цячэ
Праз нашы лёсы безупыну.

Рака жыцця цячэ з вясны,
Адтуль яе выток вірлівы,
З той бесклапотнай стараны
Бярэ яна разбег шчаслівы.

І працякае той разбег
Праз лета, восень, снежань стылы.
Імклівасць — плыні абярэг,
Губляе паступова сілы.

Як бесклапотнае дзіця,
Яна цякла празрыстай сінню.
Крутнулася б рака жыцця
Да той вясны сваёю плынню.

Ды не пускаюць берагі —
Гады, што перашкоды чыняць.
І хутка лёду абцугі
Сустрэнуць плынь і —
сціснуць, спыняць.

## Чужы баль

Разгар вясны...
А сэрцу сумна.
Бэз закіпеў,
          а я панік.
Няўжо адзорыў вольнадумна
Надзей-хімер апошні міг?

Мой зорны час —
          за прывід-даллю,
Не далячу туды — прабач.
Не ўдзельнік я
          чужога балю,
А незапрошаны глядач.

Тут шумна п’ецца,
          смачна есца,
На бале гэтым — гамана.
Другім я саступаю месца,
Другім —
          бо гэта іх вясна.

## Да лета хінуся

Да лета хінуся —
　　　нібыта да маці,
А лета так мала
　　　на нашым вяку.
Люблю спаць на сене духмяным —
　　　не ў хаце,
Памарыць люблю на траве, у цяньку.

Гасціннаму лету удзячны за гэта,
Прытуліць яно,
　　　прыхіне яно нас.
І сам — бы часцінка
　　　кароткага лета,
Былінка, якая завяне праз час.

Шаўковыя травы
　　　і сціплыя краскі
На лузе, у полі —
　　　бярозы і бор.
Я выйшаў з прыроды,
　　　нібыта бы з казкі,
У гэта жыццё,
　　　на бязмежны прастор.

У года для лета —
　　　тры месяцы-долькі,
Прабачце астатнія вершу майму.
Я цёплае лета люблю,
　　　ды не толькі —
І восень люблю,
　　　і вясну, і зіму.

## Дажынкі

Рассунуў жнівень хмар аблогу —
Хаця бы колас даспяліць.
Жніву пракладвае дарогу
І сонца — рупіцца, не спіць.

І ранічка ўстае з пасцелі,
І дні адчулі сіл прыліў.
Бо і палі «пазалацелі»
Жытнёвай выспеласцю ніў.

І цешацца пшаніца, жыта —
Багаты будзе умалот.
Па-гаспадарску, працавіта,
Жнуць хлебаробы кожны год.

Жнуць, не губляюць і хвілінкі,
Хоць пот — ад галавы да пят.
Затое слынныя дажынкі
Для хлебаробаў — свята свят.

# Халоднае лета

Я не па сезону апрáнуты —
Гэта
Віна не мая,
што на мне паліто.
Што можа быць горай
халоднага лета?
Адказ адназначны —
нішто і ніхто.

Што выгляне сонца —
няма і намёка,
Што пазагараеш —
прапала, пішы.
І неба, нібыта бы
мутнае вока,
Таму і не лепей
надвор’е душы.

Узрушана з летам
чакаеш спаткання,
Цяпла пасля стыні —
не наадварот.
А лета халоднае —
расчараванне,
Сустрэчу з цяплом
адхінаеш на год.

# Уладарыць ліпень

Ах, лес які зялёны —
        кіпень!
Аб безлістоўі —
        успамін.
Па ўсім відаць —
        ўладарыць ліпень,
У лецейка —
        сярэдні сын.

На кожным лузе —
        стог за стогам,
Пачаўся першы сенакос.
Пад небам ліпеньскім —
        пад Богам,
І мой распачынаўся лёс.

Вайны Малох страшэнна бухаў,
Паўсюдна жудасна было.
А лецейка —
        як павітуха,
Маё раджэнне прыняло.

З таго разбэрсанага года
Вайна прыходзіць
        толькі ў сны.
І радасна —
        што мы й прырода
Жывем так доўга без вайны.

## Лета

Шмат у нас заняткаў ёсць,
Абавязкаў —
Хобі,
Праца.
Лета ж — як жаданы госць,
З ім бы век не расставацца.

Шаўкавее сенажаць —
І бяжыш, як закаханы,
Лугавыя краскі рваць,
Непаўторны цуд духмяны.

Быццам увабраў букет
Колер прыгажунь-вясёлак.
Пахне мёдам ліпы цвет
І хвалюе, вабіць пчолак.

Між чароўнай любаты
Як не крыкнуць на паўсвета:
— Ну чаму ж так мала ты
Цешыш нас сабою, лета?

## Не лындзіць лета

Я выйшаў —
не сядзіцца ў хаце,
Буяе лета,
шмат падзей.
Вышэй калена сенажаці,
Жытнёвы колас — да грудзей.

Бясхмар'ем неба ганарыцца,
А жыта ліпеньскае — не,
Бо трэба коласу наліцца,
Няхай хоць дробны
дождж ліне.

Не лындзіць лета — рукі ў бокі,
Шчыруе — толькі заўважай,
Бо летам набірае сокі
Вяршыня працы — ураджай.

## Першы крок

У чэрвені яшчэ
Спявае салавей
І неўпрыкмет цячэ
Час чэрвеньскіх начэй.

І сад яшчэ цвіце,
Хоць блякне пакрысе.
Сарока на хвасце
Навінаў шмат нясе.

Мы рады цеплыні.
А чэрвень — жарты ў бок,
Распачынае дні,
У лета — першы крок.

## Краявід

Агарнуўся думкай бор,
Думкай патаемнаю.
Вецер вытанчыў узор
Хмаркай белапеннаю.

Штосьці шэпчуць між сабой
Спелы колас з коласам.
Клён стары перад вярбой
Выглядае молада.

Марыць клён —
Штодзень, штогод,
Што з вярбой ажэніцца.
А рамонкаў карагод
Перад імі пеніцца.

## Ну й ноч!

Настала ноч —
        і спаць пара,
Ды летуценнікам не спіцца.
На неба край
                лягла зара —
Вясёлкавая чараўніца.

Таполяў рад,
        як на парад,
У цемры выраслі, бы зданi.
Змяшаўся з ноччу
        хор цыкад,
Ён услаўляе цемру-пані.

Ну й ноч!
Хоць выклікай на «біс» —
Любоціна, замілаванне.
Вунь зорачка
        нырнула ўніз —
Эх, не паспеў
        шапнуць жаданне!

## Наша лета

Хто ў Турцыю, ў Егіпет —
нібы гусі,
Хтось, хоць да чорта ў зубы —
на край света.
Імчаць на адпачынак з Беларусі,
Прабач ім, гэтым людзям,
наша лета.

За прывіднай Жар-птушкай
любяць гнацца
Даволі другасортных мараў дзеці.
Ці ж здолее замежжа параўнацца
З прыродай нашай,
лепшай ва ўсім свеце?

Ну што ж?
Ім не насыпеш на хвост солі,
Няхай запасяць там загар на пузе.
Замежжа любяць тыя,
хто ніколі
Рамонкаў летам не збіраў на лузе.

Той, хто ля рэчкі
не паліў паленне,
Той, хто не бачыў,
як растуць суніцы,
Той, хто ні разу
не паспаў на сене,
Той, хто не піў
з сцюдзёнае крыніцы.

І што з таго,
што там над галавою
Чужое сонца так спякотна свеціць?
Ці ж можа пальма-жэрдка
ці сыквойя
Так, як бярозка,
шчыра вас прывеціць?

## Я з імі зжыўся

Шчыруюць летам птушачкі-пяюхі,
Ліюцца промні сонца на зямлю.
О лета!
Што мне камары ды мухі!
Я лецейка такім, як ёсць люблю.

Люблю я чэрвень —
        да цяпла імклівасць.
Люблю я ліпень!
Ліпень — лета пік.
Люблю я жнівень за яго руплівасць —
Я з імі зжыўся,
        я да іх прывык.

Я кожнага у думках абдымаю,
Іду да іх без аніякіх віз.
Заўжды ад іх з удзячнасцю прымаю
Дажджы, спякоту —
        кожны іх капрыз.

На сконе лета —
        і мае прывычкі
З жаданнямі спяваюць ва ўнісон.
Я ў лес бягу,
        бо першыя лісічкі
Спрабуюць распачаць грыбны сезон.

## Някідкі дзень

Я крочу, а за карак
Ліецца і ліецца.
Так нізка ходзяць хмары,
Прыгнуўся бы, здаецца.

Ўсё шэрасцю закрыта,
Гібее дзень някідкі.
І ён прамок, нібыта,
Да костачкі, да ніткі.

Ці ж трэба гэта лету,
І так якога мала?
Жыцця старонку гэту
Надвор’е сапсавала.

## Як не любіць яго!

Як доўга цягнецца зіма...
Як хутка пралятае лета —
Крутнуўся — і яго няма,
Ледзь рот раскрыў —
        і песня спета.

Вось чэрвень узышоў на трон,
І думкі ўжо будуюць планы —
Аж цэлых дзевяноста дзён
Падораць сонечныя ванны.

Падораць...
Але хуткі час
Зноў крэсліць нашыя намеры,
Ужо да нас,
        чарговы раз,
Зноў восень
        стукаецца ў дзверы.

За ёю зноў паўзе зіма,
Маланкай пралятае лета —
Як не любіць яго за гэта!

## Ля ганку

Стаю ля ганку
Сваёй хаціны
І чую зранку
Плач жураўліны.

Над наваколлем
Нябачна кліну.
Бязлістым голлем
Дрыжыць асіна.

Анчар — і носу
Не выткне з будкі.
Туман бялёсы
Паўзе, як чуткі.

Дні сонцапёку
Адшчыравалі.
З далёк-далёку
Міражаць далі.

Навіслі хмары,
Няўтульна, золка.
І толькі мары
З душой анёлка.

## Восень зачаруе

Восень здзівіць!
Восень зачаруе!
Выставіць шматквецце на паказ.
Восень — як апошні раз шчыруе,
Быццам ладзіць баль
апошні раз.

Год — імгненне,
і невыпадкова
Хутка так калейдаскопіць час.
Год — і восень
вернецца нанова,
Каб здзіўляць і зачароўваць нас.

Восень — рыжай
конніцай алюрыць
На адвечны залачоны трон.
Год — і восень
зноўку завіхурыць
І захопіць нас
у свой палон.

# Восеньскі пасаг

Што восень — сум ці свята?
Ура календару?
Усё ўзарана, зжата,
Пасеяна ў пару.

Паспелі ўсе прыбрацца,
Ідзе да скону год,
Падводзіць вынік праца,
Буйны абцершы пот.

Не, восень адназначна —
Царыца, ёй паклон.
І кожны ёй удзячны,
Хто не лічыў варон.

Хто быў да працы прагным,
Не страшны чорт таму.
Ён з восеньскім пасагам
Пераджыве зіму.

## Шматлікае аблічча

І лес прыціхлы
зразумець паспеў —
Ад восеньскай пары
нідзе не дзецца.
Злятае лісце
з задуменных дрэў —
І на душу
нябачны сум кладзецца.

То ззяе сонца,
потым — дождж ліне.
Свая, здаецца, восень —
і чужая.
Яна — то зачароўвае,
то — не,
Прываблівае восень
і пужае.

То — зранння сінь,
то вечарам туман,
То ў хату гоніць,
то — у вырай кліча.
Не, пані-восень —
не двухлікі Ян,
У восені шматлікае аблічча.

## Лістападзе-браце

Цябе назвалі неўпапад,
Не ўсё прадумаўшы, калісьці.
Які ты, браце, лістапад,
Калі даўно апала лісце?

А, можа, й ёсць —
　　　　курам на смех,
Гібеюць дрэвы, як шкілеты.
Нярэдка —
　　　　па калені снег,
Вятрамі злоснымі абпеты.

Цяпла, ні ўтульнасці няма,
Гулёна-кот зашыўся ў хаце.
Табе, бывае, і зіма
Зайздросціць, лістападзе-браце.

## Плён альбо няўрод

Далёка да зімы —
        і не далёка,
Нярэдка поўнач
        холадам дыхне.
Хоць восень прыгажосцю
        лашчыць вока,
Усцешаны мы восенню і не.

Няспынны ён —
        усіх часоў гадзіннік
Што дзень —
        то новы стрэлак абарот.
І хоць тут трэсні ў лоб —
        падводзяць вынік
Усе і ўсё —
        быў плён альбо няўрод.

Душу на тым,
        што здзейснілася, грэеш,
І адчуваеш
        творчых сіл прыліў.
Няўдалы час мінуў —
        не перасееш
Як перасейваюць
        няўсхожасць ніў.

## Восеньскае свята

Які ў кастрычніка камзол!
Шматкаляровы і стракаты.
Нібыта вогнішчы вакол —
Дык гэта ж — восеньскае свята.

І дрэва кожнае, і куст,
І навакольныя абшары
Ўяўляюць вытанчаны густ
І фарбаў казачныя чары.

Куды ні кінься, ні зірні,
Усё шматкалярова ззяе.
І шчыра сонца з вышыні
Майстрысе-восені спрыяе.

## Вераснёвая палітра

Фрактуе восень жнівеньскую мітру,
Пакуль што сціпла
лету патрафляе.
І ўсё ж у вераснёвую палітру
І жоўты колер
пакрысе трапляе.

Пакуль буяе лес —
яшчэ не хутка
Апалы ліст пад ногі сумна ляжа,
А верасень бывае —
ходзіць чутка —
І жніўню наўздагон
свой форс пакажа.

Хоць верасень балюе правамочна,
Цішэюць і радзеюць
птушак спевы,
І ўсё часцей,
а з часам — відавочна,
Садзіцца восень
адпачыць на дрэвы.

## Расталі журáўліныя галоскі

Крылаты клін адгаласіў і сціх,
Расталі жураўліныя галоскі,
Свінцовасць неба
праглынула іх —
Скідае лес
з плячэй сваіх абноскі.

Ад ветру дрэвы гнуцца,
як трава,
Віхурыць з лісця
жоўтая завея.
І восень, як
бяздомная ўдава,
Пад холадам пранізлівым гібее.

Прадзімак здольны
хоць каго зламаць,
Нібыта надыходзіць канец свету.
Ніхто не зможа
восень падтрымаць,
Пашкадаваць злінялую кабету.

## Чысціня

Які абшар!
Які бялюткі снег!
Душа святкуе,
　　　　радуюцца вочы.
Мароз — дзівоснай казкі абярэг,
На месцы —
　　　　за парадкам пільна сочыць.

Хоць неба сінь,
　　　　а дробненькі сняжок
Аднекуль ледзь прыкметна залятае.
Лісіны след —
　　　　крыштальны ланцужок,
Узрушыў гэту бель,
　　　　па ёй пятляе.

Стаяць, зімой асветленыя дні,
І сумных думак рой,
　　　　знікае, гіне...
Як не хапае гэтай чысціні
У нашай узаемаблытаніне.

## Баль зімы

Зіма, як наравісты конь,
Амаль што кожны дзень — інтрыгі.
Мароз пячэ, як той агонь,
Назаўтра смокча дзень адліга.

А потым хмараў чарната —
І сам святло настрою тушыш.
То — пад нагамі слізгата,
То — ледзь паўзці
па гурбах масіш.

То — галавой у снег нырца,
То — галава пад аблівакам.
Зіма штукуе без канца,
Зіма спраўляе баль са смакам.

## Дні, як святы

Зіма трымае пільна вуха
Ў адведзены ёй Богам час —
То маразы, то завірухі,
То ўсё адразу шле на нас.

То гурбы —
               ледзь праб’ешся з хаты,
Снег па калена, каламуць.
Але бываюць дні, як святы,—
У хату ногі не нясуць.

Прыемна ў дзіўнай абалонцы
Зіхцець палям, звінець лясам.
Прымаладзілася пад сонцам
І наваколле ўсё, і сам.

## Разгулялася безгаловіца

Разгулялася безгаловіца,
То заплача, то запяе.
Вецер моліцца,
Ў дзверы ломіцца,
Снег шрапнелісты
Ў шыбы б’е.

Вылятае гудзенне з коміну,
Як з агромністае дуды.
Сэрцу ў лютым набілі аскоміну
Завірухі і халады.

Мітусіцца, плыве, гайдаецца
Белай навалачы сцяна.
Сэрца ж думкаю саграваецца,
Што за лютым ідзе вясна.

## Зіма сабою ганарыцца

Зіма сабою ганарыцца,
Душа — бялюткі далягляд.
Яна — у белых рукавіцах,
У белай вопратцы да пят.

А іней — белыя павейкі,
І шчокі — колерам зары.
Малюнак вытанчаны нейкі
З карункаў голля ў гушчары.

Як недасяжная майстрыца,
Сабою здзівіць хоць каго.
Зіма сабою ганарыцца —
І ёсць падставы для таго.

## Вось табе і на

Толькі што прайшоў па лесе —
Белы цуд!
Зіма!
Сыпанула з-пад нябесся —
І слядоў няма.

Я ж тут быў,
Пятляў між дрэваў —
Вось табе і на!
Зірк направа,
Глядзь налева —
Неруш-цаліна.

Час — як завіруха тая,
Нібы снег — гады.
Замятае,
Замятае
Прозвішчы-сляды.

## Казка-быль

Я выйшаў за парог
Настрой разварушыць.
Зіме спрыяе бог,
І мне — нашто грашыць!

На мне — сняжынак воз,
На мне — зімы гара.
Я стаў, як Дзед Мароз,
Як лесавік,
Ура!

Імпэт мой ледзь грабе —
Вышэй каленяў снег.
Я сам вышэй сябе,
Такі на мне «застрэх».

Цяжар гадоў не гне —
Душой памаладзеў.
Сустрэць Снягурку б мне
На шчасце!
Неўспадзеў!

## Снегапад

Віруе снегапад бялёсы
У вышыні над галавой.
Сняжынкі —
быццам нашы лёсы,
Іх шмат —
у кожнай танец свой.

Шмат да зямлі іх далятае,
Віхурыстых ганцоў зімы.
Іх безліч тае і знікае,
Як неўпрыкмет
знікаем мы.

І ўсё ж,
сняжынак тае маласць,
А большасць —
да вясны ляжыць.
Тады вясна —
дня снега старасць...
Пажыць бы ў старасці...
Пажыць...

## Адно пытанне

Сёння снежань —
        на зыходзе,
А зімы — ні чуткі.
Дзе ж кажух твой,
        Новы годзе,
Беленькі-бялюткі?

Далягляд — у шэрым сітцы,
Дождж, туман — агульна.
А вось зайка —
        ў белай світцы
І яму няўтульна.

Дзе зіма? —
        адно пытанне,—
Іней дзе крыштальны?
Вось вам і пахаладанне,
Гэты жах глабальны.

*25 снежня 2016 г.*

## Дзіўна як...

Дзіўна як —
Зіма зямліцы
Адпачынак дорыць.
А вось дзецям не сядзіцца,
Іх зіма бадзёрыць.

Для дзятвы —
І ў лютым злосным
Што ні дзень — забава.
Ды жывецца і дарослым
Жвава і рухава.

Завірухі —
Нібы ў гневе
Выюць і лютуюць.
Верабейчыкі на дрэве
Аб вясне сумуюць.

## Дурныя жарты

Што робіцца з зімой!
Снег,
Дожджык палівае —
Такі ўжо сракабой,
Што горай не бывае.

За што гнявіцца Бог?
Ці ж насаліў каму ты?
Скапытваешся з ног,
Нібыта конь раскуты.

То снежань гурбы тчэ,
То студзень зблытаў карты,
То люты — аж пячэ.
З зімой дурныя жарты.

## Люблю і не

Бядую, як сказалі б, задарма,
На роўным месцы
гурбякі шукаю.
Прыйшла зіма,
а радасці няма,
Камяк пакутаў
з болем палыкаю.

Для большасці зіма —
жаданы госць,
Забаў, цікавых святаў
мноства дорыць.
Вакол бялютка, чыста —
прыгажосць,
Рухавасць, гамана —
мароз бадзёрыць.

А дрэвы ў белых футрах —
безліч іх,
І кожнае снягуркай выглядае.
А ясны дзень —
як малады жаніх,
А ранічка — нявеста маладая.

Чаму ж ты для мяне,
зіма — бяда?
Я мушу паўтарацца —
слова ў слова:
Бяздомных, безпрытульных мне шкада —
Люблю зіму і не —
адначасова.

## Дзе я?

Адвіравала злосная завея —
І зноўку сонца!
І заззялі дрэвы!
І неруш-снег,
        і дзіўны іней!
Дзе я?
        Нібыта ў царстве
Снежнай каралевы!

І хоць такое
        бачыў шматразова —
Такое шматразова-непаўторна.
Ўсё выглядае
        незвычайна, нова,
І фантастычна ўсё,
        і ілюзорна.

## Скаргі

Цісканууў мароз «да плешкі»,
Дзьме паўночны ветрадзьмуй.
Ты для жыўнасці —
не смешкі,
Вунь іх колькі —
пашкадуй!

Бачыш?
Вераб’і і галкі,
І гракі, і галубкі
І бяздомныя сабакі,
І гаротныя каткі.

Памякчэй
ад скаргаў слушных
Знуль трагічны свой «укос»
Калі шмат людзей бяздушных,
Будзь хоць ты
з душой, мароз.

## Вось гэта дзіва!

Новы год і снег!
Вось гэта дзіва!
Шанец тут —
        адзін да дваццаці.
З чым бы параўнаць?
Як вобла з півам —
Піва ёсць,
        а воблы не знайсці.

Ну й даштукавалася пагода,
Гонар свой
        паставіла на кон —
Калі снег —
        без Новага ён года,
Калі Новы год —
        без снега ён.

## Гаючыя крыніцы

— Ты ведаеш усё —
скажы мне, Федзя,
Ды растлумач талкова,
да драбніц,
Ці ёсць яшчэ зямля
такая недзе,
Як наша,
дзе віруе шмат крыніц?

Ці нам адным
даў Бог чароўнасць гэту?
Як кажуць,
ашчаслівіў задарма.
— Ды што ты, Зося,
абыдзі паўсвету
Другой такой крынічнасці няма.

Крывёй зямлі
завуць невыпадкова
Крынічанькі,
Бруяць яны й зімой...
Я быў малы —
чуў гэта слова ў слова,
Бо Зося — мама,
Федзя ж — тата мой.

Я вырас, пасталеў,
бацькоў не стала
І ў нашых успамінаў —
шмат паліц.
Тут, на маёй Лагойшчыне нямала
Ва ўсе часы —
было і ёсць крыніц.

Удзячны я крыштальнае
        вадзіцы —
Крынічанькам,
        з якіх бацькі пілі
Я іх заву —
        гаючыя крыніцы,
Не толькі кроў,
        але і пульс зямлі.

## Мусім... Хлусім...

Не хочацца губляць
Здароўя, маладосці.
Не хочацца губляць
Ні часу, ні сяброў.
Не хочацца губляць
Ні родных і ні блізкіх.
Не хочацца губляць,
Але губляем —
Мусім.

Не хочацца губляць
Апошні шанц — надзею.
Не хочацца губляць
Ні веру, ні любоў.
Не хочацца губляць
Сябе й сваё сумленне.
Не хочацца губляць,
Мы й не губляем —
Хлусім.

# Душы крывінкі

Шаснаццаць год —
        нібы хвілінка...
«Хвілінку» гэту аджылі
Гаўрылка,
        Рысік
                і Пушынка.
І кожны з іх —
        душы крывінка,
І кожны з іх —
        ужо ў зямлі.

І як адразу пуста стала,
Нібыта сонейка зайшло.
О, як для шчасця
        трэба мала —
Пяшчота, шчырасць,
        душ цяпло.

І не пазбавіцца ад болю,
Які крычыць:
        — Не вернеш цуд!..
Другіх такіх ужо ніколі
Не будзе...
Жудасны прысуд.

## На барыкаду!

Хандра вядзе
душы асаду —
Дзе ад яе збавенне?
Як ратавацца ад разладу
З сабой?
З жыццём?
З натхненнем?

І муза выглядае сонна,
І ў сэрцы нелюдзіма,
І нават стрэлы Купідона
Зноў праляцелі міма.

Якое змрочнае аблічча
Хандры, тугі, разладу.
А розум не здаецца —
кліча
Мяне на барыкаду.

## Апанент

Штосьці мяне
Змучаў ушчэнт
Мой суразмоўца,
Мой апанент.
Ён не лагодзіць,
Не патрафляе
Многія думкі
Перапраўляе.
Многія словы
Ганьбіць і бэсціць —
Штосьці дадасць,
А штосьці закрэсліць.
Слушных маіх
Меркаванняў абойму
Перамяркуе
Нанова, па-свойму.
Ён і уздыме,
Ён і прытоміць
Ён маё «я»
І мацуе, і ломіць.
Ломяць так крыгі
Запруды на рэчках —
Кажа, што ісціна
Родзіцца ў спрэчках.

*

Штосьці жыццё
Пацякло маё вяла?..
Бо апанента
Раптоўна не стала.
Што ні «змарожу» я,

Нават бяздумна —
Ўсё мне спрыяльна,
Ўсё мне разумна.
Нават калі
Распачну ахінею,
Прымаю яе,
Як суперідэю.
Пэўна, я страціў
Штосьці святое
Што са мной робіцца?
Штосьці не тое.
Трэба хутчэй мне
Брацца за розум
Трэба вярнуць апанента —
Мой розум.

## І крытык, і цэнзар

Калі паэт —
для ўласных твораў крытык,
І больш, чым строгі крытык,
а й цэнзура,
Вагу прыдбае
творчых ніў здабытак —
Паэзія
і ўся літаратура.

Не варта творцу
пець самаўлюбёна
Сваім радкам
і рыфмам серэнаду.
Гучыць самаўлюбёнасць
Пустазвонна,
І творам —
не пазбегчы заняпаду.

А пустазвонства —
ў рэшаце вада,
Знікае з ім і аўтар —
без сляда.

## Мы – суайчыннікі

Калі ёсць хор —
        павінны быць салісты,
І гэта правільна,
        без лідэраў — тупік.
Мы — суайчыннікі,
        а не антаганісты,
Не варта слова
        вешаць «за язык».

Мы гора й святы
        п’ем з агульнай чашы,
Адзін агульных спраў у нас кірмаш.
Калі ж не супадаюць
        думкі нашы,
Не значыць гэта,
        што я вораг ваш.

Лепш нашых думак
        плённая бязмежнасць,
Чым кожны будзе жыць
        «ніжэй травы».
Я ўсёй душой —
        за нашу незалежнасць,
Я Беларусь люблю
        не менш, чым вы.

## Пакаянне

Свае грахі я памятаю ясна,
Учынкі ўсе мае, гады і дні.
Я каяўся і ў мінулым, і ў сучасным,
Ды пакаянне Бог стварыў напрасна,
Бо пакаянне — вораг дабрыні.

Чаму так чалавек грашыць без меры?
Таму ён носьбіт брудных спраў і слоў,
Што пакаянне адчыняе дзверы
Для новых, незамоленых грахоў.

Грахі — як эпідэмія, заразнасць,
Каб справіцца нам з гэтаю брыдой,
За грэх — і пакаянне, і адказнасць
Павінна быць, хаця б перад сабой.

## Прагнозы

Няўжо мы дажываем век —
Не, век не свой, а чалавецтва?
І спыніцца жыцця разбег
Ад прагназуемага бедства.

Прагнозаў шмат адкрыць змаглі
Вучоны свет і свет шаманны:
Канец жыцця — з глыбінь зямлі,
Самой зямлёй наканаваны.

Й другі прагноз вядзе не ў зман,
А напрарочвае сурова —
Устане дыбам акіян
І... нібы языком карова.

Канец жыцця — куды ні кінь,
І поўніцца пагрозаў чаша:
З касмічных далячынь-глыбінь
Імчыць да нас знішчэнне наша.

Між бедаў гэтых ёсць бяда,
Ёсць найжахлівы жах між намі,
Страшней, чым космас і вада,
Чым суперземлятрус — мы самі.

## Вавёрачкі у скверы

Вавёрачкі у скверы гарадскім —
Прыгожа гэта і ненатуральна.
О, як складана выжываць тут ім,
У тлуме гэтым чадным, неспрыяльным.

На жаль, зіму перажывуць не ўсе,
Хоць добрая душа ім дапаможа —
То семак, то арэхаў прынясе,
А чэрствая душа пакрыўдзіць можа.

Як ім пазбегчы сціснутасці шор,
Каб вольны ад няволі не залежаў?
А ім бы ў лес, у лекавы прастор,
Дзе ні будынкаў, ні машын, ні межаў.

Хаця і ў лесе іх — радзей, радзей,
У лесе, дзе, здаецца, жыць ім вольна,
Бо чалавек — прыроды «дабрадзей»
Ссякае пад сабою сук няўмольна.

## Сумуе хата

Сумуе хата без бацькоў,
Хаціначка старая.
З усіх куткоў, з усіх бакоў
Душа іх пазірае.

Туга узрушвае часы
Жыцця былога нетры.
Тут мамы й таты галасы
Лунаюць у паветры.

Іх помніць хата маладых
Ў будзёнасці і ў святы.
А мы, малыя, вакол іх,
Нібыта кураняты.

Пазней, святочных шмат сталоў
Тут ладзілі сумесна.
Ад гаманы, ад шчырых слоў
Было у хаце цесна.

Скруціўся лёс — чыя віна,
Што ўсё, як дым, растала,
Што сціхла наша гамана,
Калі бацькоў не стала?

Час выбівае з каляі
Усіх: аджыў — не баяўся.
Нас шмат было — з усёй сям’і
Адзін я і застаўся.

Свой крыж нясем ад «а» да слёз —
Хтось падае заўчасна.
За тых, хто крыж свой не данёс,
Іх крыж нясу і ўласны.

## А я вярнуся

Пайду з жыцця,
    але вярнуся,
Як бы стагоддзі ні гулі,
Да вас, жывых,
Да Беларусі,
Да неба,
Сонца,
Да зямлі.

Надыдзе дзень,
    хоць сонца села,
Жыццё не схіліць галавы.
Не можа быць,
    Каб спарахнела
Жывое слова,
Твор жывы.

## Арытмія падзей

Завіруха гісторыі
        круціць людзей,
Горш, чым шторм,
        тройчы дзевяцібальны.
Мешаніна жыцця,
        арытмія падзей
Лёс у кожнага —
        непрадказальны.

Мы грыземся й сябруем,
        лагодзім і кпім,
То лагчына жыцця,
        то пагоркі.
Мы, свой крыж несучы,
        больш пад ногі глядзім,
Чым на неба,
        на сонца,
                на зоркі.

## Свядомасць

Дзіцяці Бог гняздзечка ўе
З пяшчоты, ласкі.
Ёсць мама і любоў яе,
Ёсць цацкі, казкі.

А вось прыйшла і маладосць,
А з ёй — дылемы.
І хоць пакуль што мама ёсць,
Але й праблемы.

А ў сталасці на ўсе бакі
Гадоў аблога.
І нашых ведаў груз цяжкі,
І нашы сталыя грахі
Прад лікам Бога.

Няўмольнасць існасці спрадвек,
Прысуд уласны —
Чым больш свядомы чалавек,
Тым больш няшчасны.

## Не сакрэт

Нябёс бяздонне, акіянаў сінь
У параўнанні з ім — усё ж дзіця.
Найбольшая з вядомых велічынь —
Апошні міг свядомага жыцця.

Ён высветліць падзеі, час і нас
З народзін да канца, дзе долу край.
Дае магчымасць нам апошні раз
Паслаць жыццю апошняе «бывай».

Імчаць гады, не прытрымаеш іх,
Усіх адно чакае — не сакрэт.
Пражыў стагоддзе, а, здаецца,— міг.
А што сказаць ў канцы жыцця пра тых,
Хто маладым пакінуў гэты свет?

## Адпавяданне

Ці спёка, ці гадоў завея,
Ці д'ябла смех,
ці Бога плач,
Нясе нас коўзкая надзея
Ад нашых мараў да няўдач.

А ўдачы наравістасць маюць
Завітваць рэдка да людзей,
Бо мары зноў адпавядаюць
Бездапаможнасці надзей.

## Змястоўнасць

Паэмы, вершы, проза, казкі,
І шмат, і шмат яшчэ чаго
Здабытак творчы,
Вельмі важкі
Жыцця руплівага майго.

Я ўсёй душой, не напалову
Адданы выбару свайму,
Бо той, хто шчыра служыць слову,
Жыццё ўсё аддае яму.

Змест маіх твораў —
Ёмкі, шчыльны,
У ім і безліч розных тэм...
І ўсё-ткі надпіс надмагільны
Змястоўней ўсіх маіх паэм.

## Часу нож

А я і сёння быў бы рады
Нястомна абысці зямлю
Але сціскаюць далягляды
Вакол мяне сваю пятлю.

А небасхіл, як лёд застылы,
А сонца дыск, як медны грош.
Неўтаймаваных мараў крылы
Падрэзаць прагне часу нож.

Зрабіўся шэрым вечар сіні,
Свінцом наліўся неба лёд.
А я імкнуся супраць плыні
Падзей, абставін, перашкод.

## Наш галоўны боль

Я скокну з поезда,
	які ў тупік імчыць,
Сыду з дарогі,
	што наўспят паверне.
Пасля таго прысяду адпачыць,
Як толькі ўзыйдзе
	жыццяпрацы зерне.

Мне давялося грызці —
	і не раз
За глотку зло —
	й мяне яно за глотку.
Я азірнуўся у мінулы час —
Ці ўсё ўзыйшло,
	што сеяў у ахвотку?

Адчулі вочы
	слёз нязваных соль —
Не мала плехаў
	мае жыццянівa.
Расчараванні —
	наш галоўны боль,
Ў канцы жыцця
	баліць ён асабліва.

Змагаўся з цемрай я,
	адольваў страх,
Я нёс цяжар —
	уласнае сумленне.
На пройдзены я азірнуўся шлях —
О як жа шмат
	я не падняў камення.

Жыццё мне лёс такі наканавала —
Што б ні зрабіў і колькі —
	будзе мала.

## Не як усе

Дзе сілы браць,
каб жыць не як усе?
І каб не карыстацца
нечай квотай?
«Як не усе» майму жыццю нясе
Шмат перашкод —
адкрыта ці употай.

Мае ўсе творы —
як адкрыты ліст,
Каму — бальзам,
а для кагосьці — куля.
Для ісціны я —
не антаганіст,
Для крывадушша —
горкая пілюля.

Каб быў я —
нібы флюгер на страсе,
Каб закілзаў свае перакананні,
Каб жыў я не, як «я»,
а як усе —
Напэўна меў бы прэміі і званні.

## Дырыжор нашых душаў

*Рыгору Сароку*

Жыццё вакол віруе —
　　многа нас.
На дрэве чалавецтва —
　　мы галінкі.
І толькі лепшых адзначае час,
Іх у жыцці не вельмі шмат — адзінкі.

Мы адчуваем прыцягненне іх,
І гэта прыцягненне —
　　неабходнасць
А нашы душы маюць зрок і слых,
З адвечным хараством —
　　адзінароднасць.

Ёсць сярод нас духоўнасці узор,
Які настрой людзей узнёс, узрушыў.
Ён — талент,
　　ён — асоба, дырыжор —
Аркестра дырыжор
　　і нашых душаў.

## Веліч

Да бярозы «сваёй»
прытулю галаву,
Абдыму яе белую зграбнасць.
І здаецца, што я
не дарэмна жыву,
Быццам сам уяўляю прывабнасць.

Росквіт год у яе,
мне ж — няўхільна капец,
Бог разумны — ўсё важыць і дзеліць.
Я калісьці бярозку садзіў,
як дубец,
Сёння ў неба ўпіраецца веліч.

А яна ж не адна —
вунь іх колькі, «дубцоў»
Цэлы гай, мной пасаджаны колісь.
Я між гэтых,
чысцютка-бялюткіх ствалоў
Адчуваю душы сваёй вольнасць.

Штось гамоніць ласкава
мой «сад» гаваркі,
Мо на мове лістоты мне дзячыць.
Жыць і жыць ім далей
з маёй лёгкай рукі —
І гады будуць чуць іх і бачыць.

## Каханне

Што нас не пускае
        да мэты ісці?
Блуканне.
Што самае моцнае
        ў нашым жыцці?
Каханне!

Што сцягам з’яўляецца мужных падзей?
Змаганне.
Што самае крохкае
        ёсць у людзей?
Каханне.

Што можна чакаць
        ад няшчырай рукі?
Каранне.
А што няўміруча
        ідзе праз вякі?
Каханне.

## Капрызнасць

Жыццё — ні роўных рэек каляя,
Перад якой зразаецца узгор'е...
Я думаў, што
капрызны толькі я,
Ды не і не!
Не адстае й надвор'е.

Яго не закілзалі мы яшчэ,
Яму, на жаль,
не загадаеш: — Хопіць!
Надвор'е то халодзіць,
то пячэ,
То неўспадзеў засушыць,
то затопіць.

Выбрыквае надвор'е,
як на зло,
Калі што робіць —
не ў пару, шкадліва.
Патрэбен дождж,
а неба, нібы шкло.
А ў чэрвені —
яшчэ й мароз на дзіва.

О, каб характар мой,
пакуль благі,
Мог паўплываць,
змяніць капрыз пагодны,
Я б стаў, у самы лепшы бок, другі,
Я быў бы памяркоўны і лагодны.

## Прамы дакор

Мы ў жыцці імкнемся, каб
Працаваць ударна...
Мужыкі!
Чамусьці баб
Мала так цяжарных?

Ці аслаблі вы, альбо
Уляглі ў гультайства?
Ці, прабачце мне... слабо?
Гэта — не ахайства.

Гэта — вам прамы дакор,
Кіньце блазнюкоўства.
Хтосьці з вас — хіцёр бабёр,
Лындзіць ад бацькоўства.

І хоць гэта горка чуць,
Вось вам сказ сустрэчны —
Сем'і без дзяцей жывуць
Ох не даўгавечна.

## Трэба!

Вышэй сябе я б скочыць рады —
І трэба скокнуць!
Трэба!
Што там хаваюць далягляды?
Якое яно, неба?

Я рукі расхіну наўзлётку,
Міну лясы, пагоркі —
Які ён, месяц ціхаходкі?
Якія яны, зоркі?

Я з вышыні гадоў суквецця
Зірну на ўсё ў ахвоту —
Які я быў у гэтым свеце?
Ці варты я узлёту?

## Свой шлях

Дарога — не дарога,
Калі ў канцы — тупік.
Не знойдзеш там нічога,
Апроч адчаю крык

Стаіць бядак застылы,
У сэрцы стома-цьма.
Патрачаныя сілы
Ў пустую, задарма.

Цягнуў з маленства лямку
Круціўся сяк і так.
Відаць не ў тым напрамку
Цягнуў свой воз бядак.

Цягнуў свой воз адважна,
А вынік?.. Ох ды ах...
О, як жа гэта важна
Знайсці ў жыцці свой шлях.

## Праблемы і «настаўнікі»

Чаму чалавецтва,
Загнаўшы у пастку сябе,
У штучную пастку,
Якую стварала адвеку,
Шукае не выйсце з яе,
Не рашэнне праблем,
А множыць іх колькасць,
І тым гэты жах паглыбляе?

Чаму «дэмакраты»
З цывілізаваных краін
Свой шлях прапануюць другім,
Як адзіна-узорны?
А самі на гэтым шляху
Спатыкаюцца — ногі ў крыві...
Не сохлі й спрадвек іх шляхі
Ад крыві чалавечай.

Вучыцца самім?
Не!
Прасцей ўсё-ткі іншых вучыць.
Як робіць, напрыклад,
Ці з Англіі сэр,
Ці нямецкая фрау.
Магчыма, таму чалавецтву
Праблем не злічыць,
Што над чалавецтвам —
Яны,
«Настаўнікі» іншых,
Хто лічыць праблемы другіх
За забаву.

# Трагедыі

Трагедыі...
Мясцовыя, глабальныя —
За векам век
След за сабою нёс.
Званы... званы...
Жалобна-памінальныя
Не абмінулі аніводзін лёс.

З чаго яно, жыццё?
З святочнай радасці?
З працоўных намаганняў?
З пі ды еш?
Ці з непазбежнай
І рэальнай чаднасці:
Сколь ні жыві —
Усё адно памрэш?

Ці не таму трагедыі ўгрызаюцца
Ў жывую плоць жыцця,
Валтузяць нас,
Каб кожны дзень,
Як лустачку з акраіцы,
Цанілі мы —
Адпушчаны нам час?

## Мы – людзі

Каб кожны ў свеце мог
Любіць, як любіць Бог,
Зямлю, ваду,
Усе жывыя душы!
Не патануў бы свет
У раўнадушшы.

Каб кожны высек
На уласным лбе:
— Люблю усіх людзей
Так, як люблю сябе!
Мы б адцураліся
Ад жорсткасці няспыннай,
І не лілося б больш
Крыві нявіннай.

Калі, прайшоўшы шлях,
Жыццёвы шлях упарта,
Спытаемся ў сябе:
«А я? Чаго я варты?»
Тады між намі зла
Й варожасці не будзе
Тады ў нас будзе права заявіць:
— Мы ўсе — нарэшце людзі!

## Не хапае...

Што чалавеку трэба пры народзінах,
З’явіўшамуся ў гэты свет людзей?
Адзінае — каб рукі
        маці родненькай
Пяшчоцілі й паднеслі да грудзей.

Каб засынаць,
        спавітым калыханкаю,
Ў салодкай, бесклапотнай цішыні,
Каб побач са сваёю
        роднай мамкаю
Ў жыццё прарошчваць лёсу карані.

А потым?
Кожны з нас, жыццём закручаны —
Падзеямі, праблемамі, людзьмі.
І хоць жыццё і смерць сплялі заручыны
Мы застаемся да канца дзяцьмі.

І ў самай, што ні ёсць,
        глыбокай старасці,
Малечых сноў ружовых не стае,
Нам не хапае мамінай ласкавасці
І калыханкі просценькай яе.

## Самасуд

Я тайну адкрыю —
між жорсткіх падзей,
Пад цяжкасцю год,
што нясу на гарбе,
Я казкі прыдумваю
не для дзяцей,
Я казкі, у асноўным,
пішу для сябе.

Мне з імі утульней
ісці праз гады,
Свой век дажываць
ля апошняй мяжы,
Я з імі больш моцны
ў абдымках бяды,
Не выкажу страх,
хоць распнуць на крыжы.

З рэальнасці ў казку
свой свет перанёс,
Такі над сабой
учыніў самасуд.
Я ў казкі ўплятаю
звычайны свой лёс,
Калі ўжо ў жыццё
не ўплятаецца цуд.

## Ссірацелая хаціна

Я ў вёску еду,
як на свята,
Там родны кут,
там мой Парнас.
Я ў вёску еду,
як да ка́та —
Там рве душу
мінулы час.

Там раняць сэрца успаміны,
Абліччы родных, галасы,
Там з ссірацелае хаціны —
Знямелы сум —
на ўсе часы.

Пакінулі
хаціну святы —
Дзе ўсе? —
пытае кожны кут...
Я — пасярод
бацькоўскай хаты,
Я — быццам нейкі
прывід тут.

## Прыблуда

Мяне дарога кожная хіне,
Я ўсё жыццё ў дарозе,
ў блудным стане.
Я шчыра спадзяваўся,
што мяне
Прыблуда-старасць
дома не застане.

Я навыпісваў дугі на зямлі,
І за спіной —
гадоў імклівых груды.
Дамоў нарэшце ногі прывялі,
А тут мяне чакае ўжо «прыблуда».

Хацеў крутнуцца я
ў дарогу зноў,
А ногі ўжо не тыя,
сіл нямнога,
Ды й здзекуецца старасць
без прадмоў:
— Ад смерці не ўратуе і дарога.

## Меншае зло

Безабаронная казуля,
Што тоіцца ў яе вачах?
Ёй вораг — іклы,
Вораг — куля,
Ёй вораг — неадступны страх.

Ёй дзень пражыць —
лічы удача,
Ёй выжыць ноч —
яшчэ адна.
Яна — то крадзецца, то скача,
То пільна слухае яна.

І раптам — воўк непадалёку,
Яна — ў лазняк,
спыніла бег.
А паўз яе, з другога боку,
Ідзе павольна чалавек.

Было пакольки часу мала,
І вельмі жудасна было,
Яна адчайна выбірала,
Якое меншае, з дзвюх, зло?

Маланкай, па гаротным лёсе,
Яна імчала з лазняка
Туды, дзе меншым зло здалося —
Ад чалавека да ваўка.

## Жыццё і процілегласць

Ідзе па жыцці побач з намі,
не толькі жыццё,
Няспынна ідзе па жыцці
і жыцця процілегласць.
І як бы ў жыцці нам ад антыжыцця
паратунак знайсці?
І як паміж імі хаця б
павялічыць адлегласць?

Ідзе чалавек да апошняй мяжы
да апошняй пары,
Прыроды няўдзячны уладар
і часу ўладар ганарысты,
А побач, ідуць з двух бакоў
чалавечыя уладары —
Жыццё і Яна — процілегласць жыцця,
два антаганісты.

Ідзе чалавек па жыцці —
ўсё далей і далей ад яго,
Ідзе — ўсё бліжэй і бліжэй да яе —
процілегласці клятай,
Ідзе чалавек — ўсё бліжэй і бліжэй
да прытулку свайго,
А цешыцца думкай, што доўга ісці па жыцці,
што наперадзе святы.

# Вартаўнік

На варце сумлення
стаяць неабходна —
Павінен не гаснуць
сумлення маяк,
Каб наша жыццё
не мінула бясплодна,
Каб нашы гады
не прайшлі абы як.

Быць пільным
на варце сумлення — ухвальна,
Каб ганьбай не стала
жыцця каляя,
Каб не вытыркалася
маніякальна,
Дзе трэба, дзе не,
ганарыстае «я»...

Якая памылка!
Якое здзіўленне!
Хто лепш нам падкажа,
як правільна жыць?
Дык гэта ж яно,
наша з вамі сумленне
На варце паводзінаў
нашых стаіць.

Мы ўсе, без сумлення,
згубілі б дарогу
Да велічных мэтаў,
прыйшлі б у тупік.

Дык дзякуй жа нашаму
          мудраму Богу,
Што сочыць за намі
          такі вартаўнік.

## Адпяванне

Ляжыць нябожчык у труне,
Яму нішто не дапаможа.
А поп над ім, прабачце мне,
Праз слова:
— Слава табе, Божа!

Яшчэ, калі памёр стары,
Як кажуць, іншая тут справа.
А хто ўмірае без пары —
Дзіця, юнак —
Навошта «слава»?

А адпяваюць немаўля —
І славяць Бога, Ойца, Духа.
І стыне сэрца, вяне вуха —
Святога тут — ніжэй нуля.

Упарты я,
          хоць трэсні ў лоб,
Я не хачу ў труне такога,
Каб нада мною нейкі поп,
За адыход мой славіў Бога.

## Клічуць гены

То мы — ад малпы,
То мы — з вады...
Дык дзе сакрэтаў прыярытэты?
То ўжо сцвярджаюць нам
праз гады,
Што нашы продкі
з другой планеты.

Туды, дзе продкі,
адкуль мы ёсць
Заўсёды кліча
выток наш генны.
А дзе жывеш ты —
тут толькі госць,
Хоць тут ты, быццам,
жыхар карэнны.

Дзе сярод зорак,
адна мая?
Кірую ў неба
я погляд дзёрзкі —
І адчуваю нязменна я,
Як клічуць гены
да роднай вёскі.

## Душа ўзлёту просіць

Мне б крылы, а не дзве рукі,
Душа ўзлёту просіць —
Якая ноч!
Спакой які!
А месяц велічны такі,
Што сонца пазайздросціць!

Ад дрэваў, ды і ад мяне
Адкідваюцца цені.
А зоркі ў небе, як у сне,
Застылі ў здзіўленні.

## Пераблыталася ўсё

Пераблыталася ўсё —
Ноч і дзень,
Зіма і лета,
Адчуванне спраў маё,
Сон, рэальнасць,
Мары, мэты.

Знаўцы,
Профі і дзялкі,
Аднадумцы, антыподы,
І авечкі, і ваўкі,
І заканадаўцы моды.

Шмат абрынуў ён на нас,
На сумленныя галовы,
Гэты хаатычны час,
Час, непрадказальна-новы.

## Шукаць і блукаць

Шукаць і блукаць —
не знайсці горшай долі
Тады, калі шоры
вісяць на вачах,
Тады, калі ветру
шукаеш у полі,
Калі заблудзіўся
ў уласных грахах.

Шукаць і блукаць
можна плённа, змястоўна,
Тады, калі вабіць
бязмежная сінь,
Калі заблудзіўся
ў здзяйсненнях духоўных,
Калі сэрца ў пошуку
творчых вяршынь.

## Двухмоўе

Без нового почину
Не будзе новых святаў.
Но это — не причина
Сцвярджаць,
    што большасць зжата.

Споткнулся,
    сбил колени,
Гартуйся, каб падняцца,
Что б выйти вновь из тени —
Душы і цела праца.

Тех, кто не падал — нету,
Тых, хто не ўстаў —
    нямала.
Сберечь бы нам планету,
Каб «ногі не збівала».

## Хілюся нізка

У час душэўнага разладу
Адзін-адным не застануся,
Падкажа сэрца,
          дасць параду —
Да Беларусі прыхінуся.

Душой прыемна прытуліцца
Да той,
          што песціла, расціла —
Да роднай матухны зямліцы
І да ўсяго,
          што сэрцу міла.

Мой родны край,
          мая калыска,
Жыць без цябе мне немагчыма.
Хілюся прад табою нізка,
Мая адзіная Радзіма.

## Правалы памяці

Бываюць памяці правалы —
«Забыўся» — й ты не вінаваты
Мы маем прыкладаў нямала
Калі «адбельваліся» ка́ты.

Сышлі ў нябыт звяр’я абноскі,
Спіхнуў іх час з крывавай сцэны.
Ды чуюцца іх адгалоскі,
Хоць і жывуць нячутна гены.

Ці не таму кладуць на шалі
Хлусню і праўду-небараку
І супраць тых, каго знішчалі,
Той ген хлусню вядзе ў атаку?

Яшчэ у памяці дымяцца
Ахвяры, спаленыя ФАУ.
Прад імі б у нагах валяцца
І вам, бяспамятная фрау...

Жывуць нашчадкі тых злачынцаў,
Тых нелюдзяў антымаральных.
На іх таксама цень «гасцінцаў» —
Хатыні, Трасцянца і Дальвы.

## Такое раздолле!

За вёсачкай нашай
 такое раздолле,
Здаецца, ад хаты за крок —
Названае некім
 Вялікае Поле,
Галінаўца,
Скрыня,
Барок.

А водар які ад бяроз,
 што на ўскраі
Развесілі косы свае.
А ветрык ласкавы,
 нібыта «бай-баю»
Усяму наваколлю пяе.

Тут неба само,
 як над Храмам званіца,
А сонца —
 як з золата крыж.
Глядзіш — і не можаш
 ніяк наталіцца
Прыродай —
 нібыта ўсё сніш.

## Гады-пуды

Як нас хвалюе Новы год!
Нібыта мы памаладзеем.
Нібыта...
Не — наадварот,
Гады-пуды, не дабрадзеі.

І госці, і гаспадары,
Ў зубах трымаюць тост адзіны:
За год мінулы!
За Стары!
Пад охі, ахі, успаміны.

Шмат парабілі розных спраў,
Магчыма — мала,
          можа, й лішку.
Год штосьці даў,
          кагосьць забраў,
Не абмінуў і дзёгцю лыжку.

Гадзіннік б’е дванаццаць раз,
І новы тост гучыць прачулы,
Што Новы год адорыць нас,
Чым?..
Лепш, чым год мінулы?..

## Як цяжка...

Як цяжка расставацца назаўжды
З тым, што было —
        аднойчы й непаўторна.
Я быў толькі «аднойчы» малады,
А ў слове «быў» —
        мінуласць, ілюзорнасць.

Як цяжка расставацца назаўжды
З тым, што ніколі
        не было й не будзе,
Але ў душы пакінулі сляды —
Няздзейсненыя мары,
        як бязлюддзе.

Нам усвядоміць цяжка —
        жыў аднойчы,
Аднойчы —
        непаўторна назаўжды...
«Жыву» і «жыў» — люстэрка,
        вочы ў вочы,
Разбіць яго б —
        ды гэта да бяды.

## Усё і ўсе

Знікае ўсё...
На жаль, і ўсе —
Немудрагелістасць такая.
І нават час,
Што нас нясе,
«Наш» час, за намі след знікае.

Знікае хтосьці ў барацьбе,
А нехта, лындзячы штодзённа.
Знікаем часам мы ў сабе —
І прыжыццёва,
Й прынадродна.

Хоць мы знікаем пакрысе,
А думка кожнага з нас раніць:
Калі ўжо знікне ўсё і усе,
Як захаваць нязніклай памяць?

## З чым параўнаць?

З чым параўнаць непараўнальнае
Жыццё, падоранае нам,
Адзінае і унікальнае?
Тут кожны вырашае сам.

З успышкай асляпляльнай зорнаю?
З самааддачай маяка?
Альбо з навіслай хмарай чорнаю?
Ці з завываннем скразняка?

З пустой пасудзінай нязграбнаю?
Ці з мэтай, над якою німб?
Ці з непаўторнасцю прывабнаю?
Ці з узыходам на Алімп?

А параўноўваюць, як правіла,
Жыццё пасля жыцця заўжды —
Жыццё зняславіла?
Уславіла?
Пустыя? Плённыя гады?..

## Я ганаруся...

Мой першы тост за вас,
Сучаснікі мае.
Нас з вамі выбраў час,
То лашчыць ён, то б’е.

Я ганаруся тым,
Што мы яшчэ — не рэтра.
На ўзлёце,
На крутым
У нас адно паветра.

Над намі —
Сінь без дна,
Насустрач хмар нямала,
Пад крыламі яна,
Зямля, што ўзгадавала.

І бачацца ёй сны,
Адзінай маці ў свеце,
Ці даляцяць яны
Да мэты, яе дзеці?

## Заблудзіўся

Гукну направа —
Ціха.
Гукну налева —
Глуха.
І што гэта за ліха?
І што гэта за вуха?

Зірну наперад —
Пуста,
Назад зірну —
Нікога.
Як кажуць, зноў не густа,
Няўтульнасці аблога.

Што гэта?
Царства ночы?
Бяздушнасці прадвессе?
А-а... Я з дарогі збочыў
І заблудзіўся ў лесе.

## Правіла адно

Стагоддзі — гмахі,
        лёсы — парушынкі,
Ў агні вякоў
        гараць, як матылькі.
Жыцця пачатак
І жыцця дажынкі
Адольваем імгненна —
        напрасткі.

Прывыкла чалавецтва
        жыць няўцямку —
Наезджаная часам каляя.
І мы габлюем
        у адным напрамку,
А мы ўсё напрасткі —
        ад «а» да «я».

Ў гісторыі жывуць
        урокі-жахі,
Ды супраць іх
        ёсць правіла адно:
Стагоддзі — парушынкі,
        лёсы — гмахі —
Усіх нас і ўратоўвае яно.

# Без падтрымкі

*«Падтрымліваць таленавітых трэба,*
*Бяздарныя праб'юцца самі ўсе...»*

Высакародныя намеры.
Я — за!
За таленты ва ўсім!
Жыву я з гэтым, поўны веры,
Што дапамога будзе ім.

Так яно й ёсць!
За свае справы,
Таленавітыя ўвесь час,
Падтрымку маюць ад дзяржавы,
Пашану шчырую ад нас...

Ёсць, пэўна, людзі-невідзімкі,
Як непачуты ёсць матыў.
Я ж без ніякае падтрымкі,
Без званняў розных штось зрабіў.

Жыву я без надзеяў марных,
Бо вунь ён, зеўрыць хуткі дол.
Няўжо калісьці да бяздарных
Мяне далучыць пратакол?

## Вітанне

У поціску рукі —
адносіны віта́ўца,
Да тых, каму паціснуў ён руку.
Няхай сабе, я не вялікі знаўца,
Але скажу —
ён на чыім баку.

У вочы ён глядзіць —
ліслівая лагоднасць,
Усмешкай перакрыўлена шчака.
А вось рука, як снег мінулагодні,
Халодная, анучная рука.

Не, ён не сябар —
ён вам не спрыяльнік,
Я пры сустрэчы іншае цаню.
А вось другі,
знаёмы вам вітальнік,
Паціснуў аж да хрусту даланю.

І ў вочы паглядзеў
«без мух», без падсалоды,
І словы ад душы не адарваць.
Вітацца з ім прыемна нам заўсёды,
І, да таго ж, надзейна сябраваць.

# Грахі

Чаму наведвае нас грэх?
Ці мы яго наведваем?
Няўжо ён, быццам летам снег?
Ці — што ён будзе — ведаем?

Мы ў думках імем даражым,
На справе — грэшнасць тоіцца.
Грашым, шаноўныя!
Грашым!
Прабач, Святая Троіца.

Грашым памногу, пакрысе —
Не, не хачу я здзеквацца.
З гадамі — грэшныя мы ўсе,
Ды кіньце вы аднеквацца!

Псуюць нас у жыцці-віры
Учынкі нашы спешныя.
І толькі дзеці, да пары,
Анёльскія, бязгрэшныя.

## Пратакол

Прачнуўся раніцай —
　　　　　　і дзякуй Богу.
Дажыў да вечара —
　　　　　　хвала Яму.
Адолеў жыццяплынную дарогу?
Адвеснаваў?
Адлеціў?
А восень надыйшла —
　　　　　　чакай зіму.

Вось так і пратаколіць
　　　　　　час няўмольна,
Маланкава — народзіны і дол.
Мы — кожны паасобку і супольна
Трапляем у адвечны пратакол.

Ў яго трапляюць й нашыя учынкі,
Здзяйсненні, вехі радасці й бяды.
І толькі векапомныя адзінкі
На дошку памяці
　　　　　　трапляюць назаўжды.

## Казачнае наваколле

Лес развесіў лісця вушы,
Слухае уважліва,
Як сарокі-стракатушы
На хвастах сваіх дасужых
Носяць весткі важныя.

Разблакіціліся гоні
Неба ганарлівага,
А на іх — аблокі-коні,
Коні белагрывыя.

Што ні поле —
ніў раздолле,
Луг — квяцістасць росная.
Казачнае наваколле,
Прыгажосць дзівосная.

## Адзіная зорка

Калі слова загіне —
        і сам я загіну...
Калі слова не з сэрца
        кладзецца ў радкі,
Значыць слова кладзецца,
        лічы, ў дамавіну
Незапатрабаваным —
        на век, на вякі.

Вершаванае слова —
        душа на распяцці,
Вершаваная рыфма —
        не сэрца, агонь.
Ды і верш —
        нібы аўтар памерлы на свяце,
Нібы ў часе бяскрылым
        акрылены конь.

Да паэзіі крылы нясуць
        цераз церні,
Праз пакуты адвечныя —
        быць ці не быць!
Боль, змаганне ці смерць —
        а натхненне не зверне
Ад адзінае зоркі,
        што над лёсам гарыць.

## Мір праху

Зіма — на скроні мне,
а восень — мне на твар,
А лета ў думках
сталасцю палоніць.
А вось вясны маёй
бясцэнны дар
Душу чароўнасцю
сваёю поўніць.

Пары чатыры года —
у якіх мой лёс,
На гэты «год»
на развітанне гляну —
Вясной я калісь
нарадзіўся й рос,
А летам даспяваў,
увосень — вяну.

А вось зіма тады —
сапраўдная зіма
Для лёсу чалавечага настане,
Калі ўжо нас
сярод жывых няма,
І — «праху мір!» —
гучыць на развітанне.

## Анёласць і адмоўнасць

Дарога пачынаецца з сцяжынкі,
З вытока кволага — рачная плынь.
А вось на дрэвах тонкія галінкі,
Ўсе ад ствала імкнуцца да вяршынь.

Усё ў прыродзе геніяльна-проста,
Удасканальваецца з веку ў век.
Усё без дырэктываў і без ГОСТаў,
Якімі абрастае чалавек.

А чалавек і сапраўды загадка.
Крок першы — ад парогу, ад дзвярэй.
Ён напачатку, як ручай-дзіцятка,
Затым жа —
        плынь жыцця шырэй, шырэй.

А чалавек — нястрымана-практычны,
Дабро і бруд —
        усё ў раку жыцця.
І вось ужо выток жыцця крынічны,
Як і рака, нягодны для піцця.

Усё удасканальваецца ў свеце,
Ды ў нечым памыляецца і час —
Ад веку ў век, сама анёласць — дзеці,
Чаму ж так шмат адмоўнага ў нас?

## Кроў народа

Пішу на беларускай мове,
Ідзе якая ў заняпад.
У кожнай думцы,
Кожным слове,
Ў будучыню мой пагляд.

Няўжо праз нейкае стагоддзе
Ёй не пражыць без «тлумача»?
Ці мова наша ўсё-ткі знойдзе
Прыхільніка і чытача?

Жыві!
Ўзмацняйся год ад году!
Ты — беларускасці душа!
Бо... «Мова — гэта кроў народа» —
Запэўніваў Ядвігін Ш.

## Рэдактар

Я — аўтар твораў
          і ўкладальнік,
Я — сам і цэнзар люты.
Я — падначалены
Й начальнік,
Я — крылы,
Я — і путы.

Я — плоць празаіка
          й паэта,
Я — профі
І аматар.
І ўсё ж —
Над «калектывам» гэтым
Павінен быць рэдактар.

## Самаед

У творчы свет
з’яўляюся я з чым?
Як я цябе ўслаўляю,
родны краю?
Я — самаед,
не бацька я — айчым
Для твораў для сваіх,
якія маю.

Тытанаў творчых —
вунь якая раць!
Здзяйсненняў гучных —
вунь якая слава!
Ці маю права
ў рукі пэндзаль браць?
Слугою слова быць
ці маю права?

Сусвет вялікі творчы,
мне прабач,
Я — ў роспачы,
мой боль душы — не жарты.
Хоць ты мне падкажы
глядач, чытач,
Што мне далей рабіць?
Чаго я варты?

## Я – беларус

Я паміраць не дужа і баюся,
Баюся моцна толькі аднаго —
Са мной памрэ любоў да Беларусі,
Галоўная любоў жыцця майго.

Я Беларусь люблю не пустазвонна
І ў грудзі кулаком сабе не б’ю.
Люблю яе адказна і штодзённа,
Як любяць маці родную сваю.

Бывала й так, што галадаць я мусіў
Пакутваў за грахі — не за свае.
Я часам быў нялюб не Беларуссю,
А тымі, хто далёка ад яе.

Ёсць шмат спакусаў розных ва ўсім свеце,
Яны нямілы сэрцу і пяру.
Я — беларус крывёй, не па анкеце
І з гэтым заспакоена памру.

## Цярпенне

У цярпення ёсць канец,
ёсць пэўны час,
Які ў крыві няўмольна
ціск вялічыць.
Калі цярпенне лопаецца — нас
Нястрыманымі і благімі лічаць.

Вось табе й на!
Дзівос для нас які!
Цярпелі далікатна і з даверам,
У працы ўсё жыццё,
а лайдакі,
Так давялі нас —
дапяклі без меры.

Чакаць,
Прасіць
Цярпець
І даганяць —
Ці знойдзецца больш горшае за гэта?
І як на вас не мацюкнуцца... маць,
Псуюшчыя жыццё нам,
прайдзісветы!

## Безгустоўнасць

З сучаснасцю сустрэцца —
як з нудой.
І што гэта за мода у народа?
То лысыя вакол, то з барадой,
Хаця й не выйшлі з маладога года.

І гэта ўсё — хлапцы-маладзюкі,
Аднолькавыя, хоць кладзі ў абойму
А вось ідуць дзяўчаты і жанкі,
Яны сябе «ўпрыгожваюць» па-свойму.

Ніколечкі я тут не перагну,
Калі скажу, што гэтыя «венеры»,
Якіх мы сёння бачым — праз адну,
Мяняюць знешні выгляд свой без меры.

Пампуюць губы — Божа барані,
Таўсцючыя, як мячык для футбола.
А грудзі напампоўваюць! Парні —
І толькі пшык, як спушчанае кола.

Ды з імі ж быць агідна за сталом,
Настолькі ўсё ненатуральна, нудна.
Эх, вымесці бы гэта памялом
На сметнік безгустоўнасці —
Прылюдна!

## Жыццё

Скажы жыццё:
— З чаго ты?
З якой такой «салянкі»?
То мы ляцім з ахвотай,
То б’емся, як падранкі.

То лашчыш ты матуляй,
То лупянеш з размаху.
То дорыш святы, гулі,
То наганяеш страху.

Магчыма, так і трэба —
Занудзіцца мёд з мёдам.
Калі у сне патрэба,
Нялішнія й прыгоды.

## На мяжы

Я — на мяжы душэўных сіл,
Я — на мяжы фізічнай моцы.
Нашто пускаць у вочы пыл —
Ў нябыт адчынены варотцы.

Я выпрацоўваўся на знос,
Лёс, без астатку клаў на шалі.
Штось спасцігаў,
У нечым рос,
Мацнеў духоўна, сілы талі.

Нёс лёсу крыж,
А па спіне
Хлысталі думкі бізунамі:
«Ніхто не зробіць за мяне,
Жыццё адно,
            а спраў — цунамі.

Жыццё — бясцэнная цана,
Яно ўсе «за» і «не» узважыць...
Вунь, мэта новая — яна
Чакае,
Клікае,
Міражыць.

## Ты – быццам прывід

Ты для мяне, як сон святы —
Узнёслых параўнанняў —
шмат.
Але адно, як боль, бо ты
Нібы міраж, як далягляд.

Шмат дзён мінула,
шмат міне,
А далягляд —
не шмат бліжэй,
Я да цябе —
ты ад мяне,
Адлегласць, як была раней.

Наканаваў, напэўна, хтось,
Нам сустракацца толькі ў сне.
То зноў няма цябе —
то ёсць,
Ты — быццам прывід —
ёсць і не.

## Лёсу пакуты

Лунаю і мрою,
          пішу і малюю,
Малюю і зноўку пішу.
А што ж непакоіць?
А што ж так хвалюе?
А што ж так палоніць душу?

Адкуль невядомага поклічу хвалі,
Душэўнага стану сюрпрыз?
Нібыта кладуць
          маё сэрца на шалі
І раптам —
          то ўверх, то — уніз.

А я, незаўважаны
          і непачуты,
Стаю, як старонні глядач.
О гэтыя,
          творчага лёсу пакуты —
Прабач мне,
          мой выбар!
Прабач!

## Пераемственнасць

Вечарэе...
Прахалода
Па нізінах сцелецца.
Вечар гасне без прыплода,
А вось ноч расцеліцца.
Зоркамі нясмелымі,
Туманамі белымі.

Дагарае дня астатак,
Сумна цемрай крышыцца.
З поля йдзе паволі статак,
Вымямі калышыцца.
Пахнуць хаты ўдоямі,
Дзеці сырадоямі.

Светлячок, нібы ліхтарык,
На галінцы ўтуліцца.
Піскнуў весела камарык,
Укусіць рыхтуецца.
Ах ты, надакучына,
Мелюзга пякучая.

Нехта спіць, камусьці гулі,
Гукі — як даведнікі.
Гэта ж бачылі і чулі
Продкі-папярэднікі.
Гэта й іншае у свеце,
Хай адчуюць нашы дзеці.

## Што я забыўся тут?

Я быў ля мора,
        быў ля акіяна,
Ды беларус я ўсё-ткі нездарма —
На хвалі гляну,
        на ўзбярэжжа гляну,
І засумую —
        лесу тут няма.

І што мне спёка?
        Што мне пляж сыпучы?
Што для мяне
        вады бязмежнай гладзь?
І што мне пальмы —
        лісце, як анучы?
Ўсё гэта ёсць,
        а лесу не відаць.

Далёка дзесь
        Радзімы паднябессе,
Дзе бусел асяняе родны кут.
Сумую я па беларускім лесе,
І думаю: —
        Што я забыўся тут?

## Бура ў шклянцы

Сумна, сумна
Жыць разумна —
Інфармацый месіва.
Неразумна
Жывуць тлумна,
Неразумна — весела.

Жыць нармальна,
Звышмаральна —
Значыць абмяжоўвацца.
Ненармальна жыць —
Ухвальна,
Сам сабой
Захоўвацца...

Штосьці я змарозіў
Здуру,
Вольнасцю учадзеўшы.
Учыніў у шклянцы
Буру,
Наступствы не ўзважыўшы.

## Жыву!

Тады толькі й жыву,
калі з пяром ці пэндзлем,
Ці з рыфмамі,
ці з фарбамі ўабдым.
Астатнія часы жыццё
без сэнсу нэнзліць,
Бязмэтавасць жыцця
з жыцця ляціць, як дым.

Тады толькі й жыву,
калі з жыццём сам-насам,
Без мітусні,
што дурыць галаву.
І творчасці уздым
нясе мяне над часам,
І адчуваю сэрцам,
што сапраўды жыву.

## Клетка

З вугла у вугал у хваляванні,
Сціскаюць сцены, цісне дах.
Чаму будуюць памяшканні
Ўсяго а чатырох вуглах?

Няхват міжсценнага прастору,
Рза-два ступіў —
 і вось ён кут.
Мая кватэра —
 сэрца шоры,
Мой горад —
 зборышча пакут.

Здаецца мне,
 што нават слова,
То — да вугла,
 то — да сцяны.
І цешыць думка, што часова
Я ў гэтай «клетцы» —
 да вясны.

## Адчай

Хачу успакаення —
не упакаення.
Упакаенне прыйдзе без «хачу».
Душы раздрыга сёння —
без наймення,
Нібыта ў бездань галавой лячу.

І гэта для мяне —
страшэнныя гадзіны,
І я — безабаронны, як дзіця.
Пакорліва стаю, зусім адзін-адзіны,
Сярод свайго і не свайго жыцця.

І кожная крычыць
у арганізме клетка,
З крывёю п’е адчаю гарчыню.
Такі адчай наведваецца
вельмі рэдка,
Не ведаю —
магчыма, ў першыню.

## Жорстка і бяздушна

Як гэта жорстка
страшна і бяздушна,
Якое ўтойвае прырода зло —
Не на ляту з узростам
гіне птушка,
А доўга цягне па зямлі крыло.

І ёй, якую акрыліла неба,
І для якой палёт —
жыццё для нас,
Штодзённа па зямлі
туляцца трэба,
Чакаць жахліва
свой апошні час.

Яе сяброўкі сёстры паляцелі,
А гэта —
дапакутвае свой век,
Як быццам нерухома у пасцелі,
Свайго канца чакае чалавек.

## Старонкі жыцця

Якую старонку жыцця гартаю?
Апошнюю?
Прадапошнюю?
Быў том не малы,
Зноў перачытаю —
І памятую кожную.

На кожным этапе жыцця
здавалася,
Што кожная —
Найцікавая.
Таму і пісалася,
Таму і стваралася
Шчырае,
Яскравае.

Я зноў за пісьмовым
сталом жыццёвым —
Руплюся,
Завіхаюся.
Цяпер жа, у кожным
творы новым
Нярэдка ў грахах сваіх
Каюся.

## Сумую...

Сумую па конях,
Сумую...
Збяднела жыццё без каня
У сэрцы ўспаміны шаную,
Калі я быў з коньмі штодня.

Станоўчага ў лёсе —
　　　　не густа,
Век конскі кароткі,
　　　　прабач.
Прыеду у вёску —
　　　　і пуста,
Самотна і горка, хоць плач.

Мы жорстка
　　　　да жорсткасці крочым
Ад чуласці, ад дабрыні.
Шчымліва вышукваюць вочы —
А раптам сярод гэтай ночы
Сустрэнецца хтось на кані.

## Непаўторны цуд

Як прывычна й гарманічна!
У прыроды — дзіўны густ,
У прыродзе сімпатычна
Ўсё — аблокі, рэчка, куст.

І стракозы-віртуозы,
І палёў жытнёвых гладзь,
Беланогія бярозы,
Меднастволых соснаў рацць.

І сінеючыя далі,
І лугі, і кожны кут.
Толькі б мы не пагаршалі
Гэты непаўторны цуд.

## А ты?

Я без цябе —
Песня без слоў.
Я без цябе —
Ночы без сноў.
Я без цябе —
Сум у цішы
Я без цябе —
Верш без душы.
Я без цябе —
Промнік астылы,
Я без цябе —
Мара без крылаў.
Я без цябе —
Ноч у акне...
Я ўсё ды я,
А ты без мяне?..

## Адзін адказ

Мы спаць кладземся і...
            а ранак ці настане?
А новы дзень?
А ночы?
Ранкі?
Дні?..
А нам бы з вамі
            жыць і жыць, зямляне,
А нам бы з вамі
            не згарэць ў агні.

А нам бы нас любіць...
О вы, хімеры-мары!
Жыццё ж на справе —
            без крыві ні дня.
Тэракты, войнаў новыя пажары,
Забойствы, жорсткасць,
            недавер, грызня.

І стала на зямлі
            ад могільнікаў цесна,
На ўсе праблемы ёсць адзін адказ —
Адклаўшы жорсткасць,
            выжываць сумесна?
Альбо — самазнішчэння крыж на нас?

## Адгалоскі

У вёсках сёння баль спраўляюць
Былога адгалоскі...
Вяскоўцы малако купляюць —
А гэта ўжо не вёскі.

Зламала шмат перабудова,
Жывуць няўтульна хаты.
Была ж у кожнага карова,
І свінні, і цяляты.

Была ў гаспадароў надзея —
Жыць дзецям тут, нашчадкам.
Але у часу-дабрадзея,
Свае цяпер парадкі.

І вёскі сёння — бед галоскі
Яны — адчаю цёзкі.
Ім без каровак жыць нягегла,
І моладзь з вёсак збегла.

# Палітра

Палітра жыцця —
Чорна-белая.
Палітра душы —
Каляровая.
Змаленства —
Умела й няўмела я
Душою жыццё
Падфарбоўваю.

Жыццё —
То кабета элітная,
Жыццё —
То паненка нясвецкая.
Яно вельмі часта,
Бязлітасна,
Душу
Чорна-беласцю
Пэцкае.

## Сны і мары

Ой, заснуць бы мне,
Забыцца,
Ды не спіцца.
Мо з’явілася бы ў сне
Мне чараўніца.

Дараць
Толькі сны пакуль
Яе чары.
Хто яна?
Чыя?
Адкуль?
Мабыць, з мары?

У рэальным бы
Жыцці
Нам сустрэцца.
Адшукаць яе,
Знайсці,
Прагне сэрца.

## Раство

Ты толькі нарадзіўся, карапуз,
І ты пакуль — у яслях, немаўлятка,
Таму нічога у цябе, Ісус,
Прасіць не буду — ты ж яшчэ дзіцятка.

Хай зоркі новай дзіўнае святло
Убачаць і старыя, і малыя,
Каб зразумела кожнаму было —
З'явіўся ў свет збавіцель наш — Месія.

Расці здаровым, немаўля, мацней,
Ў складаны свет адчыненыя дзверы.
І шмат ад нас ты прымеш, ад людзей,
Няўдзячнасці, адступніцтва ад Веры.

Ты нас заклічаш ад пустых уцех,
Ты скажаш: — Сіла ў Веры, не ў спакусе!
Ты возьмеш на сябе наш боль і грэх,
Ты будзеш вечнай святасцю, Ісусе!

Ўсё будзе — ад усіх і адусюль,
Й табе не абмінуць нядолі горкай.
З раством цябе віншуем, а пакуль
У шчасці будзь пад Віфлеемскай зоркай!

*7.01.2017.*
*Раство Хрыстова*

## Тайна

— Мы з вамі недзе бачыліся...
Дзе?
Калі і як?
Ну, нагадайце штосьці.
Магчыма — у юнацтве?
Ў маладосці?
Гады — яны, як кроплі на вадзе.

Яна зачырванелася: — Ды ты...
І змоўкла з недаказаным дакорам.
Я помніў час далёкі, залаты,
Я — хітраваў,
            я ратаваў свой сорам.

І ад яго, ад сораму майго,
Гарэла сэрца,
            білася адчайна.
Ці ж мог не помніць я
            ўсяго таго...
Чаго ўсяго таго?..
А гэта — тайна.

## Вяршыня

Вяршыня вунь —
    не лезьце без страхоўкі,
Жыццё адно,
    а небяспекаў шмат,
Ваш сябар — вопыт,
    спрыт, шматок вяроўкі,
Ваш вораг — вецер,
    холад, камняпад.

Там, на вяршыне...
    Што там — невядома.
Таму так і прыцягвае яна.
І не спыняе —
    ні адчай, ні стома,
Ні гэты веліч-гмах —
    гара-сцяна.

А я чаму без падстрахоўкі тута?
Ці ж два жыцці ў мяне?
    Адно яно.
Таму і не сыду
    з экстрым-маршрута,
Што часу мала,
    што жыццё адно.

## Няшмат...

Месяц свеціць, а не грэе
Ў срэбнай абалонцы
Для каханых ён мілее
Нават больш, чым сонца.

Можна слоўмі грэць пустымі,
А душу халодзіць.
Можна мець «сяброў»,
Ды з імі
Шчырасць не уродзіць.

Мы звяртаемся да Бога
Думкамі нясмела:
«А чаму няшмат такога,
Каб свяціла й грэла?»

## Цяжка жыць?

Цяжка жыць...
Навошта цяжка?
Замест
«Цяжка»,
Лепей
Важка.
Замест
«Цяжка»
Лепш
Грунтоўна,
Ўдумліва і
Паслядоўна.
Паўнацэнна і
Сумленна,
Паўнакроўна і
Духоўна.

*

Так жывіце —
Й «цяжка»
Згіне,
«Цяжка»
Капыты адкіне.

## Прыкмецiны

Жыццё пражыць —
Не поле перайсцi...
А раптам поле мiннае?
На iншых, кажуць,
Бочку не кацi.
А калi бочка вiнная?
Брыдоцiну
За жонку не бяры,
Хоць лепшы
Сябар сватае.
Але ж яна багатая!
Я чуў, што ў Рым
Вядуць дарогi —
Ўсе!
Адна — налева,
Клятая.
Запазухаю камень
Не насi.
А калi гэта
Фiласофскi камень?
Ну, кажуць, i язык,
Што памяло,
А ў хаце не падмецена...
Яшчэ адна прыкмецiна —
Мы ведаем даўно,
Што грошы зло.
Няма ў нас iх,
А мы чамусьцi злосныя?
Мо днi ўсе высакосныя?

## Рыбакі-падлёднікі

Рыбакі-падлёднікі —
Цэлыя калоны.
Быццам дзеці-шкоднікі,
Нуль на забароны.

Лёд зусім танюсенькі,
А улоў малюсенькі.

Ім бы супакоіцца,
Зразумець, астынуць —
І хоць штосьці ловіцца,
Небяспека тоіцца,
Шмат іх тонуць, гінуць.

Гінуць смерцю лютаю,
І сям'я пакутуе.

Як марозна зробіцца,
Лёд ужо не гнецца.
Хай вам добра ловіцца,
Доўга хай жывецца,

Каля лунак гнуцца
І дамоў вярнуцца.

# Вясёлка

Сем колераў вясёлкі
Любімыя мае.
Прыгожыя анёлкі!
Сем колераў вясёлкі,
Якога ж не стае?

Разгублена адзначу,
(Каб мог, я б дапамог)
Што белага не бачу,
Тут не дагледзеў Бог.

Сцвярджаю адназначна,
Што погляду майму
І чорнага не бачна,
Вы здзіўлены — чаму?

Я растлумачу смела:
— Вясёлачка, свяці!
Але не чорна-бела,
Нам гэта плех ад’ела
Даўно ўжо, у жыцці.

## Спаткацца з неспатканым

Спаткацца з неспатканым —
    во цікава!
І што яно падорыць?
Радасць?
Шок?
Спаткацца з неспатканым —
    сёння з’ява,
Магчыма — у нязведанае крок.

Здаецца, лёс падараваў спатканні
З усім, што можна напаткаць —
    праз край.
Я сустракаў і здраду,
    і каханне,
Падзенні, ўзлёты, і расчараванні,
Сяброўства, страты,
    боль душы, адчай.

Жыццё на шмат чаго адкрыла вочы,
На таямніцы многія свае
Насустрач новым я
    сустрэчам крочу,
Вось толькі б не спаткаць
    пакуль ЯЕ.

## Варона

Бяскрылая, бясхвостая варона
Мяне чакала з ранку да цямна,
Бо толькі я карміў яе штодзённа,
І давярала толькі мне яна.

Затойваўся ля дрэва нерухома
Бездапаможны і жывы камяк.
Хто так яе параніў, невядома,
Хто і за што яе знявечыў так?

Я ў гэта верыў,
Сёння — болей веру:
Ўзаемасувязь між жывымі ёсць.
Я ад яе, птушынага даверу,
Ў душы адчуў няведамае штось.

Што адчуваю у душы цяпер я,
Прыйшоўшы ранкам да яе з ядой?..
Яна ляжала...
Побач кроў і пер’е —
Яна не размінулася з бядой.

Пасеяна тут жорсткасці насенне,
Я сустракаўся не аднойчы з ім.
Што ж, на зямлі даверу стала меней,
Якога не хапае нам усім.

Жыву прыгнечана, жыву натхнёна —
Сусвет наш шматгалосы, не нямы...
Як добра, што на свеце ёсць вароны
І салаўі, і матылькі, і мы.

*31.01.2017*

## Прачынанне

Я іду, нібыта ў першы клас
Урачыста на спатканне з ранкам.
Месяц саступіў святлу і згас,
Промнік з ранкам
 распачаў гулянку.

Прачынанне — незвычайны час,
Быццам прывітанне з маладосці.
Месяц згас —
 але імчыць да нас
Новае, хвалюючае штосьці.

Можна жыць,
 як той казаў, на пяць,
Штосьці страчваць
 і знаходзіць многа.
Можна шмат...
Ды толькі б не праспаць
Ні жыцця, ні ранку —
 анічога.

## Я – далёка ў мінулым

Што б я вам ні сказаў,
    чытачы дваццаць першага века,
Як шырока б і шчыра
    у вершах душу ні раскрыў,
Я — далёка ў мінулым,
    я — знікнуты цень чалавека,
Часу бездань між намі,
    гадоў вельмі розных разрыў.

Мой вам боль не баліць,
    ды і радасць мая — вам не ў радасць,
Як і мне сёння боль ваш
    і радасці — не зразумець,
Бо сучаснасць заўсёды —
    сучасных фасадаў параднасць,
Бо сучаснасць — сучасных аркестраў
    фанфарнасць і медзь.

Мой аркестр адыграў,
    майго лёсу фасад адпарадзіў.
Не, не ўсё я зрабіў, а рабіў,
    што дазволіў мне Бог.
Я любіў Беларусь — і тым самым
    і вам я не здрадзіў,
І тым самым — падмурак для вас
    умацоўваў, як мог.

## «Сябры»

Як шмат «сяброў» у тых,
хто на пасадзе,
Угодніцкіх, услужлівых, прыгнутых.
Ці карагодзяць, ці, як на парадзе,
Стаяць на выцяжку
ў прыёмных, па закутах.

— Як скажаце... Так-так...
Заўсёды згодны...
Іх лексікон —
салодзенькі, без солі.
Каб хто калі з іх
«не» сказаў — ніводны,
Каб хтосьці разагнуўся з іх — ніколі.

Калі ж з пасады
злезе той чыноўнік,
«Сябры» усё па-новаму узважаць —
Ці пры сустрэчы ткнуць:
«А-а, беспрацоўнік...»
Альбо дэманстратыўна
не заўважаць.

## Як любіць прыроду?

Як усе вы́,
Як усе мы,
Рыхтуюцца і ў школе
Да зімы —
Ладкуюць і падвешваюць
Кармушкі
На дрэвах,
Каб не галадалі птушкі.
Настаўнікі ўсе тут,
Як кажуць,
З лёду —
І вучняў вучаць.
Як любіць прыроду.
У школе тут
Сябе паводзяць
Годна —
Як гэта добра
І высакародна.
Развесілі і прэч пашыбавалі —
Душы прыемна й галачка ў журнале.

Дзьмуць завірухі,
Маразы лютуюць,
А вось кармушкі
З восені пустуюць...

## Мушу жыць

Я нарадзіўся
	не ў сталіцы,
Сярод рэклам крыклівых,
А ў вёсачцы,
	якая сніцца.
Сярод лясоў шумлівых,

Сярод бароў дзіўнагамонных,
Сярод лугоў квяцістых,
Пад шатамі
	нябёс бяздонных,
Каля крыніц празрыстых.

Тут пах хваёвы і сунічны,
Птушыныя рулады.
Я ж мушу жыць
	жыццём сталічным,
Між мітусні і чаду.

## Сказ кароткі

У беларуса —
Брат старэйшы
Не за мяжою,
А тутэйшы.
Ад продкаў продак,
Ад зямлі,
Дзе рупіліся,
Дзе жылі
Бацькі, дзяды
І пра-пра-продкі.
А мы ад іх —
І сказ кароткі.
Чужынца —
Гэта не сакрэт,
Не брат ён —
Сябар ці сусед,
Яго, як хочаш, назаві.
Браты —
Заўжды адной крыві.

## Навошта вы тут?

Нідзе не схавацца
Ад цэзію...
Гаркотнай да болю
Паэзіяй
Хачу паспрыяць чалавеку,
Раскрыць,
Паказаць небяспеку.
І цэзію я,
І стронцыю
Б’ю «ў грызла»
Адчайнай старонкаю.
Навошта вы тут —
Праклятыя,
Драпежнікі
Мірнага атаму?

## Не ганіся... за двума

Вось што было на паляванні —
На ўскідку у лісу я цэліў.
І хоць спяшаўся ў хваляванні,
Бабахнуў і яе застрэліў.

Падбег...
Яна ж ляжала ціха,
Але з адкрытымі вачыма.
Раптоўна, як на тое ліха,
Паволі заяц клыпаў міма.

І марыцца маёму воку:
Мне ўсе зайздросцяць, як герою —
Ліса вісіць з аднаго боку,
З другога заяц — так я мрою.

Бабахнуў я па ім з гарачкі,
Ды смалянуў, відаць, няўдала,
Бо заяц мой — каб яго качкі,
Нырнуў у ельнічак, даў драла.

Я да лісы кірую чуні,
Але аслупянеў раптоўна —
Адны сляды ад той хітруні,
Збег ад мяне трафей каштоўны.

## Проза і паэзія

Хаваюся ад марозу
У хату, ў жыццёвую прозу
Дзе — толькі ступі за парог,
Тут кожны куток,
Як радок,
Прачытаны мной —
На зубок.
І ўсё-ткі паэзія, браце,
Не ў цёплым запеччы,
Не ў хаце,
А там, дзе бязмежны абшар,
Дзе вецер — у грудзі, у твар,
Дзе лесу заснежаны веліч,
Дзе сонечных зайчыкаў безліч.
Ўсё гэта ў жыцці, ад вякоў —
Выток паэтычных радкоў.

## Колкасць

Не рваў я ружы,
　　　　　　не абламваў глог,
І не бадзяўся
　　　　　　ў гушчары паўночна,
А сколаты ад галавы да ног
Употай некім,
　　　　　　некім — ідавочна.

Крутнуўся, павярнуўся і — укол,
Як кажуць,
　　　　　　не паспеў міргнуць і вокам.
Але я й сам —
　　　　　　далёка не анёл,
Магу кальнуць кагосьці незнарокам.

З гадамі абрастаем пакрысе
Нястрыманасцю, колкасцю паводзін.
Зрабіліся калючымі мы ўсе —
А ці ж былі мы гэткімі з народзін?

# Аплакванне зімы

Зіму аплаквае
          яе апошні дзень
Адлігай і падталасцю на стрэхах.
А гурба пад акном,
          як дзед-гарбень,
Згарбела яшчэ больш.
          ёй не да смеху.

Ажылых верабейчыкаў базар
Раптоўна пазванчэў,
          прачнуўся зрання.
І сонейка паласкавелы шар,
Здавалася, чакаў
          з вясной спаткання.

Павесялеў, памаладзеў абшар,
Ды затаіўся люты белабокі.
Зіма — не папяровы каляндар.
Яна й сакавіку змарозіць шчокі.

## Душы шматгалосіца

Патрэбнае,
Непатрэбнае,
Прыстойнае,
Ганебнае —
Шмат у сябе ўвабрала
Мая памяць.
Напоўненасць памяці шчыльная,
Разбэрсанасць інфармацыйная
Радзей саграває душу,
Болей — раніць.

Ўспамінаў душа-памяркоўніца,
З гадамі ўсё поўніцца,
Поўніцца
Галоскамі новых часоў
І падзей.
І памяці шматгалосіца
Па-свойму
Ў жыццё маё просіцца —
Ўсё болей нявечыць душу,
Саграває — радзей.

## Кніга спачуванняў

Кніга спачуванняў у душы
Пухне ад няспынных некралогаў
Хоць пішы ў яе,
            хоць не пішы,
Спраўна смерць дапісвае нябогаў.

Вось і Ціхановіч Саша ў ёй...
Ў гэту кнігу ўпісаны раптоўна.
Добры, шчыры, даўні сябар мой —
Сорак пяць гадоў сяброўства роўна.

Смерці не бывае без прычын,
Хоць жыві разгульна,
            хоць напеўна...
Ён такі, па шчырасці, адзін
І апошні быў такі, напэўна.

*30 студзеня 2017 г.*
*дзень пахавання*
*Сашы Ціхановіча*

# Страта

> Я плачу, крычу:
> дзе мая тут віна?..
>
> *Каця Лышчышына*

І я пакутую —
                    у чым
Твая віна, анёл бязгрэшны?
За што над лёсам над тваім,
Адбыўся жорсткі суд паспешны?

Твой першы паэтычны крок
Апошнім стаў на ўзлёце мары.
Твой крык перадсмяротны й шок:
«Ці ж заслугоўваю я кары?»

Ты заслугоўвала жыцця,
Жыцця, кахання, кніг узнёслых.
Цябе, нявіннае дзіця,
Падсцерагла віна дарослых.

За жах Чарнобыльскі прабач,
Пакутую, душа за сведку.
Цябе не вернеш — плач ні плач,
Цябе, жанчыну і паэтку.

## Падманная знешнасць

Не ламайце дарэмна звіліны
Не дагрэбацца вам
 да ісціны —
На ўсе гузікі
 я зашпілены,
На адзенні —
 душой расхрыстаны.

Парушынкі на мне
 не заўважаны,
Не запляміць і зайздрасць нечая.
Накрухмалены я, нагладжаны,
Па адзенні —
 душой скамечаны

Маці Божая —
 беззаганная,
Безграхоўная — Свята Троіца.
Наша ж знешнасць —
 нярэдка падманная,
За усмешкаю гора тоіцца.

## Крыж

Перад намі з народзін —
бязмежнасці свет,
Мы адольваем шлях,
Богам наканаваны,
Мы змагаемся, марым,
імкнемся да мэт,
Гэта — наша жыццё, гэта —
крыж наш, так званы.

Шлях адольваем мужна —
цяжэюць гады,
Ўсё бліжэй край жыцця,
зеўрыць нам больш выразна.
Мы нясем гэты крыж
без пытання: — Куды?
Год за годам нясем
безадказна й адказна.

Лёсу час не стаіць,
хоць ідзі, хоць ляжы,
Хоць знямогся сустрэчным жыццём,
хоць у сіле.
Мы даносім свой крыж
да апошняй мяжы,
Каб жывыя уздвіглі яго на магіле.

# Малёк

Кажуць, зранку маліся,
Днём — удачу лаві —
Не прыгожай радзіся,
А шчаслівай жыві.

*

Маладыя бацькі
Хваляць Бога услых
За дарунак такі —
Ёсць дачушка у іх.

Над ружовасцю шчок
Вочкі-зоркі блішчаць.
Ненаглядны малёк —
Васілінкаю зваць.

Цешыць мамку малёк
Цешыць татку яна.
Вось і першы ўжо крок,
Што ні дзень — навізна.

Васілінцы ўжо год,
«Юбілярка», пішы.
Слова «ма-ма», як мёд,
Для бацькоўскай душы.

Што для шчасця яшчэ
Трэба ў моры жыцця?
Час няспынна цячэ,
Падрастае дзіця.

Першы крок — першы раз.
Першых слоў шчабятня.
А затым — першы клас
І урокі штодня.

Ужо наведваюць сны
Не дзіцячыя сны.
Гэта — подых вясны...
Вось і баль выпускны.

Зноўку тут першы раз
І апошні ўжо раз,
Як на крылах нясе
Выпускны школьны вальс.

Васілінка — вясна,
Кожны бачыць здалёк.
Ды з маленства яна —
Ўсё Малёк ды Малёк.

*

Васілінка й Алесь
Закахана жылі
Летуценне іх дзесь —
Цесна тут на зямлі.

Цесна марам было,
Кліча ў неба вясна.
Ён — кахання крыло,
А другое — яна.

Кожны дзень, кожны міг.
Іх каханне нясе.

Хто ні ўбачыў бы іх,
Захапляліся ўсе.

Дый было ад чаго —
Баль вясны настае.
Ўся Малёк для яго,
Ўвесь Алесь для яе.

*

Абвясцілі усім —
Конкурс-баль для дзяўчат.
Маладосці парад,
Прыгажосці прагляд.

Ох, якая цана
Год у гонары жыць!
Зможа толькі адна
«Каралеваю» быць.

А дзяўчатаў — букет,
Прыгажуні ўсе — бач!
Тут, здаецца, ўвесь свет
І суддзя, і глядач.

Дзень ўрачысты такі —
Зал паўнюткі прыціх.
Тут сядзяць і бацькі
Канкурсантак усіх.

Дзень ўрачысты такі —
Прэса тут і журы.
Спонсары і дзялкі,
Тут малы і стары.

І пачаўся прагляд,
І закончыўся ён.
І гучыць для дзяўчат
Вынік, быццам скрозь сон.

Наступіла пара —
Гонар, смутак і шок.
Васілінцы — ура!
Каралева — Малёк!

*

Сярод тых гледачоў
Быў дзялок-прахіндзей,
Ўладамір Усачоў —
Костка ў горле людзей.

Меў ён грошы, таму
Не цураўся забаў.
А сумлення яму
Бог усё ж не дадаў.

Гонар быў у дзялка —
Зваў злачынства на «ты».
І паклаў на Малька
Вока Ўладзя круты.

Жыў —
Што грэх, што ні грэх,
Як парсюк за сталом.
Ён да брудных уцех
Шыбаваў напралом.

Пераняў неяк ён
Васілінку на дні:

— Каралеве паклон!
Праменад прыпыні.

— Што вам трэба? — Яна
Адхінулася ўбок.
— Я, Малёк,— круцізна!
Будзь маёю, Малёк!

Ад «навару» майго
Толькі дурань бяжыць.
Будзеш краляй — ого!
Будзеш ў золаце жыць.

Я адмовы тваёй
Ні на дух не прыму.—
І хоць жудасна ёй,
Адказала яму:

— Бачу вас першы раз,
Чую слоў вашых здзек.
Я не ведала вас,
І не ведаць бы век.

Кашалёк ваш ці нож
Хай мяне абміне.
Вось вам — Не! Да таго ж,
Ёсць каханы ў мяне.

Лепш Алеські няма,
Я належу яму.
Вы — нахабнасць сама,
Вы — няроўня яму.

Раптам штосьці ён пляснуў
Васілінцы у твар.

І закрылі вясну
Чарната, боль і жар.

І пачулася: — Ты
Мне адмовіла, зброд!
Пакаштуй кіслаты,
Каралева-урод.

*

Вось такая цана...
І за што вечны змрок?
Васілінка-вясна,
Васілінка-малёк.

З болю, з раны тупой,
Быццам свет гэты ўвесь...
З Васілінкай сляпой
Неразлучна Алесь.

## Насуперак

Я іду па роднае старонцы —
Дужы,
Блазнюковы,
Малады.
Радуюся раніцы і сонцу,
Расхінаю пругкія гады.

Ах, пяшчоціць як
зямелька-маці!
Ах, як шчодрыць абяцанкай лёс!
Як духмяна пахнуць сенажаці,
Як бяздонніць акіян нябёс!

Напрасткі выкрочваю,
Няспынна,
Ў новы дзень
пракладваю сляды...
Вёсачкі атульваюць гасцінна,
Ветліва вітаюць гарады.

Ах, якая раніца жывая!
Як жыццё і вабіць, і хіне!
Толькі для мяне
вясна спявае!
Свет вялікі —
толькі для мяне!

На жыццё гляджу зачаравана —
Што ні крок,
ні мара — вышыня!..

Дзіўная пара самападмана,
Светлага юнацтва чысціня.

*

Я іду...
Дарога не стаміла.
Ў сэрцы — вольнасць,
У душы — агонь.
Я — у сіле...
А чаму — у мыле,
Быццам пугай высцебаны конь?

Думка непакоіць:
— Што за чары?
Я люблю жыццё,
Жыццё — мяне.
Жывяць,
Вабяць,
Крыляць тыя ж мары,
Што ж тады хаду сцішае, гне?

Не! Я памыліўся!
Быць не можа,
Каб трыножыў хтосьці мой разбег.
Вунь, як выпраменьваюць прыгожа
Мары — майго лёсу абярэг.

А жыццё вакол!
Якое дзіва!
А душы які узнёслы стан!
Я далей выкрочваю шчасліва...
Дык няўжо ізноў самападман?

*

Я іду...
Аб марных спраў каменне
Спатыкацца толькі паспявай.—
Паўразуты,
У старым адзенні...
А ці ж зломак я?
Ці ж я гультай?

Колькі трэба
　　　мужнасці і злосці,
Каб не згаснуць
　　　знічкай у начы,
Адчуваць сябе,
　　　як дзірка ў мосце,
А ў душы надзею берагчы.

Колькі трэба шчырасці?
Без краю!
Каб у казку верыць,
　　　як дзіця,
Каб не даць халоднаму адчаю
Вытруціць жывое ўсё з жыцця.

Замяла б мой лёс
　　　гадоў завея
Нават і без памінальных слоў,
Каб ні ратавальніца надзея
І да краю роднага любоў.

*

Я жыву тваім жыццём,
　　　мой краю,
Нашу повязь час не закране.
Дзіўна як!

Жыццё я́ абмінаю
Ці жыццё праходзіць паўз мяне?

Ты, жыццё, маўчыш...
Скажы, Ўсявышні,
У душу шапні, калі не ўслых:
Я жыццю патрэбен,
альбо лішні?
Я адзін ці колькі нас такіх?

Вось і б’юся лбом у перашкоды,
На ружовасць дзён
кладзецца цень.
Захады часцей,
радзей усходы,
Ноч даўжэе,
Карацее дзень.

Ах, які ты дзіўны,
свет бязмежны!
Захаплення, навізны —
праз край.
Дык няўжо настолькі непазбежны
У душы даверлівай адчай?

Я іду...
Даўно не блазнюковы,
Ў сэрцы — вера,
У душы — святло.
Я ісці насуперак гатовы
Перашкодам, колькі б не было.

*

Я з табою,
ты са мной, мой краю,

Кожны крок з табой
і кожны міг.
Я гады, на жаль, не расхінаю,
Я даўно скрываваіў лоб аб іх.

Змовы... перашкоды...
Штосьці... хтосьці...
Ды і ўласных слабасцяў расхляб...
Колькі трэба мужнасці і злосці,
Каб не ўпасці,
не зламацца каб.

Колькі трэба
мужнасці і злосці,
Каб трымаць абставінаў удар,
Каб да сівізны ад маладосці
Несці ў сэрцы
творчы Божы дар?

Мне ісці дапамагалі?
Казкі!
Чым я абавязаны?
Каму?
Ўсё, што я зрабіў —
не з нечай ласкі,
А, хутчэй, насуперак ўсяму.

Я ў дарозе...
Я з яе не збіўся,
Я не збочыў у нябыт з яе.
І хоць я здарожыўся,
стаміўся,
Мне дарога сілы надае.

# Рэквіем

Зямля — гэта люстэрка,
Люстэрка нашых спраў,
Яна —
Энцыклапедыя падзей.
На ёй калісьці
Продак наш
І сеяў, і араў —
Быў плён
І для зямлі,
І для людзей.

«Калісьці...»
«Быў» — чытаецца
Нібыта некралог...
Чаму, нібыта?
Некралог і ёсць!
Над рэквіем працуе
Чалавецтва —
Бачыць Бог,
Ў гісторыі яно —
Часовы госць.

*

Не толькі продак наш,
Арэм і сеем мы,
Але часцей за хлеб —
Самазнішчэння зло.
А гэта — шлях
Да бездані прамы,
З якой не выбрацца,

Нас — быццам
Не было.

Што за бязмозгліца —
Трагедый крутаверць?
Жыццё застыла
На апошнім рубяжы.
Мы пішам рэквіем —
За партытурай
Смерць.
Прад ёй скрываўленыя ноты
Ці крыжы?

*

То тут,
То там
Чуваць па ўсёй зямлі:
Да ноты нота,—
Да вайны вайна.
Мы ёсць пакуль?
Ці мы — ужо былі?
Жыццё бясцэннае?
Ці грош яму цана?

Ды што ўсё —
Мы ды мы?
Што? Знай цану?
Мы нават над жыццём цары!
Ну што ж?..
Зямлі сваёй мы —
Ножык у спіну,
Мы фауне і флоры —
Ў сэрца нож.

*

Паклон табе,
Жыццё,
Ва ўсе часы!
Вітаю вас,
Расліны,
Горы,
Рэкі,
Лясы,
Жывёлін, птушак галасы!
Ў апошнюю чаргу
І вас вітаю —
Чалавекі.

Сярод жывога
Ёсць і скарпіён —
Да ўсіх
Яго паводзіны благія.
Й сябе забіць гатовы,
Кажуць, ён.
Не толькі ён!
Не толькі —
Ёсць другія!

Штодзень
Жыццю свайму
«Другія» б’юць пад дых,
Штодзень
Свайму жыццю —
Па галаве.
Ці ж будзе доўгі век
У вас,
У нас,
У тых,

Хто піша рэквіем,
Бо днём адным жыве?

*

Газеты
Радыё
І тэле,
Й інтэрнэт,
Як прапаведнік
Бед людскіх адзіны:
— Страляюць!
Б’юць!
Крывёй зыходзіць свет! —
Цікава як!
Вось гэта дык навіны!

Няма такога —
Й сумна жыць, прабач.
І ўжо, як кажуць,
Перцу просіць сэрца.
Пакуты,
Стогны,
Боль,
Дзіцячы плач —
Й маўчанне наша
Ў рэквіем кладзецца.

Адкуль мы, людзі?
Хто мы?
Для чаго?
Жыццё пакуты
Альбо Божы дар?
Ён, рэквіем,
Наведвае і пры жыцці таго,

Хто у жыцці —
Масоўшчык, не жыхар.

*

Над будучымі
Нашымі магіламі,
Над тым, што паглыне
Няўмольна нас,
Мы пішам
Рэквіем
Нябачнымі чарнiламі,
Якія праяўляюцца
Праз час.

Чарнілы праявіліся,
А нас —
І выстыў след,
А пасля нас —
Бязлюддзе
І зіма...
Ах, як гучыць
Ўрачыста напаслед
Твор твораў —
РЭКВІЕМ,
А слухачоў няма.

## Вось пытанне...

У чым у нас найбольшая патрэба?
Чаго нам не хапае?
Працы? Хлеба?
Відовішчаў?
Сяброў?
Грахоў?
Тусовак?
Зямлі уласнай?
За мяжу вандровак?
Чаго ж так не хапае нам?
Чаго?
Апроч таго, што маем,
Аднаго.
Апроч усіх,
Агучаных найменняў,
Галоўнага не маем —
Разумення:
Што будучыні лёд
Пад намі тонкі,
Што мы — не матылькі,
не аднадзёнкі.
«Дабранач» — перад сном,
Як развітанне.
А ранак ці надыдзе?
Вось пытанне...

## Апошні дзень

Як уявіць жыцця апошні дзень,
Бязлітасны, перадсмяротны цень?
Каб папярэдзіў Бог ціхутка нас,
Што б чалавек зрабіў у гэты час?
Адчуў, напэўна, кожны б сэрца мукі,
Адны б чакалі, апусціўшы рукі,
Свайго, такога хуткага канца,
А хтосьці — да святога да Айца
Пабег, каб замаліць свае грахі —
Авось у рай патрапяць патрахі!
А нехта пасняшыць усмерць напіцца —
Ад пекла пітуну не адкруціцца.
Прыкіне хтось: —
            Памру, хоць круць, хоць верць,
Пятлю на шыю й апярэдзіць смерць.
У дзень такі —
            ва ўсіх сцязя свая...
А што б, цікава, адчыбучыў я?
Нашто мне рай?
Напіўся б я найперш,
А потым напісаў апошні верш
Пра тое, як грашыў у маладосці —
А раптам прачытае яго хтосьці,
Ды і ухваліць: — Паміраў, не ныў,
І усміхнецца — Не дарэмна жыў.

# Пустое

Было знаёмства выпадковым,
Ён — слова,
І яна — паўслова,
Ён пустазвоніў
І яна.
А вакол іх цвіла вясна.
На рандэву, на выпадковым,
Ён быў на «Мэрсэдэсе» новым.
Ён расказаў, «сакрэт» абтросшы
І пра маёмасць,
І пра грошы.
Яна яму — пра прыгажосць,
Адзінае, што ў яе ёсць.
Ён...
Ну, на тое й кавалер —
І з месца кінуўся ў кар'ер:
— Хачу я патануць хутчэй
Ў бяздоннасці тваіх вачэй.
Да губ тваіх мне б дакрануцца,
Тваім дыханнем захлынуцца.
Я буду прад табой заўжды
Ніжэй травы,
Цішэй вады,
Мне хочацца тваім быць ценем
І цалаваць твае сляды...
Ён даў бы Цыцэрону фору,
Ён перапеў бы салаўя.
І вось, падняўшы рукі ўгору,
Яна сказала: — Я твая!
І бастыён, як кажуць, паў.
Тут ён змікіціў:
— Я прапаў!

Бо чуў:
— Твая я, без астатку,
Але перапішы спачатку
Ты на мяне кватэру, дачу,
І, безумоўна, у прыдачу
Свой шасцісоты «Мэрсэдэс»...
Тут кавалер наўспят палез.
Не, ён не кінуўся ў абход,
А даў адразу задні ход:
— Хацеў спачатку я пасцеллю
Цябе праверыць прад вяселлем.
— А я цябе — тваім жыллём,
І «Мэрсэдэсам», і рублём.
Таму, упэўнена — мы квіты...
— Пайшла ты... прэч!
— Туды ж ідзі ты!...
Ці не таму ён даў наўспят,
Што «Мэрсэдэс» быў на пракат,
Не меў кватэры, грошай, дачы.
Ды не зрабіў бы ён іначай,
Каб гэта ўсё напраўду меў,
Бо тая, ад якой ён «млеў»,
Была здалёку сімпатычнай
Ад аперацыі пластычнай.
Разбегліся ў бакі яны,
Не заўважаючы вясны.
Вось так...
Пустым было ўсё тое,
Бо на пустым расце пустое.

## Госці

І прыдумаў хтосьці
Запрашаць у госці.
Добра калі добра —
Не бяруць за «зёбры»,
Ўсё з’ядаюць «чосам»
І не круцяць носам.
Што ні дай — па густу,
Сала ці капусту,
Бульбу ці салату —
«Пахвалёна ў хату».
А бываюць госці —
Аж кіпяць ад злосці,
Што ні дай — нясмачна:
«Штось ікры нябачна».
Тхне ад поснай міны:
«Як без асятрыны?
Гэта што — аб’едкі?
Ну а дзе крэветкі?
Ананасы? Дыні?
Кан’які? Марціні?..»
Круцяць носам, рыюць,
Ды яшчэ й «абмыюць».

*

Зладзіць стол пашанна
Проста, не складана
Проста, на здзіўленне
Ладзіць не ўчашчэнне,
Не выстрэнчваць блюды,
Разнасолаў груды,
А рабіць па-свойску
Для сустрэч сяброўскіх

На любое свята —
Чым багата хата.
Й без сталоў шыкоўных
Шмат сустрэч духоўны.

*

Хтосьці ладзіць госці
Не для весялосці.
Там — душы нікольні,
Выпендрыцца б толькі.
На сталы на тыя
Кваляцца крутыя
Іншая там «такса»,
Там кіруюць баксы
Там...
Не наша справа,
Нам там не цікава.

## Доктарава назва

Ці на мяне ўгнявіўся Бог,
Ці чорт мяне сурочыў?
Я раптам неяк занямог —
І я тады з апошніх ног
Да доктара заскочыў.

Узвыў я: — Мне прыйшоў канец!
Ледзь устаю з пасцелі.—
А доктар, як святы айцец,
Як медыцыны ўсёй мудрэц,
Спытаў: — А што вы елі?

Чым вы маглі атруціць кроў?
Ці ж малаком праз соску?
А я яму, без лішніх слоў,
Без аніякіх там прадмоў:
— Еў, доктар, вашу цёзку.

Ён думаў — я лухту нясу,
А я дадаў з уздыхам:
— Еў доктарскую каўбасу,
Няхай бы яе ліха.

Сказаў мне доктар: — Мілы мой,
Лячыць ты будзеш язву.
Які дурны атруце той
Даў доктараву назву?

## Тады й цяпер

Жыццё — імклівы рух,
Імчыць туды-сюды,
Ледзь пераводзіш дух.
І кожны дзень,
І кожны год —
Цэйтнот.
Жыццё — адныя гонкі,
То — да дзяўчыны спешна,
То — ад жонкі.
Затым...
«На лева» зноўку,
То на сяброўскую тусоўку.
Бывае, там нап’ешся,
Як свінчо.
Зноў — па замкнёным коле,
Язык паклаўшы на плячо,
Шукаем ветру ў полі.
А ў старасці пакуціць нас
Патрачаны дарэмна час.

*

Цяпер «спяшаемся» —
Нага цераз нагу,
Да доктара,
Заняць раней чаргу.
Даўно асвоілі
Сваю мы Меку —
Ледзь ногі цягнем
(Не да дзевак, не ад жонкі)
У аптэку
Ужо сляза з вачэй цячэ
І ціск адолеў,

А яшчэ,
Сярэдзіну нібы сабакі рвуць,
Пад лыжачкай пячэ.
І шмат, і шмат, і шмат яшчэ чаго —
Такое скруціць хоць каго.
І, азірнуўшыся назад,
Сваёй не праклінаю долі,
Бо ў маладосці бегаў шмат
А трэба было — болей.

## Надзея, Вера і Любоў

Адчуў я ў сэрцы май, не без прычыны,
А полымя агню адчула кроў.
Сустрэліся мне дзіўныя дзяўчыны,
Іх тры — Надзея, Вера і Любоў.

Збывацца сталі мары-дабрадзеі,
Душа інтрыгі хмельны водар п'е.
Найперш я падкаціўся да Надзеі,
Казыр мужчынскі стаўлю на яе.

Ад думкі пра яе я проста млею,
Міжволі абміраю ад сустрэч.
Я ускладаў надзеі на Надзею,
Яна ж надзеі шуганула прэч.

Яна мне адказала з мінай поснай:
— Як кавалер вы ўсё-ткі не ў цане.
Мая надзея ўмёрла не апошняй,
А першай за ўсе мары й за мяне.

Крутнуў я зацікаўленасць да Веры,
За ёй, як цень шыбую — аж узмок.
Але і да яе мне мала веры,
І гэта краля верне нос у бок.

А што ж Любоў?
Я хуценька да Любы:
— Якое ў вас імя! О цуд — Любоў!
— Так, я Любоў.
І ўсё ж вы мне не любы —
Адчуў я душ з яе халодных слоў.

Вось вам Надзея, і Любоў, і Вера...
Чароўны і загадкавы букет.
У чым інтрыга — хай яе халера?
У чым жа ён, маіх няўдач сакрэт?

Няхай цвіце букет чароўна-дзіўны,
А для мяне — усё наадварот.
Для іх я — нейкі экспанат архіўны,
Мне — семдзесят, а ім — па дваццаць год.

# Аслы і прайдзісветы

Круціўся я, як той ваўчок,
Каля гатэлю, на пляцоўцы,
Авось хто трапіць на кручок,
Бо жонка — у камандзіроўцы.

А я ж мужык — агонь і кроў!
Вы ж самі бачыце — цукерка!
Я б і за лепшага зышоў,
Каб не глядзеўся у люстэрка.

О, гэты дзіўны прамінаж!
Я не дарэмна тут маячыў,
Бо клюнула з разгону аж,
Такая краля — век не бачыў.

— Я тут, у вас упершыню, —
Яна салодзенька прапела.
Я абамлеў — ці ж гэта сню!
І кроў дурная закіпела.

Мяне яна — хваць пад руку,
І паплылі мы з ёй паволі.
Хто з нас тады быў на кручку,
Мне не даведацца ніколі.

Ад шчасця быў я ледзь жывы,
Яна ж была — сакрэт сакрэтам.
Спытаўся я:
— Напэўна, вы
Спыніліся ў гатэлі гэтым.

І адказала мне мамзэль,
Я й сёння тыя словы чую:
— Ды ну яго — гатэль-бардэль!
Мо я у вас пераначую?

Я ўсё прыкінуў — сяк і так —
Ў ад’ездзе жонка —
Я — на волі...
А што? Пакуль я «халасцяк»
Ў бурду жыцця падсыплю солі.

І ўсыпаў я — усю за раз,
Успомню — дрыжыкі па целе.
Было і без гатэлю ў нас,
Мудрэй нат, як у тым гатэлі.

Ай, што было!
Ой, як было!
Мінула ночка, як імгненне,
Як сон...
Ды раніцай прыйшло
Гаркотнае працверазенне.

Я, па пасцелі, мац — няма
Яе, мамзэлі той пад бокам
Я й па пакоях, шусь — дарма
Аббегаў іх шалёным скокам.

Я — у шуфляду — тут, у ёй,
Учора шчэ ляжалі грошы.
Я — у другую — Божа мой!
Зноў жах, ды гэты — самы горшы.

Прапалі жончыны брылы
І залатыя пабразгодкі.
Што ж, пэўна, для таго й аслы,
Каб прайдзісветам жыць салодка.

Вось я і заварыў бурду,
Перасаліў, аж сэрца шчыпіць.
А жонка вернецца — тады
Яшчэ падсыпіць,
Ой падсыпіць!

Я — у міліцыю. І што ж?
Тут — аблапошаных навалам.
Мяне, на сто такіх памнож,
Аказваецца — будзе мала.

## Што есці?

Не ешце мясное —
Разумнікі вучаць,
Мясное вас будзе
Нястраўнасцю мучаць.
Чума афрыканская
Тоіць пагрозы.
Гавядзіну —
Алюбавалі лейкозы.
У сале таксама —
І страхі, і жуды,
Яно вам заб’е,
Закаркуе сасуды
Кураціну —
Зноў ужываць небяспечна,
Там АШ-2-1 —
Нейкі грып невылечны.
Гароднiна — гэта
Нітраты, нітрыты,
І хіміі поўны букет
Знакаміты.
А, можа б, нам
Рыбным меню адкупіцца?
Ды ў рыбе шмат фосфару —
Будзем свяціцца,
Як лямпачка тая,
Што свеціць у вочы —
І вы, і сям’я
Не заснеце ўсе ночы.
За што ні вазьміся —
Бацылы,
Мікробы,

Усё, што ядзім мы —
Хваробы,
Хваробы.
Мы плоцім грашыма
Й здароўем за гэта.
Дык што?
Нам хана?
Наша песенка спета?
Вось мы й дажыліся —
Ні стаць
І ні сесці.
А як жа нам жыці?
А што ж тады есці?

## Што піць?

Наконт пітва
Вядомая братва
Запхне мяне за пасак
Адной левай.
І тым не менш,
Я буду вельмі рады,
Па-дылетантску
Даць свае парады.

*

Не піце вы —
Няхай яго магіла,
«Чарніла»
Яго гатуюць,
(У штаны б ім солі)
Абы з чаго,
А цэны аж да столі.
Было калісьці!!!
«Фаўсты», «Буслы»
Ці «Сонцадары»
Упрыгожвалі сталы.
Я памятую —
«Сонцадар» з «Буслом»
З прыемнасцю
Піліся за вуглом.
Было яшчэ тады
За рубель два —
О, маць!
Яно пілося,
Як за рубель пяць.
А сёння што?

«Чарніла», як бурда —
Не піце, спадары ці... гаспада!
Што да гарэлкі —
Вадкасць не благая,
Адно благое ў ёй —
Цана кусае.
Кан’як...
Што ж у бутэльцы той?
Загадка.
Яго і выпіць хочацца,
І гадка,
Бо кан’які, у большасці,
Падробка,
Глынуў кілішак
І — амінь, і — кропка.
Кан’як, нібы
Прыгожая суседка,
Прыцягвае ён,
Вабіць этыкеткай.
І нават, калі купіце нармальны,
Не піце той кан’як,
Хоць натуральны.
І не таму,
Што пахне ён клапамі,
Кан’як — не сябар нам,
Мяркуйце самі —
Калі, як кажуць,
Гэты плод укусіш,
Штаны апошнія
Закласці мусіш.
Лікёр —
Як з цукрам чай,
Відаць здалёку.

Яго ці піў, ці не —
Не ў водным воку.
А ром гарчыць,
Як жонка пасля шлюбу.
Ды ну яго, той ром
І тую Кубу.
Шампанскае —
Для форсу, для паказу.
Туды, ў яго
Напампавалі газу.
Увесь той шык,
Што срэбная галоўка,
Была даўней
Не горшай газіроўка.
Капейка — без сіропа,
Тры — з сіропам,
Далёка да яе
Усім Еўропам.
А вось да самагонкі
Я з павагай,
А як духмяна пахне
Бочка з брагай.
Пад ёй агонь гарыць
Пасалавела.
За брагай сочыш,
Каб не падгарэла.
Затым — кап... кап...
Па кроплі, не цячэ.
А як пяршак
Бадзёрыць і пячэ!
Ад самагонкі
Не баляць галовы,
Адна праблема ёсць,

Каб участковы
Не ўнюхаў,
Гэты баль не сапсаваў
І барматуху
Не канфіскаваў...
Ну, вось і ўсё,
Заканчваю тыраду,
Галоўнае — не піце да упаду,
А як вучыў калісьці Нэру —
Піце ў меру.
Бывайце ўсе!
Ну а цяпер, пайшоў я,
Калі што ёсць —
Глыніце на здароўе.

## Як спаць?

Жыццё — нашых спраў
І учынкаў стасунак.
Нас вучаць, што сон —
Гэта Бога дарунак,
Што ночы для нас —
Жыватворныя лекі.
А лекі павінны прымаць
Толькі ўмекі.
Дык вось, каб выконваць
«Умекавасць» гэту,
Мы спаць можам толькі,
Не йнакш — па рэцэпту.
І так — спаць на правым баку —
Небяспечна.
Прыціснуцца лёгкія —
Спаць будзем вечна.
На левым баку
Будзем спаць —
Хуткі фініш,
Бо сэрца прыціснем —
І лапці адкінем.
А спаць на спіне будзем —
Ныркам хана...
Такая яна
Для здароўя цана.
А на жываце спаць,
(Адкрыю сакрэт) —
Дыхалка ў падушку —
Бывай белы свет.
Спаць седзячы —
Зноў небяспека, браткі,
Бо скрывяцца нашы
За ноч пазванкі,

Дый копчык адчуе
Знявагу у сне —
На працы — на мне,
Яшчэ й ноччу на мне.
А стоячы спаць —
Гэта поўны экстрым,
І тут забароны
Малым і старым
А на галаве
Могуць спаць толькі ёгі.
Дый зваліцца коўдра,
Раскрыюцца ногі.
А што, каб увогуле
Сну адцурацца —
І ноччу для кожнага
Знойдзецца праца.
Вытворчасць павысіцца,
З ёй і зарплата.
Праз год ці праз два
Зажывем больш багата
Адна небяспека —
Каб я альбо ты
Не збеглі ад жонак,
Як тыя каты,
Ці жонкі,
Што так аддаваліся сну,
Ад нас не галопілі
«На старану».
Якая калісьці
Была благадаць!
А сёння пакутуеш —
Спаць ці не спаць?
Напасці —
На беднага ўсё чалавека:
Яда — небяспека,
І сон — небяспека.

## Як жыць?

Жыць трэба сур’ёзна —
Ні ух ты!
Ні ах ты!
Жывіце талкова,
Не з бухты-барахты,
Каб кожны ваш крок
Вам не вылез праз бок.

*

Паколькі пра крокі
Размову вяду,
Нялішне нам
Паразважаць пра хаду.
Не трэба хадой захапляцца,
Хто жвавы,
Бо храшчыкі хутка сатруцца
Й суставы.
Не лезьце ў аўтобус,
Не лезьце ў трамвай,
Там дыхаюць грыпам,
Мікробаў праз край.
Не лезьце ў таксі,
Бо таксіст аблапошыць —
Навошта ж на вецер
Выкідваць вам грошы.
Вязе вас міліцыя?
Гэта выдатна!
Вязуць вас яны
Не за грошы —
Бясплатна.
Калі ўжо кагосьці
Сустрэне турма —

І там — за бясплатна,
І там — задарма.
Жыццё прысвяціце
Радзіме і працы,
Сям’я пачакае —
Нашто хваляваццa?
Ды вось што,
Для ўласнага гонару-чэсці
З сяброўствам сваім
Да начальства не лезьце
Там іншае п’ецца,
Там іншае есца —
Жывіце па прымаўцы:
Знай сваё месца!
У госці хадзіце
Ў год раз, не часцей,
Бо прыйдзецца й вам
Адпрасіць тых людзей.
А дома прымаць іх —
Далёка не свята,
Крыўляйся прад імі,
Кармі іх —
Растрата.
І зноў жа,
Нялішнія грошы у вас...
Не, лепш не хадзіць
Ў госці ў год нават раз.
Наплюйце на цырк,
На тэатры, кіно.
Жыццё — гэта цырк
Кожны дзень —
І даўно.
Жыццё — і тэатр,
Дэкарацый тут горы,

А мы, як вядома,—
Акцёры,
Акцёры.
Начхайце на брудны
Падман-рэстаран.
Жыццё — гэта праца
І тэлеэкран.

*

Забыўся сказаць —
Не карайце ўжо строга:
— Царкву не мінайце,
Наведвайце Бога!

# Вешчы сон

Іван Гуровіч паспяхова скончыў сярэднюю школу міліцыі і яму было прысвоена спецыяльнае званне «лейтэнант міліцыі». Дзве зорачкі на пагонах — гэта ўзнагарода лёсу за тры гады напружанай вучобы.

Івану было ўсяго дваццаць пяць год і ён амбіцыёзна вылічаў у думках, праз колькі ж год ён даслужыцца да генерала.

Пэўна, кожны малады афіцэр у думках будуе грандыёзныя планы свайго службовага лёсу. І ў гэтым няма нічога такога, што магло б выклікаць з'едлівую ўсмешку. Марыць у жыцці павінен кожны, а для маладога афіцэра мара — гэта вялікі стымул для рэалізацыі сваіх здольнасцяў і намаганняў.

Першае месца службы, куды быў накіраваны Іван Гуровіч нельга было назваць перспектыўным, хаця з гэтай пасады пачыналі свой службовы шлях многія міліцэйскія чыны, нават генералы.

Участковы інспектара міліцыі ў сельскай мясцовасці — гэта не толькі ахоўнік правапарадку, але, як яшчэ кажуць, і гаспадар, і святар.

Гаспадар — таму, што пад яго пільным вокам знаходзяцца ўсе населеныя пункты разам з жыхарамі і ўсе сельгаспадаркі на яго ўчастку.

Святар — таму, што многім нярэдка даводзіцца, вольна ці нявольна адкрываць яму душу, як на споведзі.

Усіх гэтых падрабязнасцяў Іван пакуль не ведаў, як і шмат чаго іншага, як, напрыклад — з чаго пачынаць?

Адна справа, калі падчас вучобы ён быў некалькі дзён на практыцы пры вопытным участковым. Але што можна зразумець за кароткі тэрмін, так званай практыкі? Ды і ў той час Іван не думаў, што пачне сваю службовую біяграфію з такой пасады. Ведаў бы — дняваў і начаваў

бы ля таго участковага, углыбляўся б ва ўсе тонкасці прафесіі, запісваў бы кожны крок, кожную яго заўвагу.

Цяпер, напінаючы памяць, сёе-тое ўспамінаў... Абыходзілі двары і сем'і тых, хто стаяў у міліцыі на ўліку, як неблагасумленныя, як з нейкага прытону выцягвалі бамжа, да якога гадка было дакрануцца, а ўчастковы тузаўся з ім ледзь не ў абдымку.

Адно толькі запомніў даволі ясна — гэта словы свайго часовага настаўніка: «Запомні, сынок! Участковага могуць любіць ці не любіць — галоўнае, каб паважалі».

Цяпер Іван, ідучы па вёсцы, вітаўся з людзьмі і ўважліва назіраў за імі, але ў поглядах заўважаў толькі зацікаўленасць, насцярожанасць, нават абыякавасць, а вось павага пакуль адсутнічала, што вельмі яго засмучала.

Кабінет Івана Гуровіча знаходзіўся ў будынку сельскага савету, таму з Васілём Васільевічам, старшынёй сельсавета, ён амаль з першым і пазнаёміўся і, як падалося, знайшоў з ім паразуменне.

Першым усё ж быў яго папярэднік, участковы Філонаў Ігнат Сцяпанавіч. мясцовы жыхар, які сваё адслужыў і адыходзіў на заслужаны адпачынак.

Вось гэты Філонаў і пакідаў свайму маладому калегу стос розных, не даведзеных «да розуму» спраў і заяў. Менавіта тое, што Ігнат Сцяпанавіч быў мясцовым жыхаром і паўплывала на назапашанне і спраў, і заяў, бо Філонаў, збіраючыся на пенсію, разумеў, што і далей яму жыць сярод гэтых людзей, і псаваць з імі адносіны не вельмі імкнуўся.

Хаця, кажуць, раней быў і прынцыповым, і адказным.

«З чаго ж пачынаць? — ліхаманкава думаў Гуровіч,— З чаго?»

Васіль Васільевіч, старшыня сельсавета, чалавек вопытны, пэўна, здагадваўся, што непакоіць маладога афіцэра, таму пры сустрэчы, як бы між іншым, параіў яму:

— Ты, Іван Ілліч, знаёмся з паперамі, якія табе пакінуў Філонаў, і ўсё ж пачні са знаёмства з людзьмі на тваім участку. Тады і паперы табе больш раскажуць.

— З людзьмі! — не ўтрымаўся Іван,— Іх жа вунь колькі! Калі ж я з імі перазнаёмлюся?

— А ты пачні з кіраўнікоў гаспадарак,— зноў параіў старшыня сельсавета,— паступова перазнаёмішся і з іх падначаленымі, і з жыхарамі вёсак.

Гуровіч крыху супакоіўся і пачаў вывучаць пакінутыя яму дакументы. Чаго тут толькі не было! І заявы аб крадзяжах, і скаргі на суседа, і просьбы аб дапамозе па розных бытавых пытаннях, і нават ананімкі на старшынь калгасаў і зноў жа суседзяў. У Івана пацямнела ў вачах.

*

Дзед Аўдзей, нягледзячы на свае восемдзесят год, быў даволі рухавы, непаседлівы і зацікаўлены да ўсіх і ўсяго ў жыцці.

Няведама адкуль, але ён валодаў інфармацыяй аб усім, што здаралася ў навакольных вёсках, нават раней за тых, каму валодаць гэтай інфармацыяй было неабходна.

Пра такіх кажуць — гэта сацыяльна-актыўныя грамадзяне. Пэўна, каб было болей такіх сацыяльна-актыўных, менш было б сацыяльна нявырашаных пытанняў, ды і крымінальных спраў.

Гэты дзед Аўдзей уяўляў з сябе хадзячую энцыклапедыю мясцовага маштабу, бо амаль дакладна ведаў усё пра тутэйшых жыхароў — хто чым дыхае.

Падстаць яму была і яго жонка — баба Маланння, якая ў рухавасці не саступала свайму дасціпнаму мужу, і якую за гэта называлі не Маланней, а Маланкай.

Вось такая, на зайздрасць больш маладым землякам, пара.

*

Івану Гуровічу абставіны не дазволілі доўга пакутаваць над пытаннем: «З чаго пачаць?»

На трэці дзень яго «прафесійнай дзейнасці» на згаданай пасадзе, да яго ў кабінет заскочыла ўся ў слязах і залямантавала, даволі сталага ўзросту жанчына:

— Дапамажыце! А што ж гэта робіцца? Што ж гэта за злыдні? Ой, бяда!

Жанчына заламвала рукі, не перастаючы лямантаваць.

Іван спалохаўся і спрабаваў супакоіць незнаёмую яму жанчыну, але ніяк не мог уставіць свае суцяшальныя словы ў гэты слёзны крык аб дапамозе.

— Ды супакойцеся вы! Што здарылася! Дапаможам, абавязкова дапаможам. Вы сядзьце, калі ласка, вы супакойцеся.

Калі прыступ узрушанасці крыху прайшоў, жанчына расказала Гуровічу, што мінулай ноччу, як яна сказала, «прайдзісветы» з хляўчука ўкралі яе парсюка, якога яна «і карміла, і паіла, і даглядала» і праз тыдзень збіралася закалоць.

— А з чым жа я буду зімку сустракаць? — хліпала яна, выціраючы рогам хусткі вочы,— А я ж чакала і сальца, і мясца, і скабачкі. А ці ж я накупляюся за сваю пенсію ўсяго гэтага? А як жа жыць далей, таварыш начальнік? Дапамажыце, уся надзея на вас.

Іван, як і належыць, прыняў ад пацярпелай падрабязную заяву, з якой даведаўся, што парсюка ўкралі не жыўём, а ў гэтым жа хлеўчуку закалолі злодзеі, а ўжо нежывога на нешта ўзгрузілі і кудысьці павезлі.

На развітанне Гуровіч бадзёра паабяцаў Ганне Гаўрылаўне, заяўніцы:

— Дапаможам... Знойдзем і сала, і мясца...

Калі жанчына пайшла і Іван застаўся адзін, бадзёрасці ў яго паўбавілася.

«З чаго пачаць?» — зноў зазвінела ў вушах пытанне.

Пачаў, як і вучылі, з агляду месца здарэння. Агляд мала што даў: выдралі прабой на дзвярах хлеўчука, а ў самім хляве — кроў на саломе. Вось і ўсё. Ніякіх слядоў. што і казаць — восень не зіма.

Гуровіч ліхаманкава шукаў адказ на пытанне: як вярнуць беднай жанчыне «сальца і мясца». Адразу, з гарачкі ледзь не кінуўся правяраць кубёлкі, па чарзе ва ўсіх гаспадароў. Потым зразумеў, што гэта — глупства. І не толькі глупства, а парушэнне законнасці. Каб рабіць вобыскі, патрэбен пісьмовы дазвол пракурора. А які ж пракурор дасць такі дазвол, без абгрунтаванай падазронасці, без аніякіх зачэпак? Ды нават найдзі тое ж сала ды мяса хоць у дзесяці кубёлках — яно ўсё аднолькавае, на ім не будзе біркі, што менавіта гэта сала ад парсюка Ганны Гаўрылаўны.

Горка зрабілася на душы ў пачынаючага участковага інспектара. Хоць ты бяжы да пацярпелай і забірай абяцанае ёй: «дапаможам... знойдзем...»

Усплылі ў памяці словы колішняга настаўніка: «Участковага могуць любіць, могуць не любіць — галоўнае, каб паважалі...» Іван уздыхнуў — дык вось дзе схована павага ці непавага... Глыбока прыйдзецца мне капаць, а ці дакапаюся?

*

Крадзяжы ўжо выгадаваных, «гатовых» да заколу свіней, у вёсках здараюцца не часта, але рэгулярна. Жадаючыя пажывіцца на дармавіну, не перавяліся. Як правіла, тыя ж прайдзісветы, выбіраюць адзінокіх жанчын, без сабакі на двары, заламваюцца ў хлеў, заціскаюць лыч бедалагу парсюку і — альбо колюць яго, альбо пераразаюць горла. Такое здарылася і ў дадзеным выпадку.

Вядома ж, слых пра такія здарэнні гулкім рэхам разлятаецца па навакольных вёсках, і з’яўляецца галоўнай тэмай жыхароў. Усе ўсхвалявана абмяркоўвалі, як тут казалі, «свінскую» тэму, усе спачувалі Ганне. То там, то сям, толькі і чулася: «Каб ім, зладзюгам, шкварчына ўпоперак горла стала! Каб ім рукі паадсыхалі! Ці ж гэта людзі? Свінні!»

Не абмінула гэта навіна і дзеда Аўдзея з яго дасціпнай «Маланкай». Ён не раскідваўся праклёнамі, бо ведаў, што ад іх мала карысці. А вось паразважаць не пашкодзіць.

— І хто б гэта мог быць?..— уздыхнуў ён, седзячы вечарам на печы,— Адкуль гэта ліха? — пытаўся ён ці то ў жонкі, ці ў сябе.— Гэта хтосьці свой, хто добра ведае, што і дзе ў каго ляжыць...

Баба Маланння згаджалася:

— Толькі свой... Наша гэта ліха, нашай вёскі...

Дзед Аўдзей разважаў па-свойму:

— Вось у гэтым і ўсё паскудства, што свой... Магчыма сёння, пры сустрэчы я гэтаму злодзею руку ціснуў, ды, як чалавеку, у вочы глядзеў. А яму б трэба было плюнуць у вочы, ды рукі паадрываць... Разбяры іх — хто ёсць хто...

— Вось ты і разбяры! — рашуча секанула баба Маланння, цяпер ужо «Маланка».— Разбярыся, часу ж хапае! І мазгамі Бог не абдзяліў.

Дзеду Аўдзею словы пра яго мазгі спадабаліся і ён, хоць змоўчаў, але ўпотай вырашыў «разабрацца».

*

Іван Гуровіч разумеў, што погляды вяскоўцаў звернуты на яго, і што сядзець, склаўшы рукі, ён не можа. не ведаючы дакладна, што рабіць, ён павінен быў нейкім чынам абазначыць сябе. Вось для гэтага «абазначыць», малады ўчастковы хадзіў па вёсцы і распытваў людзей —

можа, хтосьці штосьці бачыў ці чуў. З гэткімі ж пытаннямі ён аб'язджаў і навакольныя вёскі, але вынік быў адзін — не чулі, не бачылі, не ведаем. Хтосьці увогуле на роспыты кідаў у адказ — не мая гэта справа.

Дзед Аўдзей раскінуў мазгамі па-свойму. Перш-наперш ён прыкінуў, колькі ў іх вёсцы тых, хто не хавае свіней, хто харчуецца з крамы і, ведаючы гэты кантынгент, як аблупленых, зняў сваю падазронасць з тых, каго лічыў за людзей, якія не згубілі свайго сумлення.

Такім чынам, як сказаў бы Шэрлак Холмс, метадам дэдукцыі дзед Аўдзей прасеяў праз рэшата абгрунтаванасці ўсіх «кандыдатаў» у злачынцы.

Атрымалася зусім няшмат — усяго тры чалавекі, з якіх два жылі з жонкамі (жылі і пілі), а трэці, Лявон Камляк, пасля таго, як яго кінула жонка, нідзе не працаваў і, як кажуць, не прасыхаў ад гарэлкі.

Цяпер ужо і дзед Аўдзей пайшоў па вёсцы, пайшоў пагутарыць ды «праветрыць вока», а сам хоць і гутарыў, а распытваў ды хоць што выведваў. З дзедам лёгка дзяліліся чутым і бачаным, бо ён не выклікаў ніякай насцярожанасці ў суразмоўцаў.

Калі Аўдзей падклыпаў да Лявона Камляка, які стаяў ля плоту сваёй хаты, той таксама на дзеда амаль не звярнуў увагі. Дзед Аўдзей пачаў гаворку здалёк:

— Здароў будзь, Лявон.

— Здароў дзед.

— Дай, калі ласка прыкурыць, запалкі забыўся дома,— звярнуўся стары да субяседніка.

Лявон дрыготкай рукой падаў дзеду запалкі.

Дзед прыкурыў і пажартаваў:

— У цябе, браток, рукі трасуцца, быццам ты курэй краў.

Лявон нервова зрэагаваў:

— Нічога я не краў! Дурыш галаву.

— А пра свінню Ганніну чуў? — і дзед пільна паглядзеў у вочы Лявону.

— А я тут пры чым?

— Дзед адказаў пытаннем на пытанне:

— Хіба ж я сказаў, што ты да гэтага маеш дачыненне?

— Вось што, дзед,— зноў нервова прамовіў Лявон,— прыкурыў — і тупай адсюль. Вечарэе, а мне трэба яшчэ ў лес скокнуць, ды палена прынесці, няма ўжо чым печ паліць.

— Ну, скакай сабе, скакай,— пагадзіўся Аўдзей,— дзякуй за запалкі.

І дзед паціху паклыпаў прэч, разважаючы: «Можа, і не ён... Але ўсё гаворыць пра тое, што я размаўляў са злодзеем. Па-першае, нервова рэагаваў на слова «красці», па-другое, хто ж напрыцемку ідзе ў лес па нейкае там палена? І галоўнае — пашчапаныя дровы ляжаць у яго на двары... Не, тут штосьці не тое... Трэба ціхенька зірнуць, куды ён падасца».

І дзед Аўдзей, зайшоўшы на суседні ад Лявона двор да свайго аднагодкі Хведзі, размаўляючы з ім, пільна «зірнуў» услед Лявону, які накіраваўся ў бок Рэпішча.

Гэтае урочышча Рэпішча, паросшае густым хмызняком і пакручанае калдобінам ды аўрагамі, знаходзілася ў баку ад усіх дарог і не прываблівала адвеку людзей ні грыбамі, ні ягадамі, бо яны там не раслі.

Вярнуўшыся дамоў, дзед Аўдзей даклаў сваёй бабе:

— Заўтра ж ранічкай, кіруюся на Рэпішча.

— Чаго? — усхадзілася старая.— Ногі там павыкручваеш.

Дзед зноў жа задумліва тлумачыць:

— След Ганнінага парсюка буду шукаць там...

— Парсюка-а-а? — выцягнула шыю старая,— Ён што, збег ад яе? Дык яго не ўкралі?

Дзед, ужо не задумліва, а рашуча параіў:

— Пачакай да заўтра! Больш пакуль нічога не магу табе сказаць.

Старая пакрыўдзілася:

— Растрывожыў маю зацікаўленасць і загадваеш чагосьці чакаць да заўтра. Я ж спаць не буду.

— Сказаў да заўтра, значыцца да заўтра! — заключыў дзед і адвярнуўся ад жонкі.

*

Як хутка мяняе час і маршчыны наша аблічча. І толькі з дня ў дзень, з году ў год гледзячы на сябе ў люстэрка, мы амаль не заўважаем катастрафічных змен нашай знешнасці і ўсё «думкай багацеем», што мы не дужа і старэем, што такімі, ці амаль такімі мы былі і дзесяць гадоў таму. Зірнуў бы чалавек на сябе праз тыя ж дзесяць гадоў знянацку, без люстэркавай «тэрапіі» — напалохаўся б і жахнуўся: — А хто гэта?!

Гэтак жа хутка, а, магчыма, і шмат хутчэй мяняецца ўсё ў прыродзе. Вярні, пайшоўшага з жыцця нашага колішняга продку на сцяжыны яго маладосці, ён здзівіцца:

— А дзе я? — хаця на гэтых сцяжынах, у гэтых лясах-пералесках, калісьці адчуваў сябе, як рыбіна ў вадзе.

Менавіта гэта адчуў дзед Аўдзей, апынуўшыся на Рэпішчы. Яму здавалася, што не так даўно быў тут, але, падумаўшы, зразумеў, што ад таго «не так даўно» мінула дваццаць, а, магчыма, і больш гадоў. Гэты час лес, асабліва маладняк, «не спаў у шапку», а змагаўся за месца пад сонцам. Усё настолькі змянілася, што стары, на ўсякі выпадак азірнуўся, каб запомніць, у якім баку вёска.

Тут дзед Аўдзей відавочна разгубіўся, бо і сам сабе не мог адказаць, для чаго ён тут.

— А-а,— замармытаў ён,— я ж шукаю свежаніну ад Ганнінага парсюка... Ну і дурноціна ж я стары! І чаму я

ўбіў у сваю галаву, што менавіта тут Лявон схаваў яе? Ды мала чаго чалавек кіраваўся ўчора вечарам сюды. А калі ён увогуле Богу душой не вінаваты? Э-хэ-хэ...

Пакруціўся дзед па ямінах ды гушчары, паторкаўся на ўсе бакі і вырашыў ісці дамоў, да жонкі, выслухоўваць яе зубаскальства. Праўда, суцяшаў сябе тым, што сапраўднага «зубаскальства» не атрымаецца, бо ў старой для зубаскальства не хапала шмат зубоў.

«Што ж, следчага з мяне не атрымалася,— сумна падумаў Аўдзей.— Ды і куды тут можна схаваць сала з мясам? У зямлю не закапаеш, пад дрэва не пакладзеш... Пачакай! А, напрыклад, куды б я, каб, не давядзі Бог, быў злодзеем, схаваў бы гэты скарб?»

Дзед азірнуўся і убачыў крыху збоку стары, пакручаны часам дуб. За сваё доўгае жыццё ў вёсцы, стары памятае, як падчас навальніц, маланкі чамусьці кіравалі свае вогненныя джалы на гэта дрэва. І рабілі гэта не адзін раз. Таму да гэтага пакручанага і пакалечанага дуба мясцовыя жыхары не любілі падыходзіць — Богам праклятае месца.

— А што, калі мне падысці! — зашаптаў дзед Аўдзей.— Неба чыстае, навальніцы няма.

І стары, кульгаючы праз калдобіны, наблізіўся да параненага і аджыўшага свой век волата.

Ён ужо адзеленеў і толькі зеўрыў сваімі вялізнымі дупламі ды распоратым маланкамі ствалом.

Дзед, перад тым, як дакрануцца да калісьці велічнага дрэва, крыху здрэйфіў і перахрысціўся.

— Ратуй, Матка Насвенчая! — прашаптаў Аўдзей і зрабіў спробу зазірнуць у растрэснуты ствол, але крыху не хапіла дзедава росту, каб ушчаміць галаву туды, дзе было шырэй. Давялося старому, які ўжо прытаміўся ад хады па ўсякіх нявроўнасцях ды гушчары, падкочваць камень, на які можна будзе стаць.

Зрабіўшы сабе такую падстаўку, «следчы» зазірнуў ў высахлую пустэчу дубава «страўніка» і ахнуў. Там ляжалі да паловы напоўненыя нечым мяхі. Чым яны былі напоўненыя дзед Аўдзей адразу здагадаўся, бо мяхі стракацілі чырвонымі плямамі, якія маглі з'явіцца толькі ад крыві.

— Вось, Ганначка, дзе твой парсючок апынуўся! — усклікнуў узрушаны стары.— Ай ды я!

Ён ліхаманкава адкаціў камень і, разумеючы, што свежына доўга тут ляжаць не будзе, паклыпаў краем лесу, каб пазбегчы чужых вачэй, да сваёй хаты.

Баба Маланння «згарала» ад нецярпення, таму да дзеда кінулася, як сапраўдная маланка.

— Што? Што на Рэпішчы?! Што знайшоў?

Дзед плюхнуўся на лаву і асмягла засіпеў:

— Дай вады... Дух заняло. Калені трасуцца...

Аддыхаўшыся, ён расказаў усё жонцы і спытаўся:

— Што рабіць далей?

— Бяжы хуценька да ўчастковага! Арыштоўваць трэба Лявона! — замітусілася «Маланка».

— Астынь! — спыніў яе дзед.— Яшчэ невядома, чыя гэта работа. Трэба злавіць злодзея на месцы, калі будзе забіраць свежаніну. Гэта — галоўнае. А як сказаць участковаму, што я рассакрэціў гэты тайнік? Ён пры пагонах і вучоны — не знайшоў, а я, такі разумны, буду разумнейшы за яго. Не! Так нельга! Людзі будуць яму ў спіну пахіхікваць.

— А што рабіць? — цяпер ужо запыталася старая,— Мажа б які ліст чыркануць ды падкінуць яму.

Дзед скрывіўся:

— Пакуль будзем чыркаць ды падкідваць, не будзе ні злодзея, ні сала. Патрэбен тонкі падыход...

— Ну, я не ведаю...— развяла рукамі баба.

Дзед Аўдзей падумаў і падняўся з лавы:

— Вось што. Пайду я да участковага і скажу яму, што бачыў вешчы сон. І распавяду яму ўсё, што ведаю. Усё, да

драбніц. Скажу, што мне ўсё прыснілася... І яшчэ скажу, што за доўгае маё жыццё ці... маё спаннё, усе мае сны спраўджваліся. Ну як?

— Ой, не ведаю,— зноў развяла рукамі старая,— Рабі, як лічыш неабходным. Але, калі ісці, трэба ісці зараз жа — час не церпіць.

*

Іван Гуровіч сядзеў у кабінеце і праз сілу разглядаў розныя паперы, сэнс якіх захінаў сабой Ганнін парсюк.

Хоць не выходзь з кабінета на вуліцу,— уздыхаў ён — людзі чакаюць ад мяне рэзультату, а мне няма чым пахваліцца... Вось тут і ўся павага.

Раптам хтосьці нерашуча пастукаўся ў дзверы.

— Заходзьце! — гукнуў участковы.

Прыадчыніліся дзверы і паказалася галава старога чалавека, якая нясмела выдыхнула:

— Дазвольце.

— Заходзьце! Я ж сказаў заходзьце! — устаў насустрач старому Іван.— Праходзьце і сядайце.

Дзед Аўдзей сціпла сеў на крайчык стула і ўздыхнуў.

— Я вас слухаю.— Мякка, бачачы такую сціпласць, прамовіў Гуровіч.— Якое ў вас пытанне?.. Прабачце, не ведаю, як вас зваць, я чалавек новы і мала каго ведаю. Мяне завуць Іван Ілліч, а вас?

— Мяне завуць Аўдзей... э-э... прабачце, мы не прывучаныя па бацьку, таму лепш завіце мяне, як і ўсе — дзед Аўдзей.

— Добра, шаноўны дзед Аўдзей. Рады пазнаёміцца і слухаю вас.

І хоць у такім узросце, кажуць, што людзі ўжо не чырванеюць, дзед Аўдзей густа пачырванеў і блытана пачаў.

— Ведаеце, таварыш начальнік...

— Пастойце, шаноўны дзед Аўдзей. Я — Іван Ілліч, можна Іван, без таварыш начальнік.

— Добра, таварыш... Добра Іван Іл... Ат, лепш скажу так, сынок: бачыў я вешчы сон...

— Які? — перапытаў Гуровіч.

Дзед яшчэ больш пачырванеў:

— Бачыў я вешчы сон... Прысніўся мне Ганнін парсюк...

— Ды і мне ён не дае жыцця, гэты парсюк! — пажаліўся участковы.— А тое, што вам, шаноўны дзед Аўдзей, ён прысніўся, дык гэта ад таго, што вы, як сумленны чалавек, блізка прынялі гэта да сэрца.

Стары выдыхнуў:

— Не тое, сынок. Не тое. Выслухай мяне...

Мне прыснілася, што парсюка, пэўна, з падзельнікамі ўкраў Іван Камляк...

— Толькі не ён! — перапыніў дзедавы развагі Іван,— Толькі не ён! І вось чаму. Я, калі абыходзіў па вёсцы людзей, распытваючы іх наконт крадзяжу, гэты Камляк (добра памятаю яго, бо ён прадставіўся мне), дык вось гэты Камляк сказаў, што яго, як нідзе не працуючага і слабага да гарэлкі могуць першага падазраваць у злачынстве, таму завёў мяне і ў хату, і ў варыўню, і ў кладоўку, дзе паказаў пустыя цэбры і вуглы. «Я чысты перад законам!» — заявіў ён.

— Цяпер,— рашуча заявіў стары,— пасля таго, што пачуў, я ўпэўнены ў праўдзе майго сну! Дык вось, мне прыснілася, што гэты Камляк, зноў жа, пэўна, не адзін, разабралі гэтага парсюка, паклалі сала ды мяса па мяхах і схавалі да пары ў старым дубе на Рэпішчы.

— Мілы чалавек! — з цеплынёй сказаў Гуровіч.— Мілы дзед Аўдзей, калі я пачну раскрываць злачынствы, спасылаючыся на нечыя сны, мяне адразу ж зволяць з працы. Мяне ж куры засмяюць.

Дзед настойваў на сваім:

— Пра тое, што я сніў, будуць ведаць толькі два чалавекі — ты, сынок, і я.

— І што, па-вашаму, я павінен рабіць? — не для таго, каб сапраўды штосьці рабіць, а каб супакоіць старога, спытаўся ўчастковы.

— Мне прыснілася ўсё ад пачатку да канца! — узбадзёрыўся дзед Аўдзей,— У сне было так: ты, сынок, вечарам засядзеш ля таго дуба і будзеш чакаць. Прыйдуць злодзеі за салам, выцягнуць яго з дуплістага дуба, а ты іх — хвалць!

Дзед усхвалявана працягваў:

— Ты ж, сынок, зазірні ў тое дупло і ўбачыш, што сон мой вешчы.

Участковы ўсміхнуўся:

— Ну а вы, шаноўны дзед Аўдзей, туды зазіралі?

— Я? Не! У мяне і паўнамоцтваў такіх няма. Каб я зазіраў, я б адразу напісаў афіцыйную заяву.

Участковы выдыхнуў:

— Лепш бы вы напісалі заяву, а так, не ведаю, што і рабіць, нейкая містыка... Ды і дзе тое Рэпішча, дзе той дуб? Смех ды і толькі.

Стары ажывіўся:

— Час яшчэ ёсць, вечар далёка. Калі трэба, я пакажу і Рэпішча, і дуб. Пакажу той дуб здалёку, а там ты ўжо сам разбярэшся.

— Добра,— стомлена згадзіўся Гуровіч.— Паважаючы вашу старасць, згаджаюся. Але — нікому ні слова, бо сораму не абярэшся.

*

Іван Гуровіч не стаў чакаць вечара, каб, паводле дзедава вешчага сну, ладзіць засаду ля нейкага там дуба. Ён са сваім павадыром, дзедам Аўдзеем, непрыкметна ны-

рнулі ў бліжэйўы ад дзедавай сядзібы лазнічок, адкуль, зноў жа непрыкметна падаліся ў бок Рэпішча.

Не даходзячы да гэтага, як сказаў стары, чортава месца, дзед Аўдзей спыніўся, аддыхаўся і выдыхнуў:

— Усё... Далей не пайду. Боязна мне туды хадзіць, ды і прытаміўся я. Ву-у-унь, бачыш, сынок, над хмызняком узвышаецца дуб, яго я і бачыў у сне. Кіруйся да яго адзін і, дай Бог, каб мой вешчы сон спраўдзіў.

І яны падаліся ў розныя бакі. Дзед — дахаты, а Іван... ён і сам не ведаў, што робіць і чаго ідзе па пустых сцежках.

*

Васіль Васільевіч, старшыня сельсавету, толькі што вярнуўся з абеду і, улічваючы тое, што сёння прыёмны дзень грамадзян, рыхтаваўся да прыёму наведвальнікаў.

Раптам у кабінет уварваўся узрушаны і збялелы участковы інспектар, які з парогу кінуў:

— Васіль Васільевіч, трэба дапамога! — пасля чаго стомлена плюхнуўся на стул ля старшыньскага стала.

— Што здарылася, Іван Ілліч? Якая дапамога табе патрэбна?

— Знайшоў я сала! Свежыну ад таго Ганнінага парсюка. Хутчэй за ўсё — ад яго.

І ён падрабязна расказаў, што на Рэпішчы, у старым дупляністым дубе некім схованыя мяхі з салам і мясам.

Старшыня сельсавету ўдакладніў:

— Дык табе што, дапамагчы перанесці ці перавезці знойдзенае? Так?

Гуровіч запальна патлумачыў:

— Не! Мне трэба два-тры маладыя, надзейныя хлопцы, якія б дапамаглі мне затрымаць вечарам злачынцу ці злачынцаў.

— Якім чынам? — не разумеў старшыня.

— Вечарам, а вечар ужо хутка, бо ў кастрычніку дні вунь якія кароткія, дык вось сёння вечарам я хачу арганізаваць ля таго дуба засаду, і аднаму мне боязна. Боязна не за сябе. Баюся, што злачынец можа быць не адзін, а два ці тры,— аднаму мне не даць рады, разбягуцца.

Старшыня ўстаў з-за стала:

— А як гэта ты так хутка выйшаў на след злодзеяў? Прайшло усяго два дні, як адбылося злачынства.

— Гэта — прафесійная тайна,— туманна адказаў участковы.

— Ну, у твае тайны я не лезу, а дапамога табе будзе. Ёсць актывісты, якія ў далейшым будуць надзейнай падмогай тваім прафесійным тайнам.

*

Слых пра тое, што малады участковы інспектар Іван Гуровіч не толькі выкрыў злачынцаў, але і затрымаў Лявона Камляка з двума сваімі саўдзельнікамі, імгненна абляцеў усё, населенае людзьмі наваколле.

А саўдзельнікамі аказаліся гэткія ж як і Камляк беспрацоўныя забулдоны з суседняй вёскі.

Яны, баючыся вобыскаў, не сталі рызыкаваць і разносіць кожны сваю частку па хатах, а да лепшага часу схавалі здабычу у дубе. І хоць было на двары холадна і нават заляталі «белыя мухі», змоўшчыкі для надзейнасці пасыпалі свежыну соллю.

Так што баба Ганна, пасля ўсіх пратакольных працэдур, атрымала свайго разабранага парсюка ў належным стане.

Яна, узрушаная і шчаслівая, бегала па вёсцы і ўсім, каго сустракала трызвоніла:

— Ай ды ўчастковы! Ай ды малайчына! Такі маладзенькі, а які хваткі!

Не кажучы пра тое, што самому Івану Гуровічу ў кабінеце ледзь не цалавала рукі.

— Буду Богу маліцца за вас, Іван Ілліч! Вы ж мяне вярнулі да жыцця! Дай Бог вам харошую жоначку!

— А калі пападзецца благая? — пажартаваў Іван.

— Не пападзецца! Я ж буду за вас маліцца, ды і няма ў нашай вёсцы благіх дзяўчат.

Дзед Аўдзей, у адказ на шчаслівы лямант шчаслівай Ганны толькі загадкава ўсміхаўся.

Загадкава ён усміхаўся і пасля таго, як аднойчы вечарам завітаў у яго хату «хваткі» участковы.

— Дык як будзем тлумачыць ваш вешчы сон, шаноўны дзед Аўдзей? — спытаў ён.

Стары схітрыў:

— Ведаеш, сынок, вешчыя сны я сніць сню, а вось разгадваць іх няўмею. Можа, ты, Маланння, здольная на гэта?

— Не, і мне Бог не даў такой здольнасці.— адбілася старая.

Гуровіч шчыра паціснуў дзеду руку:

— Не важна, сон гэта быў ці не сон. а ў выніку вы мне дужа дапамаглі. Дзякуй вам, шаноўны дзед Аўдзей, і вам, шаноўная баба Маланння.

— А мне за што? — схамянулася старая.

— А вам дзякуй за такога вешчага дзеда Аўдзея!

*

Хто з маладых спецыялістаў,— хоць міліцыянер, хоць інжынер, хоць кіраўнік любога ўзроўню, хоць слесар ці даярка не сутыкаўся з непазбежным перыядам, які называецца «адсутнасцю вопыту». Нават за плугам хадзіць не адразу атрымліваецца, каса і тая напачатку, ледзь не пасля кожнага замаху ўторкваецца носікам у зямлю.

А тут — работа з людзьмі! Ды каб з людзьмі сумленнымі, працавітымі, адкрытымі і шчырымі.

Не, участковы інспектар міліцыі вымушаны, вобразна кажучы, уласнымі чыстымі рукамі выграбаць з жыццёвага асяродка бруд і смецце, даючы магчымасць менавіта сумленным, адкрытым і працавітым людзям жыць паўнацэнным жыццём, без крымінальнага бруду і смецця.

Пэўна, лёс невыпадкова «падкінуў свінню» Івану Гуровічу, каб той, на пачатку свайго складанага прафесійнага шляху, хоць не ўсё, а многае зразумеў. Каб усвядоміў, што без глыбокага роздуму, без усебаковага аналізу сітуацыі, без ведання людзей і без іх падтрымкі — прафесійны шлях будзе ўхабістым і звілістым.

Паразважаўшы, ён здагадаўся, што дзеў Аўдзей пашкадаваў яго прафесійнае самалюбства і, нейкім чынам разблытаўшы тое злачынства, прыплёў прыгожую байку пра вешчы сон.

*

Час няспынна імкнецца наперад. Ды так спяшаецца, быццам баіцца не паспець да чагосьці вельмі важнага, што чакае яго наперадзе. Магчыма, каб час ведаў, што наперадзе яго — адна бясконцасць, ён бы не імчаў так хутка, і наша жыццё не пралятала б так імкліва і амаль непрыкметна.

Вось і Іван Гуровіч, як кажуць не паспеў міргнуць, як мінуў год яго «бязвопытнага перыяду». За гэты год, пасля таго незабыўнага «свінства», шмат чаго рознага і заблытанага давялося яму памацаць уласнымі рукамі, выграбаючы з жыцця на сметнік часу і крымінальны бруд, і адміністрацыйна забароненае смецце.

Быў, напрыклад, крадзеж з мясцовай крамы гарэлкі і грашовай выручкі. І хоць расследаваннем гэтага злачынства займаліся аператыўнікі раённага крымінальнага

вышуку, без участковага нават яны наўрад ці выкрылі б злачынцаў, бо ён, Іван Гуровіч, ужо не блага ведаў мясцовых «намінантаў», і яго парады хутка навялі на след злодзеяў.

Разблытваў ён і крадзеж калгаснага збожжа з тока, і крадзяжы рознай бытавой тэхнікі з хат, найбольш «прасунутых» жыхароў. Паднімаў не раз, нават ноччу, навакольных жыхароў для пошуку ў лясах ягадных і грыбных блукацеляў — асабліва дзяцей.

І шмат іншай штодзённай, амаль нябачнай работы даводзілася выконваць яму.

Цяпер, ідучы па вёсцы і вітаючыся ці размаўляючы з людзьмі, Гуровіч з задавальненнем адзначаў для сябе, што ў вачах людзей, за рэдкім выключэннем, не было насцярожанасці, абыякавасці, а ўсё больш — павага.

*

Апошні месяц восені, лістапад, выдаўся ў гэтым годзе даволі сярдзіты. Выпаў першы снег. І хоць кажуць, што першы снег доўга не затрымаецца, што гэта яшчэ не зіма, а снег упарта не хацеў падпарадкоўвацца адвечным прыкметам. І да таго ён заўпарціўся, што выпаў і другі, і трэці снег — і стала зразумела, што ад зімы не адкруціцца.

Над стрэхамі хат пачалі дружна ўздымацца белавата-шызыя дымы. Гэта коміны, як тыя заядлыя курцы, у ахвотку дымілі, дачакаўшыся свайго часу. Што і казаць, сапраўдная казка «Ноч перад калядамі».

Дарэчы, і да саміх Калядаў было рукой падаць — праз нейкі, крыху больш, чым месяц — любімае ўсімі свята Новы Год, а там, праз тыдзень — і раство Хрыстова.

Тут, хоць і крыху запознена, трэба сказаць, што цэнтр калгасу — гэта не зусім вёска. Дакладней — зусім не вёска, а мястэчка, у якім, як нам ужо вядома, ёсць і сель-

скі савет, і крама, і школа, а пры ёй — бібліятэка і нават клуб, які з гонарам называлі сельскім домам культуры.

І назву гэтага мястэчка мела даволі ганарыстую — Першацвецце. І хоць, кажуць, назва не корміць і не поіць, а душы мясцовых жыхароў ўсё ж грэла.

Асобым гонарам людзей, асабліва тых, хто адносіў сябе да вернікаў, была драўляная, даволі сталага веку царква.

Для маладога Івана Гуровіча, яго першая пасада была таксама своеасаблівым першацветам, яго першавыпрабаваннем. І яго душу грэла думка, што яго службовы «першацвет» прарастае і набывае моцы тут, у мястэчку Першацвецце.

*

Раніцай першага снежня, у кабінет да Гуровіча, ускочыў настаяцель мясцовай царквы, айцец Мікалай. Вось гэта «ускочыў» здзівіла і насцярожыла участковага, бо айцец Мікалай уяўляў сабой заўсёды, нягледзячы на малады ўзрост, спакой і паважнасць. Зараз жа святара немагчыма было пазнаць, настолькі ён быў узрушаны і ўсхваляваны.

— Я да вас, сын мой! — пачаў ён дрыготкім галасам,— Да вас, як да заступніка, як да службовай асобы. Дапамажыце, дзеля ўсіх святых!

Іван мякка ўзяў святара за руку і пасадзіў яго на стул.

— Сядзьце, айцец Мікалай. Супакойцеся. Што здарылася?

Айцец Мікалай ускочыў са стула:

— Адбылося святатацтва! Адбылося блюзнерства! Ноччу нейкія нехрысці выдзерлі прабой на дзвярах і ўварваліся ў царкву. Замахнуліся на святое!

Устаў з свайго месца і Гуровіч.

— Супакойцеся, святы айцец. Што, на ваш погляд, цэннае ўзялі злодзеі?

— Цэннае! Ды у святым храме ўсё намоленае верай многіх пакаленняў! Усё цэннае!

— А больш канкрэтна можна? — удакладніў Гуровіч.

— Больш канкрэтна не бывае! — узняў угару рукі святар,— Хтосьці ведаў, што красці! Укралі ўсяго адну ікону...

— Усяго адну? — з нейкай палёгкай перапытаў участковы, ад чаго айцец Мікалай выбухнуў эмоцыямі, як той вулкан:

— Адну! Адну, затое якую! Святая выява Маці Божай! Ікона — уяўляеце? — шаснаццатага стагоддзя! Яна — наша заступніца, наша — і кожнага з нас паасобку! Яна, гэта выява, ва ўсіх сусветных каталогах і рэестрах. Адбыўся крадзеж веку! Ды што я кажу, веку гэта — крадзеж сусвету!

Цяпер ужо і Гуровіч адчуў увесь маштаб здарэння. Ён ліхаманкава пракруціў у галаве ўсе варыянты сваіх дзеянняў. Цяпер ужо рашуча загадаў святару:

— Так, айцец Мікалай! Сядзьце, калі ласка і пакуль памаўчыце.

Затым зняў тэлефонную трубку і патэлефанаваў начальніку раённага аддзелу міліцыі.

Даклаўшы начальніку тое, што было яму вядома, і штосьці выслухаўшы, пацвердзіў:

— Будзе выканана! Да вашага прыезду арганізую ахову месца здарэння і, па магчымасці, зраблю ўсё, каб захаваць сляды.

Паклаўшы трубку, звярнуўся да святара:

— Акрамя вас, ніхто сёння не заходзіў у царкву?

— Ніхто!

— Тады хутчэй кіруемся да святога Храму.

Па дарозе айцец Мікалай без перадыху пераконваў участковага ў тым, што знікла бясцэнная ікона, што

адбылося злачынства сусветнага маштабу, што ў вернікаў адабралі іх адвечную заступніцу, а напаследак спытаўся:

— А ты, сын мой, веруеш ці не?

Гуровіч крыху збянтэжыўся:

— Я... пакуль у царкву не хаджу...

— Пакуль...— уздыхнуў святар,— атрымліваецца, «як трывога, дык да Бога». Так?

— Не зразумеў,— прызнаўся Іван.

— А што тут разумець? Пакуль малады, ды здаровы, ды ўсё ў жыцці ладна-складна, навошта Бог. Памыляюцца, сын мой, тыя, хто так лічыць. Наперад закінеш — ззадзі як знойдзеш. Усё ладна ды складна не само сабой. Усе мы пад Богам і ўсё з Божае ласкі.

Айцец Мікалай вымушаны быў спыніць сваю пропаведзь, бо падышлі да царквы. Пачынаўся снег — снежань адпавядаў свайму названню. Сляды, якія вялі ў царкву і з яе, пакуль былі відаць не слаба, але дзе чыі?

— Айцец Мікалай, вы тут залішне натапталі. Дзе, пакажыце, вашы сляды.

— Навошта? — здзівіўся святар.

— Я пытаюся, якія сляды вашы? — больш настойліва запытаў Гуровіч.

Святар уважліва паглядзеў адбітыя на снезе сляды, чамусьці паспрабаваў зазірнуць на сваю падэшву, затым паказаў:

— Мой след вось гэты.

— А гэтыя, другія, чые? — нерваваўся участковы,— Раніцай былі толькі яны?

— Яны.— Згадзіўся святы айцец.

— Тады дайце мне хуценька якую-небудзь фанеру ці кавалак кардону. Толькі хутка, бо пачынаецца снег, трэба да прыезду экспертаў захаваць след.

Калі след быў закрыты кардонам, Гуровіч цягануў за рукаў расы святара:

— У царкву пакуль нельга.

— Мне нельга? — падкінуўся айцец Мікалай,— Мне, настаяцелю гэтага прыходу?

— Пакуль нікому нельга, нават вам, шаноўны айцец Мікалай,— мякка азваўся участковы,— Калі хочаце, каб ікону знайшлі, у царкву не заходзьце, ды і тут, ля ўваходу менш тапчыцеся.

*

Аператыўная група на чале з самім начальнікам раённай міліцыі прыбыла хутка. Але і яны пастаялі ля ўваходу ў царкву, распыталі збольшага святара і звярнуліся да Гуровіча.

— Паехалі, Іван Ілліч, да цябе ў кабінет, сёе-тое абмазгуем і будзем чакаць падмогу з вобласці, куды я, улічваючы рэзананснасць злачынства, адразу ж даклаў. Тут ахову я пакіну, а эксперт-крыміналіст зробіць гіпсавы адбітак абутку злачынца. Дарэчы, малайчына, што накрыў след, снег астатнія сляды ўжо зацерушыў.

Аператыўна-следчая група з абласнога ўпраўлення ўнутраных спраў прыехала толькі праз тры гадзіны, бо адлегласць ад Мінску да Першацвецця не малая, ды і зіма — не разгонішся.

Аператыўнікі пільна агледзелі месца здарэння — уваход у царкву, замок, затым алтар і месца, дзе знаходзілася такая цэнная ікона, але ні адпячаткаў пальцаў, ніякіх рэчавых доказаў не выявілі. Так што, акрамя гіпсавай падэшвы магчымага злодзея, нічога ў аператыўнікаў не было.

— Каго вы, Іван Ілліч, можаце падазраваць? — спытаў у ўчастковага старшы абласнік.

— Не ведаю...— шчыра адказаў Гуровіч,— Крадзеж такі спецыфічны, што адразу адказаць немагчыма.

— А нам адразу і не трэба — працягваў апера-

тыўнік — твой участак, твае тут людзі, і на цябе ў нас уся надзея.

Затым звярнуўся да святара:

— А вы што скажаце, Мікалай... прабачце, не ведаю, як вас па бацьку.

— Мікалай Фаміч я.

— А вы што думаеце, Мікалай Фаміч?

Святар перахрысціўся:

— Усё ў руках Божых!

Апаратыўнік зноў звярнуўся да Гуровіча:

— Ну вось, Іван Ілліч, як бачыш, усё ў тваіх руках. Дзейнічай і трымай нас у курсе. Пры неабходнасці дапаможам і мы, і раён.

*

Дзед Аўдзей са сваёй Маланняй, як шчырыя вернікі, горача перажывалі страту сваёй заступніцы. Сваёй яны лічылі яшчэ і таму, што маладымі вянчаліся ў гэтай царкве, перад гэтай іконай.

Сваёй іконку лічылі і таму, што падчас вайны, калі дзед Аўдзей, тады яшчэ далёка не дзед, ваяваў з захопнікамі на фронце, бабка Маланння, тады таксама далёка не бабка, а маладая жанчына, закруціла гэты абразок у ручнікі і схавала пад застрэшкам склепа, куды, спадзявалася, немцы, з-за непрыгляднасці таго склепа, не сунуць носу.

Вяскоўцы тады хавалі хто дзе, астатнія, менш каштоўныя. але не менш дарагія сэрцу іконы і розныя царкоўныя рэчы.

Цяпер, страціўшы «сваю» ікону, старыя дужа гаравалі.

Дзед горка ўсміхнуўся:

— Эх, прысніўся б мне сапраўды вешчы сон!

Старая таксама горка ўздыхнула:

— Гэта ж трэба, паквапіўся нехта на святое. Каб у яго рукі паадсыхалі, даруй Божа...

— Не паадсыхаюць,— уздыхнуў і дзед.

— Чаму не паадсыхаюць? — схамянулася Малання,— Бог, ён усё бачыць.

— Эх ты, святая прастата,— азваўся стары,— Вунь колькі злодзеяў на зямлі, паўсвету абакралі, і ўсе з рукамі, і на чужым горы, чужых слязах квітнеюць. Чамусьці Бог іх не карае.

— Пакарае! — запалілася баба,— Не на гэтым свеце, дык на тым. Стануць яны на страшным судзе перад Богам! Стануць! Вось там і высветліцца, хто ўкраў нашу іконку.

Дзед перахрысціўся:

— Твае б словы ды Богу ў вушы!

*

Іван Гуровіч пасля гэтага царкоўнага крадзяжу, па-сапраўднаму адчуў словы песні «служба дні і ночы». Крадзеж каштоўнай іконы, раскрыццё гэтага злачынства знаходзілася на кантролі аж у міністэрстве унутраных спраў. Рэспубліканскі Камітэт па справах рэлігіі «церабіў» міністэрства, міністэрства падганяла вобласць, абласная міліцыя цiснула на раённы аддзел, а самым крайнім аказаўся ўчастковы міліцыянер.

Ды і што маглі зрабіць вышэйстаячы інстанцыі? Яны праз мытню перакрылі каналы вывазу іконы за мяжу, зарыентавалі ўсе вакзалы, аэрапорты, рынкі збыту, усіх антыквараў. Але праз мытню ўмудраюцца правозіць вунь якія габарытныя грузы без неабходных дакументаў. А тут невялічкая ікона, памерам нейкіх 30х40 см. Ды яна, магчыма, даўно ўжо далёка за мяжой у багатых калекцыянераў. Адзін Бог і ведае, дзе яна.

Але вышэйшае начальства дапінала не Бога, а Івана Гуровіча, а ў яго, як і ў таго начальства — аніякіх зачэпак.

Хлопец схуднеў, знерваваўся — ні спаць, ні есці не мог. Ён, як цень, хадзіў па мястэчку, прыглядваўся, прыслухоўваўся.

На адной з вуліц звярнуў ўвагу на даволі пахілую, нежылую хату. Было відаць, што ў ёй шмат гадоў ніхто не жыве. Нават шыльда з надпісам «прадаецца» выцвіла і ледзь трымалася на адным цвіку.

Яе, гэту хату Іван бачыў не аднойчы, і сёння звярнуў увагу на яе толькі таму, што, як яму падалося, след дзіка аднекуль крутнуў да ганку гэтай развалюхі. След упрыцірку ля самага ганку віхлянуў і пакрочыў далей, закручваючы бліжэй да дарогі.

След на снезе адбіваўся не вельмі выразны, ды Іван, не будучы паляўнічым, не лічыў сябе спецыялістам па слядах, але ўсё ж ён быў упэўнены, што гэта капыты дзіка.

— Ого! — прамармытаў ён сабе пад нос,— Дзік настолькі пасмялеў, што ноччу шпацыруе нават па населеным пункту.

Але дзівіцца не было асабліва ад чаго. Нярэдка ласі ці тыя ж дзікі завітваюць і ў буйныя гарады.

Збіраўся Іван прывесці да гэтага следу знаёмага мясцовага паляўнічага, каб і той падзівіўся, але ноччу паваліў густы снег і «з'еў» той след.

Работа ўчастковага інспектара, як правіла пачынаецца зранку, але гэта работа з рознымі паперамі ці ў прыёмныя дні — з грамадзянамі. Сапраўдная ж, «жывая» работа захоплівала Гуровіча з вечару і да позняй ночы.

Вяртаўся ён адной ноччу з рэйду па навакольных вёсках дамоў на калгасным УАЗіку і выпадкова, на хаду ўбачыў на той жа вуліцы, ля той жа хаты-развалюхі постаць чалавека.

«Ды мала хто ходзіць»,— падумаў ён, а шафёру заўважыў:

— Ты бачыў, Міхась, у вокнах ні агеньчыка, а адзін паўночнік месіць снег?

Шафёр адгукнуўся:

— Хтосьці ад дзеўкі вяртаецца. Справа маладая...

— Мы ж з табой тожа маладыя,— усміхнуўся Іван.

Шафёр таксама ўсміхнуўся.

— Вы — пры справе, а я — пры вас. Нам не да дзяўчат.

Але раніцай штосьці штурханула Гуровіча наведацца да той старой хаты, дзе бачыў начнога прамінатара.

Не падыходзячы да будынку, з дарогі заўважыў тыя ж сляды дзіка. Дзіва! Бачыў чалавека, ясна памятае адкуль і куды кіраваўся той незнаёмец, але на снезе засталіся не сляды чалавека, а ўсё таго ж таямнічага дзіка. Яшчэ большае здзіўленне выклікала тое, што след, зноў жа, упрыцірку наблізіўся да ганку, і зноў крутнуў да дарогі. Але на гэты раз было бачна, што на дошках ганку засталося крыху снегу, быццам той дзік патаптаўся па дошках.

Гуровіч не ведаў, што і думаць, але зкумекаў, што тут штосьці вельмі падазронае.

— Чалавек з капытамі дзіка! — шаптаў ён,— Што тут да чаго? Красці ў гэтай хаце, пэўна ж, няма чаго, вунь і вокны зеўраць чарнатой без шкла, замок вісіць, як кажуць, для красы. Але ж кагосьці гэта хата вабіць. А каго і для чаго?

Каб не прыцягваць увагі, ён, хуценька падаўся да сябе ў кабінет і ўглыбіўся ў роздум. Трэба нейкім чынам праверыць, што там у сярэдзіне хаты. Але як? Гэта ж не лета, а калі можна было б, не пакідаючы слядоў, наблізіцца да той развалюхі і абследаваць яе. Зараз, зімой, толькі наблізься да ганку — і спалохаеш «дзіка». Іван выкручвай звіліны сваіх мазгоў, але нічога прымальнага не прыдумаў.

Нечакана ў кабінет зайшоў старшыня сельсавета.

— Што ты, Іван Ілліч, сядзіш насупіўшыся, як той хамяк? Што, як казаў класік «дела одолели, дела»?

Гуровіч узрадаваўся гэтаму візіту:

— Ой, як добра, што вы зайшлі, Васіль Васільевіч! Тут такі тэбус, што галава трашчыць.

І ён падрабязна расказаў старшыні пра незвычайнага дзіка і пра яго зацікаўленасць да старой хаты.

— Як бы нам, не ўздымаючы шуму, праверыць тую хату? — закончыў пытаннем участковы.

Васіль Васільевіч пачаў гаворку з інфармацыі:

— Гаспадары той хаты даўно пайшлі з жыцця, радні ніякай не засталося і яна, як ты кажаш, развалюха, перайшла на баланс сельсавета. Гэта мы на ўсякі выпадак павесілі шыльду «прадаецца», але пакупнікі так і не знайшліся. Ўсё збіраліся знесці яе ды пусціць на дровы, але ўсё не даходзілі рукі.

Іван зноў задаў той ж пытанне:

— Дык як бы нам яе, не уздымаючы шуму, праверыць гэту хату ўсярэдзіне. Там штосьці ёсць, але што?

— Ты кажаш, не ўздымаючы шуміхі? — перапытаў старшыня,— Не наслядзіўшы, у тую хату не патрапіш. Трэба, браце Іване, менавіта падняць шум. Заўтра з раніцы мае людзі, быццам бы між іншым, пусцяць слых у некалькіх хатах па розных вуліцах, што нарэшце знайшоўся пакупнік, і гэты «маёнтак» збіраюцца ці пераводзіць кудысьці, ці рамантаваць. Пад выглядам пакупніка пашлем кагосьці ў хату, быццам для азнакамлення.

— Пашлем не кагосьці,— запаліўся Іван,— а я патэлефаную ў раённы крымінальны вышук, няхай прыедуць на легкавушцы ў цывільным aператыўнікі, возьмуць для адводу вачэй з сабой адну-дзве жанчыны і прафесійна зробяць вобыск. Ты, як старшыня сельсавета, і гаспадар хаты будзеш іхнім павадыром, а я, каб нікога не спалохаць — туды ні нагой.

— Цудоўна! — падтрымаў ідэю Васіль Васільевіч.

*

У сельскай мясцовасці слых — самы надзейны інтэрнэт. Таму, сусед суседу, суседка суседцы, і гэтак далей па «інтэрнэтнаму» ланцужку, перадавалі навіну, што знайшоўся нейкі «дурань» купіць тую гнілую хату.

А «пакупнікі», два мужчыны і дзве жанчыны, у суправадджэнні старшыні сельсавета, нарэшце адчынілі запаветныя дзверы таямнічага будынку. Адразу ж, на падлозе, пад куфрам, сярод смецця і рознага хламу, знайшлі штосьці закручанае ў белую тканіну. Раскруцілі — і ахнулі. Гэта была, украдзеная з царквы, старадаўняя ікона Маці Божай, якую ўжо і не марылі адшукаць і ўбачыць. Тайнік быў надзейны і, каб ўсё гэта адбывалася летам ці восенню, а не зімой, хутчэй за ўсё цэнны скарб знік бы бясследна. І толькі сляды «дзіка» на снезе вывелі сышчыкаў да бясцэннай рэлігійнай выявы.

Аператыўнікі зразумелі, што выносіць на белы свет ікону пакуль не варта, таму хуценька паклалі яе на месца і, як ні ў чым не бывала, выйшлі на вуліцу. Хадзілі, аглядалі вуглы, вокны, вялі «торг» з старшынёй сельсавету і чакалі. Чакалі, калі ж на жыўца клюне «дзік».

Доўга чакаць не давялося. Прыкладна праз гадзіну да хаты і «пакупнікоў» хуценька падыйшоў малады чалавек, які ўсхвалявана спытаўся:

— Хто з вас купляе гэту хату?

Адна з жанчын, таксама аператыўніца, нядбала адказала:

— Я купляю... Па-сутнасці я яшчэ прыцэньваюся і аглядаю яе.— І сама спыталася: — А вы што, хочаце больш заплаціць?

Хлопец карцінна прыклаў рукі да грудзей:

— Не, я не пакупнік. Разумееце, тут калісьці жылі блізкія мне людзі, радня, і я прашу у вас дазволу забраць мне з хаты партрэт майго далёкага сваяка. Вам ён што? А для мяне — гэта родная кроў. Дык дазволіце?

Гэтага аператыўнікі толькі і чакалі.

Жанчына, яна ж «пакупніца» сардэчна сказала:

— Я разумею вашы кроўныя пачуцці. Заходзьце і бярыце ўсё, што дорага вашаму сэрцу.

Шчаслівы хлопец кінуўся ў хату.

Васіль Васільевіч ціхенька выдыхнуў:

— Я ж яго ведаю. Ніколі б не падумаў, што ў такіх прыстойных бацькоў гэткі сын.

Праз хвіліну хлопец, з белым скруткам выйшаў з хаты. Ён трыумфаваў:

— Вось толькі гэту дробязь і забіраю. Дзякуй вам!

Але перад ім стаў мужчына ў цывільным:

— Я — оперупаўнаважаны крымінальнага вышуку. Пакажыце, калі ласка, што ў вас у руках.

Хлопец запнуўся:

— Гэта... гэта... разумееце...

Аператыўнік падазваў дваіх чалавек, якія стаялі крыху ўбаку:

— Прашу вас, панятыя, падысці сюды. А цяпер,— звярнуўся да хлопца,— сваімі рукамі раскруціце і пакажыце ўсім нам свайго сваяка.

— Гэта ікона, грамадзянін інспектар,— выдыхнуў выкрыты злачынца.

*

Да ражства Хрыстова заставалася усяго дзесяць дзён. Гэтае свята абяцала быць у гэтым годзе асаблівым. Вярнулася святыня, вярнулася заступніца — і айцец Мікалай, і ўвесь прыход былі на незвычайным духоўным уздыме.

Івану Гуровічу было датэрмінова прысвоена званне старшы лейтэнант міліцыі. Гэта яго прафесійная пільнасць выкрыла злачынцу, які, здавалася б, безпамылкова прыдумаў варыянт з драўлянымі капытамі дзіка, якія

прывязваў да абутку. Гэта ён сапраўды хваткі участковы, падарыў людзям веру ў няўхільную сілу закона.

Дзед Аўдзей, сустрэўшы Гуровіча, пакланіўся яму да зямлі:

— Дзякуй табе, сынок, за службу! Дзякуй ад усіх людзей! І як гэта ты так хутка разблытаў гэткі складаны клубок?

Іван шчыра ўсміхнуўся:

— А мне, шаноўны дзед Аўдзей, прысніўся вешчы сон.

# Багіра

Анатолю Антонавічу споўнілася семдзесят пяць гадоў. Што і казаць узрост паважаны.

Ён, як, пэўна, і ўсе людзі яго веку, жыў больш мінулым, чым сучасным, не кажучы пра будучыню. Будучыня мала што ўжо абяцала, акрамя, канешне, аднаго...

Да сучаснага душа не хінулася,— сёння ён адчуваў сябе непатрэбным гэтаму часу і не таму, што ён састарэў, а жыццё відавочна амаладжваецца. Гэта імклівае сучаснае «амаладжэнне» чалавечых узаемаадносінаў пачало страчваць, а, магчыма, ужо страціла аснову далейшага існавання чалавецтва — узаемапавагу, адчуванне узаеманеабходнасці адно аднаму, успрыманне кожнага жыцця, як найвялікшай цэннасці, дадзенай кожнаму з нас продкамі, Радзімай, Богам. Сучаснасць уяўляецца Анатолю Антонавічу залішне эгаістычна-матэрыяльнай, занадта бяздушна-агрэсіўнай і, што больш усяго засмучала яго — маладухоўнай.

Разважаючы над гэтым, ён ўсё ж дакараў сябе за перабольшванне сваіх патрабаванняў да сучаснага жыцця, за прыдзірыстасць да выключных недахопаў.

Пэўна, думаў ён, і сто гадоў таму, гэткі ж стары буркун сядзеў і, успамінаючы сваё «калісьці», млеў па ім.

Але... Але Анатолю Антонавічу, успамінамі было цёпла і ўтульна ў сваім «калісьці», якое, як ён разумеў, было не такім ужо і бязвоблачным. Усё было ў той складаны пасляваенны час, асабліва ў вёсцы, якая выжывала на разрусе і бясхлеб'і Гэта былі самыя цяжкія саракавыя, пасляваенныя гады. Але і ў той суровы час, і блізка не было эгаістычна-матэрыяльнага духу і бяздушна-агрэсіўных узаемаадносінаў між людзьмі.

А духоўнасць! — і вочы Анатоля Антонавіча засвяціліся маладымі агеньчыкамі. Здавалася б, ці да духоўнасці

было тады? Але жывы чалавек, асабліва малады, ці ж мог жыць без песні, без кніжкі, без мары? І менавіта тады, змардаваным працай і перахрышчаным горам людзям, не менш, чым ратавальны хлеб, патрэбныя былі і песні, і кніжкі, і мары.

У душы Анатоля Антонавіча віравалі самыя розныя ўспаміны, прозвішчы аднавяскоўцаў, імёны сяброў, але ён чамусьці засяродзіўся на адным успаміне, магчыма таму, што гэта быў першы яго крок «у духоўнасць».

*

Анатоль жыў у маленькай вёсачцы, даволі глухой, з непралазнымі дарогамі, якія мог адужаць толькі трактар.

Ужо пачынаючы з сёмага класа, ён пачаў рэгулярна наведвацца ў вёску Шапялі, дзе знаходзіўся вялізны клуб. Загадчыцай клуба была мясцовая жанчына, дакладней, не была, а лічылася загадчыцай.

Раённы аддзел культуры, улічваючы яе гарачае імкненне заняць гэту пасаду, і адсутнасць больш годнай кандыдатуры, даручыў ёй такую адказную справу.

Але новая загадчыца клуба не мела «творчай жылкі», перастала «гарэць», і рабіла спраўна толькі адно — атрымлівала зарплату. Потым яшчэ горш — пачала зазіраць у кілішак, і вялікі будынак клуба выконваў ролю захавальніка цішыні.

Трэба сказаць, што моладзі ў тыя, пяцідзесятыя гады дваццатага стагоддзя, у вёсках было, не проста шмат, а вельмі шмат. І хоць моладзь у вёсках утрымлівалася тымі законамі і тымі парадкамі гвалтоўна, у гэтым была і свая станоўчасць.

А каб моладзі ў вёсках жылося весялей, улады ўсіх узроўняў актыўна падтрымлівалі самадзейны маладзёжны рух.

Ладзіліся мясцовыя, раённыя, абласныя агляды самадзейных калектываў, і ў сельскай мясцовасці гаспадарылі і песні і танцы.

Вось чаму Анатоль ужо з сёмага класа наведваўся, аж за пяць вёрстаў, у вёску, дзе сіратліва сумаваў безгаспадарны клуб. А сёння ён ужо вучыцца не ў сёмым класе, а заканчвае дзясяты.

Дзверы клуба не зачыняліся і моладзь «самапасам» збіралася ў ім, спявала і танчыла.

Анатоль, які меў здольнасці да гармоніка і ўмеў, хоць і недасканала, іграць на гітары, на адным такім нефармальным сходзе моладзі прапанаваў:

— А давайце арганізуем самадзейнасць! Вунь колькі ў нас спевакоў, асабліва дзяўчат. Калі пашанцуе, паедзем і на раённы прагляд. Як?

Усе горача заапладыравалі, усе марылі аб сцэне, няхай сабе і вясковай.

— А дзе браць рэпертуар?

— А хто будзе кіраўніком? — пасыпаліся пытанні.

Анатоль патлумачыў:

— Кіраўнікамі будзем мы ўсе, і рэпертуар складзем мы разам. Вунь колькі песень мы спяваем. Да таго ж — побач з клубам бібліятэка, я пакорпаюся сярод кніг, магчыма штосьці новае адкапаю. Ну як?

Зноў пасыпаліся ўсхваляваныя пытанні:

— З чаго пачнем?

— Калі пачнем?

— Дзе адбудзецца першае наша выступленне?

Анатоль усміхнуўся:

— Пра першае выступленне пакуль рана гаварыць. Але, калі яно будзе — а яно будзе абавязкова — то зладзім мы яго тут, на гэтай сцэне.

Так і парашылі. Анатоль у бібліятэцы «адкапаў» некалькі песенных зборнікаў, шмат чаго выпісаў для сябе

на паперу. Затым. употай ад усіх, развучыў сёе-тое на гармоніку і гітары — і рэпетыцыі пачаліся.

Паступова аднагалосна высветлілася, што кіраўнікамі будуць «не ўсе», а толькі Анатоль, які выкрыў у сабе такія арганізатарскія здольнасці, пра якія і сам не здагадваўся.

Ён склаў і рэпертуар, і графік рэпетыцый, і пачаў прыкідваць у галаве перспектыўны маршрут выступленняў.

І вось быў прызначаны той хвалюючы і адказны дзень, які павінен быў даць адказ на пытанне: ці адбылося нараджэнне новага творчага калектыву?

У вёсках тых часоў, лепш за любы мабільны тэлефон, працавалі чуткі. Вось і цяпер, слых пра першы канцэрт у клубе, абляцеў навакольныя вёскі імгненна. І хоць клуб усярэдзіне быў вялізны, і, здавалася б, лаваў было досыць, але людзей напрыходзіла і напрыязджала, нават з суседніх вёсак на конях, столькі, што можна было бачыць ля сцен і тых гледачоў і слухачоў, якім даводзілася стаяць.

Усе самадзейныя артысты настолькі расхваляваліся, што баяліся забыцца і на словы песень, і на мелодыі.

А што ўжо казаць пра Анатоля! Ён выконваў ролю і вядучага, і акампаніятара, і спевака пад уласны акампанемент.

Яго хвалявала і такая вялікая колькасць вяскоўцаў, якія не проста гледачы, але і яго знаёмыя, з якімі сустракацца і пасля канцэрта, але больш усяго, яго хвалявала тое, што сярод людзей знаходзілася і яго мама. Ён разумеў, што яна хвалюецца зараз больш і за спевакоў, і за яго — кіраўніка гэтай урачыстасці.

Нарэшце ўсе расселіся і ў клубе ўсталявалася цішыня. Анатоль выйшаў на край сцэны, бліжэй да людзей і, нібы не сваім голасам, пачаў:

— Вітаю вас, дарагія людзі! Пачынаем першае сваё выступленне менавіта перад вамі, нашымі аднавяскоўцамі, нашымі землякамі. Мы не артысты...

— А калі не артыст, злазь са сцэны! — пачулася з залы.

Гэта быў Васіль Селівончык, які «не прасыхаў», і цяпер уставіў сваё.

На яго зашыкалі з усіх бакоў:

— Яшчэ раскрыеш рот, выпхнем з клуба!

Анатоль, магчыма, збіраўся казаць яшчэ штосьці, але пасля такіх выбрыкаў Селівончыка, аб'явіў першы нумар выступлення:

— Песню: «Ой рэчанька, рэчанька» выканае ўсім знаёмая Ніна Раінчыкава.

Сам жа хуценька ўзяў у рукі гармонік і стаў побач са спявачкай.

Голас Ніны быў усім вядомы — чысты, напеўны, прыгожы, не горшы, чым у прафесійнай спявачкі. А сёння ён гучаў асабліва пранікнёна і душэўна, таму песня зачаравала ўсіх прысутных.

Шчырыя і працяглыя апладысменты абнадзеілі і Анатоля, і усіх тых, хто чакаў сваёй чаргі і выхаду на сцэну.

Па-сутнасці, песні, якія гучалі са сцэны, былі добра вядомыя тагачасным людзям. Хто ж тады не замілоўваўся словамі: «...Гэта ты мая, зорка ясная, ты любоў мая непагасная», альбо «...на каліну-маліну прылятала зязюля, на дзяўчыну Галіну заглядаўся Януля».

Для Анатоля пік хвалявання быў тады, калі ён, абвясціўшы сваё выступленне, пачаў выконваць песню «Матуля»:

Быццам светлая раніца новага дня
Ты даўно на нагах, нібы сну не было.
То не сонца ўзыйшло, а твая дабрыня,
То вачэй тваіх, маці, ласкавых святло...

І далей гучаў прыпеў песні:

Ой, матуля, прысядзь
адпачні ад дарог,

Ад руплівых гадоў,
ад вірлівых падзей.
Каб я сілы свае
перадаць табе мог,
Ты бы стала
на многа гадоў маладзей...

Анатоль спяваў і ў яго слёзы засцілалі вочы, бо ён бачыў у зале сваю маці, якая ледзь паспявала выціраць рогам хусціны свае слёзы. Астатнія жанчыны ўспрымалі словы песні так, быццам яны тычыліся іх, а таксама выціралі ўзмакрэлыя вочы.

Калі песня скончылася, у зале працягвала панаваць цішыня. Анатоль пахаладзеў — няўжо не спадабалася слухачам яго выкананне?

І раптам на яго абрынуўся шквал апладысментаў. Паўза пасля песні была выклікана заглыбленасцю слухачоў, асабліва жанчын, у сутнасць блізкай усім тэмы.

Анатоль у душы трыумфаваў — і не толькі, як спявак, выканаўца, але і таму, што і верш, і музыка да яго былі напісаны ім.

Сёння гэта называецца нязграбным словам «бард», тады гэта было імклівасцю душы выказаць шчырыя пачуцці.

*

На шчасце, першы блін не аказаўся камяком. Слых пра незвычайны канцэрт разляцеўся па вёсках, па навакольных і далёкіх.

Цяпер Анатоль планаваў «гастролі» свайго калектыву з размахам. Кожны вялікі населены пункт прагнуў запалучыць самадзейных артыстаў. Ды не ў кожным населеным пункце было памяшканне, прыдатнае для выступлення. Але акрыленым выступоўцам дастаткова было і

пляцоўкі пад адкрытым небам, бо збіраліся людзі і чакалі глыточку духоўнай прыгажосці сярод штодзённай працы. Анатолеў калектыў сустракалі з нязменнай радасцю і шчырай гасціннасцю.

Праўда, аднаго разу атрымалася непрадбачаная замінка. У вёску Рогава, дзе быў невялічкі клуб, перадалі пра нейкага пасрэдніка, што ў бліжэйшую нядзелю адбудзецца выступленне шапялёўскага самадзейнага калектыву.

І вось у згаданы дзень, прыехаў Анатоль са сваімі артыстамі ў Рогава, а на дзвярах клуба — замок. Ці той пасрэднік не перадаў рогаўцам аб канцэрце, ці загадчык клуба забыўся, невядома. Дапамог усё той жа знакаміты вясковы слых, дзякуючы якому, праз нейкіх паўгадзіны і клуб адчыніўся, і людзі сабраліся.

Вымушаны быў Анатоль адхіліцца ад кананічнага пачатку канцэрту і праспяваць першай песню, якую ні ў водным выступленні і не спяваў, бо яна не ўпісывалася ні ў якія канцэртныя рамкі. А сёння — самы раз! Словы песні клаліся на вядомую ўсім мелодыю «Адзінокі гармонік».

Дзень паціху на захад падаўся,
Цёплы вечар на вуліцы стаў.
Каля клуба, што не адчыняўся,
Адзінокі гармонік зайграў.

Непрыемна яму і нялюба
Аднаму між задворкай блукаць.
Ён шукае загадчыка клуба
І не можа ніяк адшукаць.

— І куды ты, каханы зашыўся? —
З гукаў музыкі чуецца так,—
Эх, каб ты скрозь зямлю праваліўся,
Абібок, дармаед і лайдак.

Апладысменты і смех напоўнілі клуб.

З залы чулася:

— Брава!

— Будзе ведаць, як ставіцца да працы!

— А можна на «біс»?

Чуткі пра шапялёўскі клуб, які доўга лічыўся «мёртвым», а цяпер гудзе сваёй самадзейнасцю на ўсю акругу, дайшлі і да раённага аддзелу культуры.

Таму Анатолю было перададзена праз сельскі савет, што ў Шапялі кіруецца прадстаўнік аддзелу культуры, і што пажадана ў гэты дзень сабраць усіх самадзейных артыстаў.

Такое ж паведамленне атрымала і афіцыйная загадчыца клуба.

І вось настаў такі хвалюючы дзень, нават больш хвалюючы, чым выступленне перад людзьмі.

У прызначаны дзень і час у клубе, прыцішана, як вераб'і, шчыльным гуртком сядзелі тыя, хто нарабіў столькі шуму на ўвесь раён. Сярод сваіх артыстаў-аматараў сядзеў, сціснуўшыся ў камяк, і Анатоль. Ці ж гэта жарты, у вясковую глыбінку прыехала раённая шышка. І прыехала невядома чаго — ці стружку здымаць, ці хваліць? Асобна ад гурта моладзі сядзела і загадчыца клуба.

Вось гэтая «шышка» — Сцяпан Сцяпанавіч, усміхнуўся і пытаецца:

— Ну, хто з вас такі малайчына? Сазнавайцеся!

Усе разгублена пераглянуліся і, як па камандзе, паказалі на Анатоля.

— Вось ён... наш Анатоль...

Сцяпан Сцяпанавіч падыйшоў да хлопца і паклаў яму на плячо руку.

— Вось ты які, самародак! Дык гэта ты зрабіў падарунак усім нам?

Анатоль зачырванеўся і выдыхнуў:

— Гэта яны.. Што я адзін?.. Гэта мы ўсе.

— Малайцы! Малайцы вы ўсе і кожны паасобку! Дык ведайце, што раённы аддзел культуры заўсёды і ва ўсім падтрымае вас.

Затым запытаўся:

— А як і на чым вы дабіраецеся да розных населеных пунктаў? Не пешшу ж?

Анатоль з гонарам адказаў:

— Калгас выдзяляе нам машыну! Тут праблем няма.

Сцяпан Сцяпанавіч, быццам толькі цяпер заўважыў загадчыцу клуба:

— Ну, а ваша якая роля ў тым, што адбываецца? Чым дапамагаеце моладзі?

Загадчыца блытана пачала тлумачыць:

— Я што?.. Я ім дазваляю карыстацца клубам... Я нават ключы ад клуба перадала ім. Я заўсёды...

Доўга яшчэ сядзеў з моладдзю прадстаўнік раёну, цікавіўся пра асабістае жыццё кожнага, пытаўся пра планы на будучыню і зноў жа абяцаў падтрымку.

*

Анатоль скончыў дзесяты клас і, як і ўся моладзь яго ўзросту, рыхтаваўся стаць паўнапраўным калгаснікам. Марыў паступіць на курсы трактарыстаў і зрабіцца кваліфікаванай калгаснай «шышкай».

Але раптоўна, зноў жа праз сельскі Савет, атрымаў запрашэнне аж у Мінскі раённы аддзел культуры.

Паколькі Мінскі райвыканкам, а ў ім і раённы аддзел культуры, знаходзіліся ў Мінску, Анатоль, з галавой, поўнай пытаннямі, накіраваўся ў сталіцу.

Якое ж было яго здзіўленне і разгубленасць, калі яму, васемнаццацігадоваму хлопцу, прапанавалі пасаду загадчыка Шапялёўскага сельскага клуба.

Гонар ад такой прапановы ён адчуў значна пазней, зараз жа ён не мог вымавіць слова, таму што здзіўленне і

разгубленасць падмацоўваў спалох. У галаве яго віхурылі думкі, душу перапаўняла бура пачуццяў.

Нарэшце, як скрозь туман, да яго даляцелі словы загадчыка аддзела культуры:

— Не вагайся, Анатоль! У цябе ўсё атрымаецца, у цябе ўжо шмат чаго атрымалася. Кіруй і ведай, што мы заўсёды побач!

Вось так Анатоль вяртаўся ў сваю вёску, да сваіх сяброў загадчыкам клуба. Пасада па тых часах — ого-го якая!

*

Першае, што асабліва кінулася яму ў вочы, хоць і раней гэта заўважаў — няўтульнасць, абшарпанасць унутранага выгляду клубнага памяшкання. Хацелася чысціні і ўтульнасці. Але як пазбавіцца і гэтай шэрасці і будзёнасці. Анатоль разумеў, што сельскі клуб — гэта храм культуры, у якім павінна адчувацца святочнасць і ўрачыстасць. Малады ці сталы чалавек, пераступіўшы парог клуба, і сам павінен быў адчуць сябе па-іншаму, па-святочнаму.

Анатоль сабраў актывістаў самадзейнасці, якім выклаў сваю заклапочанасць і свае мары. Аказалася, што і ім не падабаюцца шэра-змрочныя драўляныя сцены, зацухмоленыя лавы, затаптаная і ні разу не мытая падлога. На сцэне адсутнічала заслона з тканіны, а без яе ўся падрыхтоўка да выхаду спевакоў ці танцораў была бачная гледачам, што пазбаўляла і адных, і другіх нечаканасці падзеі. На «голыя» вокны прасіліся фіраначкі. Ды й нейкі лозунг-заклік, модны ў тыя часы, не пашкодзіў бы.

Усё гэта абмеркаваўшы, актывісты вырашылі, што шпалеры на сцены купяць у складчыну, лавы пафарбуюць, падлогу выскрабуць ды вымыюць, а вось вялізную заслону ім не адужаць. Тканіна, тым больш з мудрагелі-

стымі размалёўкамі, каштуе не мала, фіранкі на вялізныя вокны, таксама.

Анатоль падахвоціўся ехаць у раённы аддзел культуры, і напомніць ім пра абяцанне падтрымліваць моладзь ва ўсіх іх намаганнях.

І работа закіпела.

*

Вёска Шапялі была не дужа вялікая — нейкіх трыццаць двароў. Але, калі ўлічыць тое, што ў тыя гады, амаль у кожнай хаце было па аднаму, а то і па два чалавекі моладзі, можна ўявіць, які гэта быў рухава-маладзёжны час. Побач жа іншыя, няхай сабе крыху меншыя вёскі, але і там «буяла» моладзь.

Вось чаму кожную суботу і нядзелю, то там, то тут, ладзіліся вечарынкі. Маладыя сэрцы шукалі выхад сваім пачуццям і эмоцыям.

Перыядычна ладзіліся і ў згаданым клубе і розныя мерапрыемствы, і тыя ж вечарынкі. Наймалі, зноў жа ў складчыну, гарманіста, якіх у той час было не мала, і моладзь танчыла амаль усю ноч, да раніцы.

Адрамантаваны ж клуб, сапраўды здаваўся храмам духоўнасці. Ён у сярэдзіне пасвятлеў ад чысцюткіх шпалераў, ад рознакаляровых фіранак, ад пафарбаваных лаў і вымытай падлогі. Асаблівым Анатолевым гонарам была прыгожая, багатая на выгляд заслона, якая адгароджвала сцэну ад залы. Клуб набыў даволі цывілізаваны выгляд.

Але разам з гэтым утульным выглядам, Анатоль набыў сабе новы галаўны боль.

Не сакрэт, што ў вёсках і сёння мужчыны (а цяпер ужо і жанчыны) кураць дзе папала. Гаспадары дымяць у сваіх хатах, супрацоўнікі розных прадпрыемстваў — на сваіх працоўных месцах.

Тады было тое ж самае. Але самы жах быў у тым, што падпітыя хлопцы курылі свае самакруткі ў той, даволі невялікай хаце, дзе адбываліся танцы. Калі стаіш у адным куце, тых, хто знаходзіўся ў куце процілеглым, немагчыма было ўбачыць. А калі і бачыў праз сцяну дыму, не пазнаваў, хто там стаіць. І гэта лічылася нормай. Анатоль бачыў, як, бывала, ноччу прачынаўся яго тата, круціў самакрутку і сядзеў на ложку, курыў. І гэта лічылася нормай.

І ён цвёрда вырашыў не дапускаць курэння ў клубе падчас любых мерапрыемтваў.

*

Анатоль кожны дзень шыбаваў на працу прыкладна ў дванаццаць гадзін дня. Адлегласць у пяць кіламетраў адольваў даволі лёгка. У кішэні альбо нейкай сетачцы нёс між двух лустачак хлеба кавалачак сала, а калі было, і бутэлечку малака. Трэба ж было хоць трохі перакусіць, бо з працы вяртаўся кожны раз за поўнач.

Назад ішлося больш марудна, бо было цёмна настолькі. што дарогі не было відаць. Ды і дарогі, як такой, не было — толькі коньмі пракладзеная. Бывала, глядзеў уверх, на неба, і па прасветах між дрэў арыентаваўся, куды паварочваць.

Але і гэта было не галоўнае. Галоўным быў страх. Ваўкоў у тыя часы ў лясах хапала, рысяў было не менш. І хоць гэтае звяр'ё, не чуваць было, каб нападала на чалавека, усё роўна страх халадзіў кроў не горш таго марозу.

Анатоль ведаў, чытаў, што драпежнікі, асабліва ваўкі, праяўляюць цікаўнасць да чалавека, і нярэдка ўпотай суправаджаюць яго па лесе.

І таму, калі ў поўнай цямнечы, крыху збоку ў лесе пад нечай нагой альбо лапай суха трэскаўся сучок, Анатоль халадзеў, бо адчуваў, што хтосьці, нейкі звер, кіруецца побач.

Анатолева маці ніколі не клалася спаць, чакала сына, хвалявалася.

— Як мне не падабаюцца, сынок, твая начная хада праз лес.— скардзілася яна.

Анатолю самому гэтыя начныя пераходы не падабаліся, але не кідаць жа любімую працу з-за нейкіх там ваўкоў.

Ён даўно прыкмеціў у Шапялях прыблуднага сабаку, невядомай яму пароды. Пазней высветлілася, што гэта не сабака, а сучка, чорнай масці, высачэзная, на доўгіх тонкіх лапах. Казалі, што ў ёй ёсць штосьці ад дога. Ёй адразу далі сабачае імя — Багіра.

Вось гэта Багіра даўно ўжо пакутавала ў Шапялях.

Чаму пакутавала? Таму, што амаль у кожнага гаспадара быў свой невялічкі сабачка. Пры тым, той, хто меў сабаку, меў менавіта невялічкага, бо пракарміць вялікага сабаку было складана — хаця б парсюк не галадаў. А тут Багіра. Ледзь не цяля. Таму яна моцна падгаладоўвала і была даволі худая. У дадатак да ўсяго, яе праганялі прэч ад сваіх сядзібаў, не хацелі пракормліваць.

Анатолю было шкада Багіру і ён дзяліўся з ёй сваім сціплым абедам і ніколі не праганяў ад сябе.

Праўда, усё ж праганяў яе, калі ноччу, адыходзячы з працы, яна ўвязвалася за ім — баяўся, што застанецца ў яго вёсцы, ля яго хаты, а там — іх «посны стол» не пракорміць гэтае «цяля».

Калі ж у цемры лесу патрэскваў сучок пад нечай лапай, Анатоль уздыхаў: «— Эх была б са мной Багіра...»

*

Танцы ў клубе, як заўсёды, пачыналіся з «Полькі». Маладыя ногі патрабавалі рухавасці, і яны з імпэтам і падскокам выстуквалі абцасікамі па падлозе бадзёры рытм неўміручасці жыцця.

«Галаўны боль» Анатоля, нягледзячы на кідкі надпіс на сцяне «не курыць!», праявіўся адразу. Хлопцы, «заліўшы за каўнер», задымілі самакруткамі.

Анатоль падыйшоў да гарманіста і сціснуў гармонік. Усе здзіўлена павярнуліся ў яго бок — чаму сціхла музыка?

Анатоль рашуча і зычна, каб чулі ўсе, абвясціў:

— Я прашу ў клубе не курыць! Можна пакурыць на вуліцы. Інакш танцаў не будзе!

— А гэта што, твой клуб? — пачуўся голас ўсё таго ж Селівончыка, які падчас першага тут канцэрту таксама выкрыкваў з месца, пры тым курачы сваю самакрутку.

Хтосьці падтрымаў крыкуна:

— А ты што, Анатоль, напудрыўся? Ха-ха-ха!

Некалькі дзявочых галасоў падтрымалі Анатоля:

— Ды не курыце вы, хлопцы! Вунь якая прыгажосць кругом. Майце сумленне!

Нехта з курцоў пайшоў усё ж з клуба, нехта тут жа працягваў пыхкаць.

Гарманіст цяпер ужо зайграў любімы моладдзю вальс — і танцы працягнуліся.

Анатоль гатовы быў да такога павароту, таму, як кажуць, не палез на ражон. Такі застарэлы вузел не рассекчы адным махам. Таму ён падыходзіў да больш цвярозых хлопцаў і кагосьці ўгаворваў, камусьці ціснуў на сумленне.

Пазней, Анатоль прыкінуў, колькі сярод яго актывістаў некурашчых і на адной з рэпетыцый, уціхую ад астатніх папрасіў іх падтрымкі, дапамогі.

Гэта спрацавала. Калі Анатоль на чарговых танцах сціснуў мяхі гармоніка і папярэдзіў, што працягу вечарынкі не будзе, калі курцы не пакінуць клуба, яго актывісты рашуча падтрымалі Анатоля.

Але падпітаму, кажуць, мора па калена, і той жа Селівончык са сваім «актывам» не толькі не перасталі курыць, а схапілі загадчыка клуба за грудзі, і толькі

ўмяшанне Анатолевых сяброў ўратавала яго ад кулакоў захмялелай хеўры.

І ўсё ж Анатоль настойліва працягваў ажыццяўляць перавыхаванне той меншасці хлопцаў, якім такое перавыхаванне было неабходна.

*

Самадзейны калектыў, узначалеваемы Анатолем, актыўна рыхтаваўся да прагляду раённай самадзейнасці, які меў адбыцца ў Заслаўі.

Раённы аддзел культуры не мог нацешыцца на маладога загадчыка клуба і сапраўды падтрымліваў яго маральна і матэрыяльна.

На апошнюю, перад раённым праглядам, генеральную рэпетыцыю, прыехаў сам старшыня сельскага Савету Шапавальскі Віталій Сяргеевіч.

Анатоль свята верыў у камуністычныя ідэалы, як і большасць людзей таго часу, таму канцэртную праграму вырашыў адкрыць песняй:

Будет людям счастье,
Счастье на века.
У советской власти
Сила велика...

І ўсё ж канцэртны рэпертуар пераважвалі песні вясковыя, народныя.

Сафія Станкевіч, як самавучка, акампаніравала сабе на баяне і спявала любімую ўсімі песню:

Ці ўсе лугі пакошаны,
Ці ўсе сенажаці?
Пытаецца сын у мацеры,
Ды каторую браці?..

Галасістая, мясцовая эстрадная зорка, Ніна Раінчыка-

ва, пад акампанемент на гармоніку Анатоля звонка і настраёва праспявала частушкі:

І гароднiна прыбрана,
І жніво завершана.
Я, іду на ферму рана,
На сцэну першая.

Танцоры заліхвацкі «выдалі» «Лявоніху».

Затым хорам праспявалі знакамітую партызанскую Алоўнікава «Ой бярозы і сосны...»

Калі скончылася рэпетыцыя, Віталій Сяргеевіч шчыра апладыраваў і гэтак жа шчыра сказаў:

— Дзе ўзяць словы, каб выказаць вам дастойную падзяку! Я бачыў і чуў сапраўдных артыстаў! Малайцы! Усе, як адзін, малайцы! Сёння ж патэлефаную старшыні Мінскага райвыканкаму і падрабязна дакладу яму свае ўражанні. І хоць я ў самадзейнай творчасці — аматар, усё ж бяру на сябе смеласць прадказаць вам вялікі поспех на раённым праглядзе самадзейных калектываў, дзе будуць вылучаць лепшых на абласны прагляд.

Спадзяюся... Ды што там спадзяюся! Упэўнены, што мы сустрэнемся на абласным фестывалі.

*

Пасля рэпетыцыі і дэталёвых абмеркаванняў з моладдзю будучага раённага свята, Анатоль нырнуў у цемру і падаўся дадому.

Сёння цемра здавалася густой і чорнай, як ніколі. Але на душы ў хлапца было светла і радасна. Столькі ўкладзена працы, столькі душы кожнага ўдзельніка самадзейнасці, што хлопец адчуваў гонар і за сябе, і за сваіх сяброў. Ад нахлынуўшага шчасця ён сабраўся заспяваць, як раптоўна прама перад ім вырас нейкі цень, абрысам напамінаўшы чалавечую постаць. Было настолькі цёмна,

што Анатоль падумаў, што яму падалося. Ён, на ўсякі выпадак, спалохана спытаўся:

— Хто тут?

Але раптам адчуў моцны ўдар у твар, ад якога, а больш ад нечаканасці паваліўся, як падкошаны. У вачах закарагодзілі рознакаляровыя агні, ад чаго навокал зрабілася яшчэ больш чорна.

Анатоль адчуў удар нагой па скабах. Ён ускочыў, разумеючы, што ляжачы не зможа нават адхіляцца ад удараў.

Цяпер ён заўважыў не толькі спераду, але і з двух бакоў гэткія ледзьве бачныя чорныя постаці незнаёмцаў. Магчыма, гэта былі яго знаёмыя, але распазнаць іх у цемры не было магчымасці. Да таго ж, паводзілі яны сябе моўчкі, ведаючы, што галасы выдадуць іх.

— Што вам трэба? Хто вы? — крыкнуў Анатоль.

Але новы ўдар, цяпер ужо збоку, зноў зваліў яго з ног. Анатоль ліхаманкава зразумеў, што тут, у лесе ён можа і загінуць.

Раптам пачулася нейкае гырканне і рык, і штосьці ці хтосьці абрынулася на Анатолевых крыўдзіцеляў.

Па начной цішы разанулі крыкі незнаёмцаў:

— Во-о-ой! Ая-я-яй! Уцякайма, хлопцы!

Анатоль ад здзіўлення і новага страху так і заставаўся ляжаць. Нечакана той таямнічы хтосьці падбег і, горача дыхаючы, лізнуў яго ў шчаку.

— Багіра? — выдыхнуў Анатоль.— Багіра! — цяпер ужо ўголас ускрыкнуў ён і ўскочыў на ногі.

Багіра, а гэта была яна, стала на заднія лапы, а пярэднія паклала хлапцу на грудзі, пры гэтым зноў лізнула яго, цяпер ужо ў бараду.

Анатоль моцна абняў сваю выратавальніцу.

— Багірачка! Родная! Як ты тут апынулася? Дзякуй табе, родненькая!

Так яны і стаялі пасярод начнога лесу — дзве шчырыя душы, два чыстыя сэрцы.

Анатоль схамянуўся:

— Пайшлі! Пайшлі дамоў! Цяпер у цябе будзе свой дом і ніхто болей не будзе зваць цябе прыблудай.

І яны бадзёра пайшлі — Анатоль дадому, а Багіра — насустрач новаму жыццю.

Багіра бегла наперадзе свайго, цяпер ужо гаспадара, і Анатоль хутчэй адчуваў яе прысутнасць па гарачаму дыханню сучкі, чым бачыў сваю спадарожніцу. І хоць балела сківіца і, пры ўдыханні паветра адчуваўся боль у баку, хлопец быў шчаслівы ўдвая — і за сябе, і за Багіру.

Праз нейкі час, Анатоль сустрэў у Шапялях Сілівончыка, рука якога была забінтаваная, побач з ім накульгоўваў на адну нагу яго сябар Шыдловіч. Абодва, як па камандзе, крутнулі ўбок, каб не сустракацца з Анатолем. Але хлопец і да гэтай сустрэчы здагадваўся, хто пераняў яго ў начным лесе.

Багіра ж цяпер кожны дзень, нібы штатны супрацоўнік, ішла з Анатолем на працу і кожную ноч вярталася побач з ім дамоў. Начныя пераходы з такой аховай, болей не палохалі Анатоля.

А як жа закончыўся раённы прагляд самадзейных калектываў?

Тут адказ можа быць толькі адзін — хто мае мэту і імкнецца да яе, у таго ўсё ў жыцці атрымаецца.

*

Анатоль Антонавіч доўга сядзеў нерухома, не жадаючы выходзіць з таго светлага і шчаслівага часу свайго юнацтва.

І не толькі ён не жадаў расставацца з тымі ўспамінамі, колькі яны, успаміны, трымалі яго ў сваіх абдымках.

Ён дастаў з шуфляды картачкі, і ўспаміны набылі зрокавую вартасць і вагу.

# Два плюс адзін

*Светлай памяці сябра Віктара*

Брылеўскі Віктар, са сваёй малодшай сястрой Вандай, гадаваліся без бацькі.

Шасцідзесятыя гады дваццатага стагоддзя не вызначаліся заможнасцю. Таму і Віктар гэтай заможнасці пакуль не зведаў. Яму споўнілася ўжо дваццаць год, але па нейкай прычыне служыць у армію ён не пайшоў — меў «воўчы білет».

Працаваў ён, як і яго маці, у калгасе, заробак быў мізэрны. І хоць гэта, як кажуць, ужо гісторыя, далёкае мінулае, але гісторыю трэба ведаць у тым выглядзе, у якім яна была.

Вольны час моладзь бавіла на вечарынках ды пасядзелках у чыёй-небудзь хаце, ладзячы няхітрыя гульні ды жарты.

Сябраваў Віктар з Алегам, сваім аднагодкам і аднавяскоўцам. Што іх звязвала — невядома, але сяброўства было сапраўдным сяброўствам, хоць крыху і дзіўным. Віктар быў тэхнар, любіў рознае жалеззе, трактар, матацыкл, які, дарэчы, у яго быў. Алег захапляўся кніжкамі, няблага граў на гармоніку што надавала вагу у вачах моладзі, асабліва ў дзяўчат. Да таго ж, Алег быў даволі прывабны сваім знешнім выглядам. Віктар жа — наадварот, маючы добрае сэрца і шчырую душу, не вызначаўся знешняй прыгажосцю. Нават валасы ў яго былі крыху бялёсага адцення, за што да яго прыліпла мянушка «Сівы».

Але ж знешнасць чалавек не выбірае, што Бог даў, тое маеш. О, каб чалавек выбіраў сваю знешнасць — ад прыгажуноў было б цесна.

Нечакана на мясцовы паштовы вузел, які пакуль не працаваў з-за адсутнасці адказнага па штаце чалавека,

прыслалі аднекуль такога чалавека — загадчыка паштовага аддзялення.

Паштовым аддзяленнем гэты закуточак пры бібліятэцы, смешна было назваць. Стол, стул, нейкі сейф і — раскоша таго часу, тэлефон. Сам жа пакойчык меў за загародачкай усяго два на два метры — тоўстаму чалавеку і павярнуцца няма дзе.

Але, на шчасце, прыслалі чалавека даволі зграбнага і маладога.

Гэта была дзяўчына, вельмі прыгожая і вельмі ветлівая, з незыходзяй з пухленькіх вуснаў усмешкай. Імя яе было Тоня.

Усе мясцовыя хлопцы па патрэбе і без патрэбы абівалі парог гэтага пакойчыка.

Па сутнасці, якая ў іх магла быць патрэба? Ды ніякай! Канверт з нейкім пасланнем можна апусціць у паштовую скрынку, якая вісела ля ўваходу ў паштовае аддзяленне, а болей што? Тут і гадаць не трэба — іх прыцягвала, і сваёй вясёлай гаворкай, і сваёй прыгажосцю Тоня. І было б дзіўна, каб было іначай.

Праўда, у вёсках і сваіх дзяўчат шмат. І іх Бог не абдзяліў і прыгажосцю, і весялосцю, але ж гэта — новенькая. А да ўсяго новенькага зацікаўленасць асаблівая.

У гэтай вірлівай табале хлопцаў можна было бачыць штодня і сяброў — Віктара і Алега.

Тоня рабіла выгляд, што вельмі занятая справамі, але яе вочы пільна «прасейвалі» настойлівых наведвальнікаў. І як жа маглі яе дзявочыя вочы не вылучыць з усіх іх Алега, прыгожага, падцягнутага, з невясковым інтэлектам?

Тут, у гэтым хлапечым віры, іх узаемную зацікаўленасць хаваць было не складана.

І ўсё ж, калі-нікалі Алегу ўдавалася заскокваць да Тоні, без непатрэбных сведак. Вельмі хутка яны зразумелі, дакладней, адчулі, што закаханыя адно ў аднаго.

Сустракаліся яны пакуль употай, хаваючыся ад чужых вачэй, бо ў вёсцы слых можа нарабіць непатрэбнасцяў. Слых, бывае, разлучае не толькі закаханых, але і разбурае сем'і, сварыць суседзяў і лепшых сяброў.

Таму Алег з Тоняй, пакуль самі не пераканаюцца ў моцнасці сваіх пачуццяў, вырашылі не выстаўляць на паказ усім сваё каханне.

Складаней было рабіць гэта на вечарынках, дзе ўсе за ўсімі сочаць,— хто з кім танчыць, хто да каго «ліпне».

Тут ужо Алег праяўляў асаблівую асцярожнасць — запрашаў Тоню на танец, можа, два-тры разы за вечар і ноч. І гэта не выклікала ніякай падазронасці ў астатніх, бо, як правіла, ўсе хлопцы з усімі дзяўчатамі танчаць столькі ж разоў.

А між тым закаханыя вырашылі не толькі «выйсці з ценю», а пачалі будаваць планы на будучы шлюб — вялі ужо гаворку аб вяселлі.

Аднойчы, пры чарговай сустрэчы, Віктар запытаў у Алега:

— Скажы, Алег, як табе Тоня?

— Тоня як Тоня,— нядбала адказаў сябар — і сам спытаўся: — А чаму ты цікавішся?

Віктар зачырванеўся і выціснуў з сябе:

— Табе, Алег, як лепшаму сябру, адкрываю душу. Я ў яе закахаўся з першага дня, калі яна прыехала. Я адбіваўся ад гэтых сардэчных мукаў, я выкідваў яе з галавы, але з сэрца не змог.

Алег абмёр. Ён пахаладзеў.

— Ты, Віктар, жартуеш? — з надзеяй спытаўся ён.— Скажы, што пажартаваў.

Віктар амаль застагнаў:

— Якія жарты! Я жыць без яе не магу! Я гіну ад кахання. Гіну таму, што бачу, адчуваю — я ёй не пара. Яна

мяне нават не заўважае. Дружа, парай, што мне рабіць? Дапамажы! Выратуй мяне!

Раптам у хату ўвайшоў Васіль — балабол і вясялун.

— Што тут над вамі нейкая чорная хмара вісіць? Жыць трэба весела! Вось ты, Алег, Што такі сумны? Па вёсцы слых коціцца пра ваша з Тоняй вяселле, а ты посны, як самы вялікі пост. Шчаслівчык, такую дзяўчыну адхапіў, усіх аблапошыў — і кісне. Скакаць павінен!

Цяпер ужо абмёр і Віктар. Ён з нейкім нечалавечым жахам паглядзеў на Алега, затым падскочыў да Васіля і схапіў яго за грудзі.

— Што ты сказаў?! Паўтары! Якое вяселле? Хто з кім?

Ён, пасля кожнага пытання, трос з усяе сілы спалоханага Васіля, і ўсё пытаўся:

— Ты пра чыё вяселле? Паўтары!

Васіль выслабаніўся ад Віктара і даўся за дзверы.

— Ды ну вас! — кінуў ён праз парог.

Віктар павярнуўся да збялелага Алега.

— Што ж ты маўчыш, мой лепшы сябар? — апустошана і стомлена спытаўся ў яго.— Я табе душу адкрыў, а ты за маёй спіной цешышся... На вяселле хоць запросіш?..

Алег ускочыў, як спружына.

— Вяселля не будзе! Не будзе! — і даўся праз дзверы.

Алег, узрушаны да шаленства, заскочыў да Тоні, ледзь не зламаўшы загародачку.

— Што здарылася, Алежка? — спалохана ўсклікнула яна, убачыўшы збялелага Алега.— Што?

Алег хапаў ротам паветра, спрабуючы здыхацца і супакоіцца, нарэшце ледзь не выкрыкнуў.

— Ты павінна з’ехаць адсюль! З’ехаць назаўсёды! Разумееш?

Тоня абяссілена абвісла на стуле.

— Нічога не разумею. Пра што ты?

